27 красавіка 2018 | № 15 (578)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА •ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144







**Каму і як адгукнецца Арменія?**

**стар. 21**







# Калі «не будзе рэферэндуму»?

## Пытанне змены Канстытуцыі ўсё ж прапрацоўваецца ўладамі

Сяргей ПУЛЬША




Фота www.svaboda.org

Выступаючы з пасланнем да народу і парламенту, Лукашэнка заявіў: «Асабіста я ні пра які рэферэндум не думаў». Але наш народ прызвычаіўся, што, калі чыноўнік кажа адно — адбудзецца менавіта адваротнае. І на гэта ёсць падставы.

Варта зазначыць, што Аляксандр Рыгоравіч паспрабаваў зваліць гэтае пытанне, як кажуць, з хворай галавы на здаровую. Ён прамовіў, што пытанне магчымай карэкцыі Канстытуцыі ўздымаюць «некаторыя гарачыя галовы і СМІ, якія сядзяць за бугром, і невядома ад каго грошы атрымліваюць».

«Я ніколі не дзейнічаў несумленна ў адносінах да нашых людзей і ведаю, адкуль прыйшоў і як я перамог на прэзідэнцкіх выбарах. Я абяцаў, і ніколі не парушу сваю клятву, бо будзе, як учора ў Арменіі. З народам гуляцца нельга», — заявіў беларускі правадыр, і зазначыў, што, калі рэферэндум і будзе прызначаны, то ён будзе прызначаны загадзя, у законны тэрмін.

Сам жа Лукашэнка, апроч таго, што «пра рэферэндум не думаў», дадаў, што пра гэтую ідэю ён усяго толькі чытаў у СМІ і чуў «адказы на пытанні журналістаў прадстаўніка ЦВК». Варта нагадаць, што прадстаўнік ЦВК, які разважаў пра магчымы рэферэндум, — гэта старшыня структуры Лідзія Міхайлаўна Ярмошына.

Ці сапраўды Аляксандр Рыгоравіч не думаў пра рэферэндум? Падаецца, гэта зусім не так. Разважаючы пра карэкцыю Канстытуцыі, ён адзначыў, што змяняюцца ўсе законы і нарматыўныя акты, прыводзяцца ў адпаведнасць з жыццём. І Асноўны закон тут — не выключэнне. Як «маленькі прыклад», Лукашэнка прывёў наяўнасць у дзейсным Асноўным законе згадкі пра Вышэйшы гаспадарчы суд (ВГС). Такога суда ў Беларусі ўжо няма, і таму трэба карэктаваць Канстытуцыю. Але «абыдземся мы з гэтым запісам!» — сказаў Лукашэнка.

Ліквідацыю ВГС як падставу для рэферэндуму па змене Канстытуцыі ўпершыню агучыў доктар юрыдычных навук, прафесар і былы суддзя Канстытуцыйнага суда Міхаіл Пастухоў яшчэ ў 2014 годзе. Пра гэтую акалічнасць мы таксама неаднаразова згадвалі. А вось адкуль пра такі маленькі нюанс ведае Аляксандр Рыгоравіч? Альбо ён уважліва чытае «Новы Час» (што, безумоўна, вітаецца), альбо ён, насуперак сваім словам, вельмі шчыльна — да такіх дробязяў, як ВГС, — займаўся гэтым пытаннем.

Крыху раней, на сустрэчы з прадстаўнікамі афіцыйных СМІ, кіраўнік дзяржавы казаў, што гатовы падзяліцца паўнамоцтвамі з іншымі галінамі ўлады. З якімі канкрэтна галінамі і якімі паўнамоцтвамі, ён, праўда, не сказаў. Паўтарыў тое ж Аляксандр Рыгоравіч і ў час прамовы ў парламенце. Маўляў, сапраўды, ён можа перадаць камусьці частку сваіх паўнамоцтваў таму, што ўжо выпрацаваны пазіцыі і традыцыі выканання гэтых паўнамоцтваў. А ў кіраўніка дзяржавы з’яўляюцца новыя турботы і праблемы.

Калі Лукашэнка дакладна ведае, дзе, у якіх галінах выпрацаваныя традыцыі, значыць, ён ведае, ад чаго і на карысць каго можна пазбавіцца. Ізноў жа, гэта таксама — думы пра рэферэндум.

То бок, над правядзеннем плебісцыту па змене Асноўнага закона ўлада, насамрэч, задумвалася даволі сур’ёзна. Адзінае, што зараз гэтыя планы будуць

**Лукашэнка больш за ўсё палохаецца «майданаў», а ў Арменіі здарыўся менавіта ён**

адкладзеныя да сярэднетэрміновай перспектывы. Калі не ўвогуле ў «доўгую скрыню».

Падчас паслання народу і парламенту Аляксандр Рыгоравіч даволі часта згадваў падзеі ў Арменіі. Нагадаем, што там прайшла ўладная рэформа, у выніку якой краіна з прэзідэнцкай формы кіравання перайшла да парламенцкай, а рэальную ўладу атрымліваў прэм’ер-міністр. Гэтым прэм’ерам стаў Серж Саргсян, які кіраваў краінай у якасці прэзідэнта 10 гадоў. Народ Арменіі пабачыў у такой «ракіроўцы» фактычнае незаконнае падаўжэнне ўладных паўнамоцтваў. Гэта і выклікала грамадзянскае супрацьстаянне, масавыя пратэсты, якія цягнуліся 10 дзён і скончыліся адстаўкай Саргсяна.

Падобна на тое, што менавіта армянскую мадэль паслаблення прэзідэнцкай улады свайго верагоднага пераемніка Лукашэнка разглядаў як перспектыўную. І тое, што гэтая мадэль не спрацавала, яго моцна ўразіла.

Яшчэ большым ударам для яго стала тое, якім чынам не спрацавала гэтая мадэль. Аляксандр Рыгоравіч больш за ўсё палохаецца «майданаў», а ў Арменіі здарыўся менавіта ён. Прычым, вырашалася ўсё не толькі ў сталіцы, як тое было ў Кіеве ў 2014-м, — вялікі ўнёсак у супрацьстаянне з уладаю зрабілі і рэгіёны, перакрываючы дарогі і іншыя транспартныя артэрыі. У выніку АМАП задавіць усю краіну не здолеў.

Нешта сітуацыя ў Арменіі нагадала — а менавіта «маршы недармаедаў», калі ў абласных цэнтрах Беларусі на іх выходзіла больш народу, чым у Мінску.

А яшчэ, напэўна, вельмі занепакоіла Лукашэнку і пазіцыя Расіі ў армянскіх падзеях. «Чаму Расія павінна ўмешвацца? Гэта ўнутраныя справы Арменіі», — каментаваў падзеі ў Ерэване прэс-сакратар Пуціна Дзмітрый Пяскоў, а кіраўнік расійскага МЗС Сяргей Лаўроў і ўвогуле прамаўчаў. Між іншым, Арменія (як і Беларусь) заўсёды лічылася «прарасійскай» краінай.

Таму зараз Аляксандру Рыгоравічу сапраўды, як ён сказаў, «не да рэферэндумаў». Трэба разабрацца, што і чаму не спрацавала ў Саргсяна. Але гэта зусім не азначае, што, як напісалі некаторыя СМІ, «рэферэндуму не будзе».



Фота www.udf.by

# Сціплая лічба, што падвяла нясціплага Лукашэнку

Марына СВЯТЛОВА

**Пра што забыўся кіраўнік дзяржавы, калі нахвальваў высокія вынікі ў эканоміцы?**

«Шчыра кажучы, год таму мы былі настроеныя на больш сціплыя вынікі, чым атрымалі, — заявіў кіраўнік Беларусі падчас звароту да народа і парламента. — Эфектыўнасць, з якой працавала наша краіна, і карпатлівая праца народу далі станоўчы вынік».

Гэтыя прызнанні прымусілі падняць леташні зварот Лукашэнкі, каб пашукаць тыя самыя арыенціры, якія ў кіраўніка дзяржавы нечакана атрымалася пераплюнуць за гэты год.

Шчыра кажучы, у яго мінулым пасланні з усяго патоку слоў кшталту «паглыбіць», «нарасціць», «прыцягнуць» выявілася толькі адна канкрэтная лічба — так бы мовіць, адзіны дакладны арыенцір, па якім можна ацаніць глыбіню цяперашніх дасягненняў. Вось яна: «Ураду пастаўлена задача (усім, не толькі ўраду): забяспечыць у гэтым годзе сярэдні заробак па краіне не менш за 1000 рублёў, — заявіў год таму Лукашэнка. — Уліччыце, ашуканства ў гэтай справе недапушчальнае. Нават не думайце без уліку прадукцыйнасці працы выдаваць па 1000 рублёў. Яны павінны быць заробленыя».

А вось нашы «нясціплыя» вынікі праз год. Паводле звестак Белстата, сярэдні заробак у Беларусі ў сакавіку склаў 926,8 рубля! Гэта, вядома, больш, чым 859 рублёў у снежні, але ўсё роўна адвочна не дацягвае да заяўленых арыенціраў. Не кажучы ўжо пра тое, каб нешта там перасягнуць.

Такая сціплая лічба на фоне нясціплых заяваў Лукашэнкі.

**Gazetaby.com**

# Бел-чырвона-белы сцяг на 17-м паверсе замінае мінчанам?

**У офіс Аб'яднанай грамадзянскай партыі ў Мінску 24 красавіка ўвайшлі супрацоўнікі міліцыі на чале з супрацоўнікам Савецкага РУУС па прозвішчы Шкут і запатрабавалі зняць бел-чырвона-белы сцяг, які з 23 сакавіка быў вывешаны на балконе офіса.**

На адмову ўпусціць міліцыю ў офіс яны заявілі, што забяруць усіх, хто знаходзіцца на дадзены момант у офісе ў РУУС.

Урэшце сцяг быў зняты, а па факце вывешвання на юрыдычную асобу — партыю АГП — быў складзены пратакол правапарушэння. Сцяг нібыта перашкаджаў жыхарам Мінска, якія і паскардзіліся ў міліцыю. Варта адзначыць, што офіс АГП размешчаны на 17-м паверсе (!) офіснага будынка ў цэнтры горада — на вуліцы Веры Харужай.

На развітанне праваахоўнікі паведамілі, што за вывешванне незарэгістраванай сімволікі будзе распачата адміністрацыйная справа.

Пакуль беларускія сілавікі ганяюцца за кожным вывешаным гістарычным бел-чырвона-белым сцягам, прэзідэнт Малдовы Ігар Дадон вылучыў заканадаўчую ініцыятыву аб прызнанні гістарычнага сцяга Малдовы, які павінен быць узняты абавязковым парадкам ва ўсіх дзяржаўных установах, адзначае прэс-служба АГП.

# Дзяржава адмовілася адкрыць імёны забітых у Курапатах

Марат ГАРАВЫ

**Паколькі Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь не задаволіў скаргу пра ўтойванне імёнаў курапацкіх ахвяраў, грамадскасць вымушана будзе звяртацца да міжнароднай супольнасці.**

Яшчэ 23 снежня 2015 года актывісты грамадскай ініцыятывы «Эксперты ў абарону Курапатаў» старшыня грамадскага аб'яднання «Хрысціянская злучнасць «Курапаты» 87-гадовы Вацлаў Нямковіч, які ўжо сышоў у лепшы свет, культуролаг Вацлаў Арэшка, мовазнаўца Вінцук Вячорка, грамадскі актывіст Алесь Макаў, старшыня Беларускай асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсій Зінаіда Тарасевіч і аўтар гэтага артыкула звярнуліся ў суд Цэнтральнага раёна Мінска са скаргай на неправамерныя дзеянні (бяздзеянне) Генеральнай пракуратуры Рэспублікі Беларусь, якая адмовілася адкрыць імёны расстраляных у Курапатах.

У скарзе нагадвалася, што 25 верасня 2015 года грамадзяне звярнуліся ў Генпракуратуру з просьбай паведаміць выяўленыя яе супрацоўнікамі дадзеныя, у тым ліку імёны, імёны па бацьку і прозвішчы трох ахвяр палітычных рэпрэсій 1930-х гадоў, чые парэшткі былі ідэнтыфікаваныя па выніках дадатковага расследавання 1997–1999 гадоў пра трагедыю ў Курапатах у рамках крымінальнай справы, распачатай у 1988 годзе.

Пра гэта мы даведаліся яшчэ 7 снежня 2001 года з адказу начальніка аддзелу па нагляду за выкананнем закону ў войсках і на транспарце Генпракуратуры, старшага дарадцы юстыцыі А. Д. Доўбыша на запыт старшыні грамадскага аб'яднання «Дыярыуш» Ларысы Андросік (на мове і з захаваннем лексікі арыгіналу):

*«В процессе расследования дела удалось идентифицировать останки только трёх человек. При вскрытии захоронений найдены квитанции об изъятии у них денег при аресте, датированные октябрём 1939 и июнем 1940 годов. Уголовных дел на этих лиц нет. В связи с этим нет возможности выяснить, где они проживали, чем занимались и что им вменялось в вину».*

Паколькі спадар Доўбыш не назваў ні аднаго імя курапацкіх ахвяраў, мы і звярнуліся ў Генпракуратуру. Начальнік яе ўпраўлення па нагляду за выкананнем заканадаўства Следчым камітэтам Ігар Сяўрук у адказе ад 27 кастрычніка 2015 года не задаволіў просьбу заяўнікаў, матывуючы гэта тым, што «ўсе матэрыялы крымінальнай справы аднесеныя да дзяржаўных сакрэтаў».

Намеснік генпракурора Мікалай Кукліс падтрымаў пазіцыю Сеўрука, пры гэтым зазначыўшы, што заяўнікі не з'яўляюцца ўдзельнікамі працэсу па крымінальнай справе або асобамі, правы і законныя інтарэсы якіх былі закранутыя пры правядзенні працэсуальных дзеянняў і прыняцці працэсуальных рашэнняў. У сувязі з гэтым, нібыта, грамадскія актывісты не маюць права «на зварот са скаргамі і хадайніцтвамі, а таксама на азнаямленне з матэрыяламі крымінальнай справы».

Грамадзяне палічылі незаконнымі і неабгрунтаванымі дзеянні Генпракуратуры, якая не паведаміла выяўленыя яе супрацоўнікамі імёны бязвінных ахвяр. Яшчэ 18 студзеня 1989 года Савет міністраў БССР прыняў пастанову №42 «Аб увекавечванні памяці ахвяр масавых рэпрэсій 1937–1941 гадоў у лясным масіве Курапаты». У прэамбуле дакумента падкрэслена, што ён прыняты, «зыходзячы з важнасці раскрыцця гістарычнай праўды пра падзеі мінулага і ўлічваючы меркаванне шырокай грамадскасці».

Урадавай пастановай № 578 ад 14 мая 2007 года Курапаты як месца згубы ахвяр палітычных рэпрэсій 1930–1940-х гадоў пад шыфрам 611Д000363 унесена ў Дзяржаўны спіс гістарычна-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь з наданнем першай катэгорыі (міжнароднага значэння).

Такім чынам, Курапаты з'яўляюцца помнікам не толькі народа краіны, але і міжнароднай супольнасці. Таму дадзеныя пра ахвяр палітычных рэпрэсій 1930-х гадоў маюць гістарычнае, этычнае і духоўнае значэнне для народа Беларусі і міжнароднай супольнасці, падкрэслівалася ў скарзе.

Аднак 6 студзеня 2016 года суддзя суда Цэнтральнага раёна сталіцы Іван Майсейчык адмовіўся ўзбуджаць грамадзянскую справу «ў сувязі з адсутнасцю ў заяўнікаў права на зварот у суд», бо скарга грамадзян «не падлягае разгляду ў судах з прычыны яе непадведамаснасці», паколькі «заяўнікі не згодныя з дзеяннямі органа, які вядзе крымінальны працэс». Судовая калегія па грамадзянскіх справах Мінгарсуда, ягоны старшыня Павел Каршуновіч і Вярхоўны Суд пакінулі ў сіле вызначэнне суддзі Івана Майсейчыка, а прыватную скаргу грамадзянаў — без задавальнення.

На думку заяўнікаў, адмовай распачаць грамадзянскую справу наконт агучвання імёнаў ахвяр сталінізму, забітых у Курапатах, суды прадэманстравалі залежнасць ад органа дзяржаўнай улады — Генпракуратуры Беларусі, а таксама засведчылі пераемнасць цяперашняй улады з савецкай. Апроч таго, былі парушаны канстытуцыйныя правы грамадзян на атрыманне інфармацыі і судовую абарону.

Паколькі беларуская дзяржава адмаўляецца адкрыць імёны курапацкіх ахвяр, грамадскасць будзе вырашаць гэтую праблему праз звароты да міжнароднай супольнасці.

# На БелАЭС быў пажар?

**З'явілася неафіцыйная інфармацыя пра «вялікі пажар», які здарыўся на будаўніцтве Беларускай АЭС яшчэ 17 лютага 2018 года, але пра яго стала вядома толькі цяпер.**

Сайт Аб'яднанай грамадзянскай партыі прыводзіць сведчанне свайго актывіста, жыхара Астравецкага раёна Мікалая Уласевіча. Па яго інфармацыі, здарэнне адбылося падчас пробнага запуску абсталявання аварыйнай сістэмы абароны рэактара. Пачаўся пажар, і агонь цалкам знішчыў электрашчытавую (а гэта вялікае памяшканне з дарагім абсталяваннем). Мяркуецца, што адбыліся нейкія непаладкі сістэмы. Таксама нібыта была пашкоджана вялікая колькасць магутных электрычных кабеляў, якія былі падведзеныя да аб'екту. За два месяцы ў памяшканні шчытавой зрабілі рамонт, замянілі абсталяванне. Кабелі, што абгарэлі, былі вывезеныя на металалом. Цалкам наступствы здарэння яшчэ не ліквідаваныя.

Мікалай Уласевіч кажа, што дырэкцыя АЭС хавае гэты выпадак ад грамадскасці. «Еўрарадыё» датэлефанавалася да інфармацыйнага цэнтру Беларускай АЭС. Там сказалі, што «такога яны не чулі».

Пазней афіцыйны прадстаўнік МНС Беларусі Віталь Навіцкі паведаміў «Еўрарадыё», што пажару не было, а здарылася кароткае замыканне.

«У гэты дзень было кароткае замыканне сілавога кабелю, які вядзе да вежавага крана, без далейшага гарэння. Падраздзяленні МНС не прыцягваліся, ліквідацыі не было, паколькі не было пажару», — кажа Навіцкі.

Варта адзначыць, што раней Уласевіч першым паведамляў пра здарэнні на будаўніцтве АЭС (напрыклад, пра пашкоджанне корпуса рэактара), і яны пазней афіцыйна пацвярджаліся.

**Паводле euroradio.fm**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Вельмі працяглы боль

Сяргей САЛАЎЁЎ

**На тыдні ўвесь інтэрнэт абмяркоўваў, куды Аляксандр Рыгоравіч паслаў народ і парламент. Але, насамрэч, гэта не падзея ў параўнанні з тым, пра што мы забываем. Наступствы аварыі ў Чарнобылі, што здарылася 32 гады таму, мы адчуваем дагэтуль.**



Фота www.apostrophe.ua

Прычым, адчуваем усе — незалежна ад таго, дзе жывём і ці адносіцца наша тэрыторыя пражывання да «забруджаных» ці «пацярпелых» зонаў.

Канешне, улады выхваляюцца тым, што Беларусь нібыта пераадолела наступствы Чарнобылю. Але з гэтым не згодныя адмыслоўцы. Сумарная альфа-актыўнасць трансуранавых элементаў, якія выпалі на тэрыторыі Беларусі, будзе нарастаць аж да 2056 года, нагадалі ў Дэпартаменце па ліквідацыі наступстваў катастрофы на ЧАЭС.

Прычым, «рассакрэчаныя» гэтай структурай лічбы цягнуць на міні-сенсацыю. Паводле дадзеных навукоўцаў, палова (!) з 118 раёнаў Беларусі ў рознай ступені закрануты чарнобыльскай катастрофай. З іх найбольш пацярпелыя — тры раёны ў Брэсцкай, 13 — у Гомельскай і пяць — у Магілёўскай вобласці.

Палова краіны! Менавіта пра гэта доўгія гады казалі незалежныя даследчыкі. Але ўлада іх не чула (дакладней — не хацела чуць). Зараз тое, пра што казалі антыатамныя энтузіясты, прызнае афіцыйная структура.

Больш за тое, прафесара Юрыя Бандажэўскага ў свой час упяклі ў турму за тое, што ён сцвярджаў: малых дозаў радыяцыі не існуе, усе яны небяспечныя. Нябожчык Іван Нікітчанка неаднаразова заклікаў улады адмовіцца ад прынцыпу «дапушчальных узроўняў утрымання радыенуклідаў у харчовых прадуктах». Паводле яго дадзеных, небяспека радыяцыйнага забруджвання праз прадукты харчавання захоўваецца на ўсёй тэрыторыі Беларусі, у прыватнасці, радыенукліды прысутнічаюць у арганізме кожнага трэцяга мінчука, якія Чарнобылем нібыта закранутыя не былі…

Пётр Нікалаенка, намеснік дырэктара Дэпартамента па ліквідацыі наступстваў катастрофы на ЧАЭС, расказаў, як радыяцыя трапляе ў Мінск. Па яго словах, на 1 студзеня 2018 года сельгасвытворчасць у Беларусі вядзецца на 877 тысячах гектараў сельгасзямель, забруджаных цэзіем–137. Канешне, яго паўраспад адбываецца за 30 гадоў. Але варта зазначыць, што гэта «паўраспад», — то бок, менш яго стала толькі напалову. А ўвогуле, навукоўцы разлічылі, што для поўнага распаду элементаў патрабуецца 10 перыядаў паўраспаду. Гэта значыць, зямля пасля аварыі на ЧАЭС будзе лічыцца чыстай ад цэзію–137 мінімум праз 300 гадоў!

«У апошні час за кошт распаду цэзію, пасля правядзення патрэбных мерапрыемстваў, радыелагічных даследаванняў (…) землі выводзяцца ў абмежаванае сельскагаспадарчае выкарыстанне», — сказаў Пётр Нікалаенка.

На забруджаных глебах, аддадзеных пад сельгасвытворчасць, праводзяць ахоўныя мерапрыемствы: кіслыя глебы вапнуюць, уносяцца павышаныя дозы мінеральных угнаенняў, падбіраюцца культуры і гатункі, што мінімальна назапашваюць радыенукліды, прымяняюцца спецыяльныя кармавыя дабаўкі для жывёл, ствараюцца культурныя пашы і сенажаці.

Разумееце, атрымліваецца не «чыстая» прадукцыя, а «культуры і гатункі, якія мінімальна назапашваюць радыенукліды». Але ўсё ж назапашваюць. А потым мы гэта ямо.

Варта ўзгадаць, што не адна Беларусь патрапіла пад Чарнобыльскі ўдар. Украінскія навукоўцы, напрыклад, у сваіх даследаваннях прыйшлі да высновы, што глебы ўкраінска-беларускага Палесся маюць спецыфічную асаблівасць — цэзій–137 дрэнна фіксуецца імі, і, як вынік, ён лёгка паступае ў расліны праз каранёвую сістэму. Таму яшчэ ў дааварыйныя часы ўтрыманне гэтага радыенукліду ў вырашчанай тут прадукцыі было ў 35–40 разоў вышэй, чым у цэнтральных раёнах краіны. Пасля аварыі на ЧАЭС людзей прыйшлося адсяляць з найбольш пацярпелых раёнаў зусім не з-за небяспечна высокага радыяцыйнага фону — там стала немагчымым вядзенне сельскай гаспадаркі. Ва Украіне ёсць месцы, дзе нельга атрымліваць чыстую прадукцыю нават пры ўзроўні забруджвання цэзіем–137 у 1 (адзін!) Кюры на квадратны кіламетр.

Ці згодныя нашы даследчыкі з украінскімі? Ці праводзіліся ў нас падобныя даследаванні? Падаецца, не. Прынамсі, апроч заклапочаных недзяржаўных экспертаў пра гэта ніхто не казаў.

Частка тэрыторыяў у нас забруджаная не толькі цэзіем–137, але і трансуранавымі элементамі. Гэта ізатопы плутонію–238, –239, –240, –241 і амерыцый–241. І хаця асноўная іх маса — 97% — знаходзіцца на тэрыторыі Палескага дзяржаўнага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, ёсць такія забруджаныя раёны ў Гомельскай вобласці і адзін — у Магілёўскай.

Як адзначыў Нікалаенка, поўны распад трансуранавых элементаў займае вельмі доўгі час. «У плутонію–239 паўраспад — звыш 240 тысяч гадоў. У плутонію–241 — 144 года. Плутоній распадаецца і ператвараецца ў амерыцый–241, а ў яго распад — ужо 4300 гадоў. Менавіта за кошт амерыцыю сумарная альфа-актыўнасць трансуранавых элементаў будзе нарастаць аж да 2056 года, але ў асноўным на закрытых тэрыторыях», — адзначыў прадстаўнік дэпартамента. Амерыцый вельмі небяспечны, калі трапляе ў арганізм: з прадуктамі ці з паветрам (праз дыхальныя шляхі).

Мне падабаюцца агаворкі навукоўца: «у асноўным на закрытых тэрыторыях». А «не ў асноўным»? Ці ёсць гарантыя, што забруджванне праз прадукты ў тых самых малых дозах не будзе «міграваць» па ўсёй краіне?

Няма, кажа Нікалаенка: «Гэты элемент пакуль знаходзіцца ў вельмі малых колькасцях, і вызначыць яго досыць складана і дорага, даследаванні толькі пачынаюцца».

Крута! Праз трыццаць стагоддзя пасля аварыі і безліч затрачаных на ліквідацыю наступстваў грошай «даследаванні толькі пачынаюцца»! Можа, спачатку варта было ўсё дасканала высветліць, а толькі потым уводзіць забруджаныя землі ў «сельскагаспадарчае выкарыстанне»?

Ну і крыху статыстыкі наконт таго, да чаго прывяла такая палітыка дзяржавы ў замоўчванні ці памяншэнні маштабаў чарнобыльскіх праблем. На дыспансерным уліку па «чарнобыльскай лініі» стаяць больш за 1,5 мільёна чалавек, у тым ліку больш за 250 тысяч дзяцей і падлеткаў.

Праз 33 гады пасля трагедыі 250 тысяч дзяцей і падлеткаў, якія той аварыі нават не бачылі, адчуваюць яе наступствы! Уяўляеце маштаб катастрофы?

Чарнобыль яшчэ доўга будзе нашым болем і нашымі пакутамі.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Міхаіл Жамчужны



**Адміністрацыя калоніі №9 у Горках вынесла палітвязню 27-е спагнанне, змясціла на два месяцы ў памяшканне камернага тыпу і адмовіла ў пераводзе ў іншую калонію.**

Як паведамляюць праваабаронцы, Жамчужны па-ранейшаму адчувае моцны ціск як з боку адміністрацыі калоніі, так і ад іншых зняволеных. Адміністрацыя працягвае практыку вынясення спагнанняў за адмовы Жамчужнага перайсці ў вызначаны для яго атрад №3, дзе яго з'яўленне выклікае негатыўную рэакцыю іншых асуджаных. Каб пазбегнуць канфлікту, Жамчужны пакідае атрад і атрымлівае чарговыя спагнанні. Рэальных жа бяспечных умоваў для адбыцця пакарання адміністрацыя калоніі палітвязню не прадстаўляе, нягледзячы на шматлікія звароты. З боку зняволеных паступаюць пагрозы фізічнай расправы. Па адным з інцыдэнтаў такіх пагроз, які адбыўся 3 красавіка, Жамчужны падаў скаргу начальніку калоніі, вядзецца разбіральніцтва.

23 красавіка Магілёўскі абласны суд адмовіў у задавальненні касацыйнай скаргі Жамчужнага на рашэнне Горацкага раённага суда, які прызнаў абгрунтаванымі вынесеныя палітвязню чатыры спагнанні ў верасні-кастрычніку 2017 года. Суд асноўную ўвагу ўдзяліў працэдурам вынясення спагнанняў, а не іх абгрунтаванасці, хаця па просьбе заяўніка запатрабаваў асабістую справу Міхаіла Жамчужнага і меў магчымасць азнаёміцца з дакументамі, датычнымі прычыны адмоваў зняволенага пераходзіць у атрад.

## Андрэй Саннікаў



**Улады Беларусі парушылі правы былога кандыдата ў прэзідэнты. Такое рашэнне вынес Камітэт ААН па правах чалавека, куды Саннікаў падаў скаргу яшчэ ў 2012 годзе.**

Камітэт прызнаў, што Андрэй Саннікаў стаў ахвярай незаконнага пазбаўлення волі, былі парушаныя яго правы на прыватнае жыццё, свабоду выказвання меркаванняў і на мірныя сходы.

Саннікаў быў арыштаваны ў 2010 годзе, калі ўлады жорстка разагналі дэманстрацыі пратэстаў у сувязі з выбарамі прэзідэнта. Ён атрымаў пяць гадоў турмы па абвінавачванні ў арганізацыі «масавых беспарадкаў», а пасля быў памілаваны Лукашэнкам. Тым не менш, ён не мае права балатавацца ў будучым, паколькі яго судзімасць не была пагашаная.

Саннікаў накіраваў скаргу ў Камітэт ААН па правах чалавека, які сочыць за выкананнем Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах. Згодна з Факультатыўным пратаколам да Пакту, у Камітэт маюць права звяртацца асобныя грамадзяне. Андрэй Саннікаў скарыстаўся гэтым правам, паколькі Беларусь з'яўляецца ўдзельніцай Пакта.

У заяве Камітэта гаворыцца, што «права на мірныя сходы з'яўляецца адным з асноўных правоў чалавека і важнай умовай існавання дэмакратычнага грамадства: гэта права прадугледжвае магчымасць арганізоўваць мірныя сходы ў грамадскіх месцах — нават без папярэджання — і ўдзельнічаць у іх».

## Зянон Пазьняк



**Самаму вядомаму беларускаму палітэмігранту, лідару КХП-БНФ, споўнілася 74 гады.**

Зянон Пазьняк — адзін з заснавальнікаў Беларускага народнага фронту «Адраджэньне» і «Мартыралёгу Беларусі», старшыня Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі-БНФ, археолаг, мастацтвазнавец, празаік, паэт. Аўтар амаль сотні навуковых, палітычных і культуралагічных артыкулаў, выдаў больш за дзясятак кніг і брашур.

Менавіта ён адкрыў для грамадскасці гісторыю Курапатаў. Быў адным з тых, дзякуючы каму беларускую мову, герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг сталі дзяржаўнымі, а Беларусь аднавіла незалежнасць.

Цяпер жыве ў эміграцыі паміж Варшавай і Нью-Ёркам і, наколькі дазваляюць абставіны, займаецца палітычнай дзейнасцю. Піша і выдае кнігі. Днямі ў Нью-Ёрку адбылася прэзентацыя яго кнігі паэзіі і яе перакладаў на розныя мовы «Вокс Ангэліка».

Рэдакцыя «Новага Часу» віншуе Зянона Станіслававіча з днём нараджэння!

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Хэлоўін у рэжыме non-stop

**Усялякая манаполія на фарміраванне грамадскай думкі спараджае інфармацыйны тэрарызм**




Не ведаю, як для каго, але асабіста для мяне часопіс «Беларуская думка» з'яўляецца невычэрпнай крыніцай натхнення. Сакавіцкі нумар у гэтым сэнсе не стаў выключэннем. Ужо першы артыкул з інтрыгоўнай назвай «У глабальным і рэгіянальным маштабе» прыцягнуў маю ўвагу. Яго аўтар — намеснік дзяржаўнага сакратара Рады Бяспекі РБ, генерал-маёр Юрый Арчакоў.

Пра што артыкул? Калі меркаваць па яго падзагалоўку, то «Аб разуменні праблемы інфармацыйнага тэрарызму». Больш актуальнай тэмы сёння, бадай, і не знайсці. Такая катэгарычная высНова не ўзятая мной са столі і не высмактаная з пальца. Ну як тут ні прыгадаць пра красавіцкую сустрэчу адзінага палітыка (АП) з кіраўнікамі і калектывамі найбуйнейшых дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі. Абмяжуюся адной цытатай: «Менавіта інфармацыйныя войны сталі адметнай рысай XXI стагоддзя. Сродкі масавай інфармацыі ператварылі ў зброю. І, ведаеце, гэта зброя магутней, чым ядзерная. Таму што малы зарад у выглядзе нейкай навіны імгнення ахоплівае ўсю планету. І па сіле забойчага ўздзеяння, не факт, што ядзерная зброя магутнейшая».

Ад ядзернай зброі, хай і гіпатэтычна, але схавацца можна. Я, напрыклад, жыву ў стандартным панельным доме на першым паверсе. У мяне пад балконам ёсць склеп, у якім увесь час захоўваюцца дзве 19-літровыя бутлі вады і камплект рэспіратараў У2К для ўсёй сям'і.

Але як супрацьстаяць інфармацыйным тэхналогіям, што паўсюдна ажыццяўляюць маніпуляванне грамадскай свядомасцю з мэтай стварэння напружанасці і хаосу? Выключыць тэлевізар? Дык я яго ўжо шмат гадоў не гляджу. Адзінае выключэнне — чэмпіянат Англіі па футболе. Грэшны, заўзею за «Манчэстар Юнайтэд».

Але ж не ўсе беларусы заўзеюць за «чырвоных д'яблаў»! Хтосьці — за «Чэлсі», хтосьці — за «Тотэнхем», а хтосьці — і за барысаўскі БАТЭ. Ці не ў гэтым крыніца дэстабілізацыі адносін паміж сацыяльнымі групоўкамі, грамадскімі аб'яднаннямі, партыямі і рухамі? І гэта далёка не поўны пералік. З дапамогай генерал-маёра Арчакова яго можна папоўніць інспіраваннем «палітычных, нацыянальных, рэлігійных канфліктаў і крызісаў» і нават дэзінфармацыяй «насельніцтва аб працы органаў улады».

І што ў выніку? У выніку — падрыў устойлівасці дзяржаў і непапраўная шкода іх жыццёва важным інтарэсам.

### Пацук у вядры

Траціна артыкула высокарангавага аўтара, у поўнай адпаведнасці з падзагалоўкам, прысвечаная спробам зразумець вытокі праблемы, г.зн. спробам лакалізацыі месца, з якога растуць яе (праблемы) ногі. А зрабіць гэта не так лёгка, як можа здацца на першы погляд. Мяркуйце самі: «З-за малавывучанасці паняцця «інфармацыйны тэрарызм» ускладнена разуменне сапраўдных памераў і маштабаў пагроз, якія ім сфармаваныя, паколькі яны не паддаюцца падрабязнаму вымярэнню паводле фармальных прыкмет».

Няма фармальных прыкмет, няма вымярэння, няма і лічбаў (ні адной), якія характарызуюць праблему інфармацыйнага тэрарызму як у глабальным, так і рэгіянальным маштабе. Затое ёсць набор вызначэнняў, якія прэтэндуюць на навуковасць. Завяршаецца артыкул аўтарскай інавацыяй: «Інфармацыйны тэрарызм — гэта грамадска небяспечная дзейнасць, матываваная палітычнымі, рэлігійнымі ці іншымі ідэалагічнымі меркаваннямі. Сутнасць яе выяўляецца ў інфармацыйным уздзеянні на органы ўлады і грамадскую думку ў мэтах запалохвання, прымусу да пэўных дзеянняў, а таксама ў дэстабілізацыі сацыяльна-палітычнай абстаноўкі, што цягне цяжкія наступствы для розных бакоў жыццядзейнасці грамадства, дзяржавы і зніжае здольнасць соцыуму перашкодзіць гэтаму ўздзеянню».

Атрымалася дачытаць да канца? Калі так, дык хацеў бы я ведаць, якім чынам можна самую праўдзівую інфармацыю, якая распаўсюджваецца, напрыклад, дзяржаўнымі СМІ з мэтай кансалідацыі беларускага грамадства, адрозніць ад інфармацыйнага тэрарызму?

Набіраю ў пошукавіку «генерал КДБ, пацук у вядры» — і тут жа знаходжу відэа, якое ўпершыню было паказанае на сумеснай прэс-канферэнцыі КДБ, МУС і пракуратуры 16 сакавіка 2006 года. Для тых, хто ўжо забыў ці яшчэ не паспеў падрасці, нагадаю, што на відэа малады чалавек (апазіцыянер) распавёў пра тое, як яго навучылі «здзяйсняць масавае атручэнне людзей» з дапамогай дадавання ў водаправод вады з вядра, у якім папярэдне быў замочаны дохлы пацук.

Відэа падрабязна каментаваў генерал КДБ Сцяпан Сухарэнка. Паводле яго слоў, «фігурантамі па гэтай справе праходзяць не толькі людзі, якія пражываюць на тэрыторыі Беларусі, а, у асноўным, з-за мяжы».

Цікава, а пацук і вядро былі айчыннымі, або іх таемна даставілі ў краіну ў абыход мытні? Пытанне важнае, але другаснае. Асабіста мяне і маіх сямейнікаў відэаролік не толькі напалохаў, але і вымусіў да пэўных дзеянняў (тэрмінова бегчы ў краму за бутэляванай вадой). Гэтыя дзве бутлі і цяпер стаяць у мяне ў склепе. Магчыма, за 12 гадоў вада страціла свае спажывецкія ўласцівасці. Але калі гэта так — дык з каго мне патрабаваць кампенсацыю? Асабіста з Сухарэнкі або з КДБ?

### Адзін патрон

Гісторыя з пацуком у вядры далёка не адзіная, з дапамогай якой сілавыя структуры «дзяржавы для народа» ці то застрашвалі беларусаў, ці то мабілізоўвалі на выкананне добрых спраў.

Леташні прыклад — справа «Белага легіёну». Пачыналася ўсё так, як звычайна ў нас пачынаецца, — з размахам і безапеляцыйна. 13 сакавіка «самая салідная газета» краіны апублікавала «шакуючыя прызнанні, сенсацыйныя факты і ўнікальныя дакументы аб тым, што рыхтавалася ў Мінску на 25 сакавіка» пад кідкім загалоўкам «Белы легіён чорных душаў. Журналісцкае расследаванне».

Не буду марнаваць каштоўную газетную плошчу на пералік прызнанняў, фактаў і дакументаў (кожны ахвочы здольны ў два-тры клікі зрабіць гэта самастойна), а толькі нагадаю, што «залатое пяро» беларускай журналістыкі Андрэй Мукавозчык скончыў расследаванне знакамітымі словамі з кнігі «Рэпартаж з пятлёй на шыі» Юліуса Фучыка: «Людзі, будзьце пільныя».

Я ўспрыняў гэта папярэджанне літаральна — і ўсе дні, што засталіся да злавеснай даты, стараўся не выходзіць на вуліцу. Я быў вымушаны абмяжаваць свае прагулкі і пасля 25 сакавіка — аж да таго часу, пакуль «самая салідная газета» не паведаміла пра тое, што ў справе «Белага легіёну» пастаўлена кропка, і 27 лістапада «следчым прынята рашэнне аб спыненні крымінальнага пераследу ўсіх фігурантаў па справе і аб спыненні самога расследавання крымінальнай справы».

Аднак следчы відавочна паспяшаўся. Справа Андрэя Бяляўскага да суда дайшла. Ён быў прысуджаны да года абмежавання волі без накіравання ў папраўчую ўстанову. І было за што. 24 сакавіка 2017 года падчасператрусу супрацоўнікі КДБ знайшлі ў кватэры Бяляўскага патрон да аўтамата Калашнікава. Эксперты даследавалі боепрыпас і прызналі яго баявым. У судзе абвінавачваны віну цалкам прызнаў і раскаяўся ў зробленым.

Хто ведае, якую траекторыю мог прачарціць канфіскаваны ў Бяляўскага патрон, калі б супрацоўнікі КДБ не азнаёміліся своечасова з артыкулам Мукавозчыка і не праявілі належнай пільнасці!

### За выключэннем канструктыўных

Заходнія традыцыі ўсе больш актыўна асвойваюцца беларускім грамадствам. Сёння рэдка сустрэнеш вяселле без сяброўак нявесты і без кідання вясельнага букета. Калі так пойдзе і далей, то 31 кастрычніка, на Хэлоўін, мы будзем масава скупляць гарбузы для вырабу свяцільні Джэка і прыбірацца ў касцюмы персанажаў класічных фільмаў жахаў.

Але тое, чым звычайным грамадзянам будзе дазволена займацца адзін дзень на год, родная «дзяржава для народа» практыкуе на рэгулярнай аснове на працягу многіх гадоў. Гэтакі Хэлоўін у рэжыме non-stop.

Для разумення асіметрыі, якая склалася, я звярнуся па дапамогу да культуролага Ігара Якавенкі: «Вораг неаддзельны ад змовы і здрады. Само паняцце ўнутранага ворага — гэта выключна ўстойлівы канструкт айчыннай свядомасці актуальных ці патэнцыйных здраднікаў, носьбітаў здрады. Задача палягае ў тым, каб выявіць і знішчыць актуальных здраднікаў і выразна вызначыць прастору, у якой хаваюцца патэнцыйныя здраднікі. У адну эпоху гэта былі іншаземцы, у другую — спяцы з «былых», у трэцюю — наведвальнікі кактэйль-холаў, што танчылі рок-н-рол».

Да гэтага спісу можна смела дадаць незалежныя СМІ, апазіцыйныя партыі і структуры грамадзянскай супольнасці — зразумела, за выключэннем канструктыўных, г.зн. тых, што шчодра фінансуюцца дзяржавай за кошт падаткаплацельшчыкаў.

Генерал Арчакоў у лік задач, якія ставяць перад сабой інфармацыйныя тэрарысты, уключыў і ўздзеянне на грамадскае меркаванне. Аналагічную задачу паставіў перад журналістамі дзяржаўных СМІ і адзіны палітык: «Ваша задача — фарміраваць канструктыўную (натуральна, канструктыўную, а як жа інакш. — С.Н.) грамадскую думку праз своечасовую і аб'ектыўную падачу матэрыялу, шчыры і ўдумлівы дыялог з аўдыторыяй».

Пра тое, як гэты пералік выконваецца на практыцы, добра бачна на прыкладзе «пацука ў вядры» і справы «Белага легіёну».

# Ажароўскі: У пытанні АЭС Мінэнерга адстойвае інтарэсы «Расатама», а не Беларусі

Зміцер ЛУКАШУК, «ЕЎРАРАДЫЁ»

**У інтэрв'ю літоўскай тэлерадыёкампаніі LRT намеснік міністра энергетыкі Беларусі Міхаіл Міхадзюк расказвае, чаму будаваць БелАЭС пачалі менавіта каля літоўскай мяжы, чаму выбралі расійскі праект станцыі і чаму АЭС нам жыццёва неабходная. Ці заўжды беларускі чыноўнік шчыры, калі распавядае пра станцыю, і пра што ён адмыслова не кажа ўвогуле, — разбіраем з расійскім фізікам-ядзершчыкам Андрэем Ажароўскім.**

### «Астравецкая пляцоўка» — ідэальнае месца для будаўніцтва АЭС?

**Цытата Міхадзюка:** *«Поўны аб'ём пошукаў правялі на Астравецкай пляцоўцы і не выявілі тут ні аднаго адмоўнага фактару ў адпаведнасці з нарматыўнымі дакументамі па размяшчэнні АЭС».*

**Андрэй Ажароўскі:**

— Праўда ў тым, што ў Беларусі сапраўды мала пляцовак, прыдатных для размяшчэння АЭС. Розніца паміж падыходамі да гэтага пытання ў беларускага чыноўніка і эколагаў у тым, што мы ўпэўненыя: у Беларусі такіх пляцовак няма ўвогуле, а спадар Міхадзюк упэўнены, што Астравецкая пляцоўка падыходзіць па ўсіх крытэрыях. Праўда, да 2005 года той жа Міхадзюк упэўніваў нас, што Краснапольская пляцоўка ідэальная і адпавядае ўсім крытэрыям. А цяпер ён прызнае, што гэта абсалютна не так — будаваць АЭС там нельга.

Кажучы пра Астравецкую пляцоўку, спадар Міхадзюк забыў сказаць пра яе сейсмічную небяспечнасць. Чаму яе забракавалі ў савецкі час? На пачатку мінулага стагоддзя ў 20 кіламетрах ад гэтай пляцоўкі быў вельмі моцны «Гудагайскі землятрус». А пагроза землятрусу такая ж сур'ёзная, як пагроза карставая, з-за якой забракавалі іншыя пляцоўкі. Толькі намеснік міністра вырашыў пра гэта нічога ў інтэрв'ю не казаць.

### Ці можна будаваць АЭС недалёка ад вялікага горада?

**Цытата Міхадзюка:** *«Няма такіх рэкамендацый [пасля аварыі на АЭС «Фукусіма» не будаваць АЭС бліжэй за сто кіламетраў ад вялікіх гарадоў. — «Еўрарадыё»]. Вас уводзяць у зман. Такіх рэкамендацый і такіх дакументаў не існуе».*

**Андрэй Ажароўскі:**

— Такі дакумент сапраўды існуе, але гэта не рэкамендацыя МАГАТЭ — гэта былі дакументы з рэкамендацыямі для выбару пляцоўкі яшчэ савецкага часу. Бо галоўны метад абароны ад радыяцыі — абарона адлегласцю. Што праўда, гэтыя савецкія нормы парушаліся і ў самім Савецкім Саюзе. Напрыклад, Ленінградская атамная станцыя. А МАГАТЭ такую рэкамендацыю даць не магло хаця б таму, што гэтая арганізацыя — галоўны піяршчык выкарыстання атамнай энергіі, і яна нічога ніколі не забараняла. Усё таму, што МАГАТЭ не з'яўляецца адказным бокам. Уся адказнасць у выпадку катастрофы ляжа на бок, які прымаў рашэнне, дзе і якую АЭС будаваць. У дадзеным выпадку гэта Беларусь.



**Андрэй Ажароўскі:**

**АЭС будзе выпрацоўваць радыеадкіды і адпрацаванае ядзернае паліва. Што з гэтым рабіць, незразумела**

Высновa: забароны будаваць БелАЭС на абранай пляцоўцы няма, але адсутнасць такой рэкамендацыі з боку МАГАТЭ выкліканая тым, што мэта гэтай арганізацыі — прасоўванне атамнай энергетыкі. У адваротным выпадку, яны былі б вымушаныя сказаць, што ў Беларусі прыдатных для будаўніцтва АЭС пляцовак няма ўвогуле. Сутнасць пытання ж наступная: пасля аварый на ЧАЭС і «Фукусіме» будаваць станцыю недалёка ад вялікага горада, тым больш сталіцы суседняй дзяржавы, — рашэнне надзвычай безадказнае.

Інтэрв'ю Міхадзюка мае загаловак: «Мы ўсведамляем нашу адказнасць перад сусветнай супольнасцю». Але ўсё інтэрв'ю дэманструе адказнасць Міхаіла Міхадзюка перад «Расатамам» — адзінай арганізацыяй, зацікаўленай у будаўніцтве гэтай атамнай станцыі.

### Былі ці не слуханні па БелАЭС у Літве?

**Цытата Міхадзюка:** *«Праводзіліся. І гэта замацавана пратаколам. З гэтай нагоды вас таксама ўводзяць у зман. Мы правялі слуханні і ў Вільні ў 2010 годзе. Пасля іх у літоўскай сталіцы былі таксама арганізаваныя кансультацыі.*




*У адпаведнасці з рэкамендацыямі камітэта па ажыццяўленні Канвенцыі Эспа, мы ў 2013 годзе прапанавалі Літве арганізаваць яшчэ адны грамадскія слуханні. Аднак літоўскі бок з гэтай прапановай не пагадзіўся, таму мы арганізавалі слуханні ў Астраўцы. Забяспечылі падвоз грамадзян з Літвы ў Беларусь бясплатна нашымі аўтобусамі, арганізавалі бязвізавы праезд».*

**Андрэй Ажароўскі:**

— Я быў на тых слуханнях у Вільні, і магу канстатаваць: там не было прафесійнага перакладу на літоўскую мову. І менавіта таму, а не праз нейкія палітычныя меркаванні, гэтыя кансультацыі не былі прызнаныя літоўскім бокам у якасці кансультацый у межах Канвенцыі Эспа. Беларусь, замест таго, каб зрабіць пераклад усіх неабходных дакументаў і правесці паўторныя кансультацыі, пачала будаўніцтва АЭС.

Дарэчы, Міхадзюк кажа, што Беларусь выконвае ўсе патрабаванні Орхускай канвенцыі [канвенцыя Еўрапейскай Эканамічнай Камісіі ААН «Аб доступе да інфармацыі, аб удзеле грамадскасці ў прыняцці рашэнняў і доступе да правасуддзя па пытаннях, што тычацца навакольнага асяроддзя». — «Еўрарадыё»]. І «забывае», што на апошняй канферэнцыі бакоў Орхускай канвенцыі, якая прайшла ў Чарнагорыі летам 2017 года, былі пацверджаныя ўсімі бакамі факты невыканання Орхускай канвенцыі Беларуссю.

### Ці сапраўды Беларусь абрала для сваёй АЭС самы надзейны і эфектыўны праект?

**Цытата Міхадзюка:** *«Мы адразу вызначыліся: гэта павінен быць самы сучасны праект пакалення 3+ з тэхналогіяй ВВЭР, таму што гэта самая апрабаваная, надзейная і эканамічная тэхналогія. Вартасці гэтага праекта агульна прызнаныя. У яго самы высокі каэфіцыент устаноўленай магутнасці. Яго надзейнасць пацвярджаюць і канкурэнты «Расатама». У праекта ўдалае спалучэнне пасіўных і актыўных сістэм бяспекі».*

**Андрэй Ажароўскі:**

— На момант прыняцця рашэння Беларуссю наконт станцыі з такім рэактарам, такіх рэактараў у свеце не было, як не было і вопыту выкарыстання іх. А з інтэрв'ю можна зразумець, што ўсё было інакш.

Я грунтоўна вывучаў усе праекты, якія хочуць рэалізаваць у Расіі з выкарыстаннем рэактара тыпу ВВЭР-1200 пад агульнай назвай праекта «АЭС–2006». Пытанняў да гэтага праекта вельмі шмат. Мяне мала цікавіць, наколькі ён эфектыўны і прасунуты — усе гэтыя заявы больш падобныя да рэкламных слоганаў. Нас найперш павінны цікавіць не рэкламныя слоганы, а бяспека гэтага абсталявання. І тое, як у выпадку аварыі будуць мінімізавацца яе наступствы.

Не так даўно «Расатам» купіў трацін акцый адной фінскай кампаніі, якая мае дазвол на будаўніцтва АЭС, і цяпер спрабуе будаваць у Фінляндыі атамную станцыю з тым жа тыпам рэактара. І фінскі рэгулятар не дае дазвол пачаць гэта будаўніцтва, бо «Расатам» не можа адказаць на пэўныя пытанні датычна бяспекі. Пытанні чыста тэхнічныя, неспецыялісту яны нічога не скажуць, але сам факт таго, што «Расатам» адказаць на іх не можа, і таму пачатак будаўніцтва адкладваецца, сведчыць, што гэтая рэактарная ўстаноўка не з'яўляецца бяспечнай.

Так што, усё, што Міхадзюк прадэманстраваў сваімі развагамі, — гэта вялікая залежнасць Беларусі ад Расіі ва ўсіх сэнсах, і адказнасць Мінэнерга, як галоўнага заказчыка атамнага будаўніцтва, перад расійскай дзяржкарпарацыяй «Расатам». Гэта сумна.

### Ці дазволіць нам БелАЭС саскочыць з расійскай газавай іглы?

**Цытата Міхадзюка:** *«Мы не ведаем, што будзе праз тры гады з цаной на газ і многімі іншымі фактарамі, але перадумовы для прагнозу стварэння. Кошт ядзернай энергіі ніколі скачкападобна не вырасце, таму што кошт паліва ў ядзернай энергетыцы складае толькі 20% ад сабекошту электраэнергіі. Гэта першае пытанне аб дыверсіфікацыі відаў паліва.*

*Другое пытанне. З паліўнага балансу краіны мы выключаем каля 5 млрд кубічных метраў прыроднага газу, які Беларусь імпартуе. А гэта валютны складнік, бо долары на куплю газу трэба зарабіць».*

**Андрэй Ажароўскі:**

— Намеснік міністра зноў выступае ў ролі камівояжора і агента «Расатама». Давайце пагаворым пра тое, колькі будзе каштаваць паліўная частка атамнай электрычнасці. Так, паліўны складнік у кошце атамнай электрычнасці — каля 1/3, але і ён значны. А якім будзе кошт атамнага паліва для БелАЭС? На гэтае пытанне пакуль няма адказу. Міхадзюк спасылаецца на кошты на газ, але яны падаюць. Калі вы параўнаеце кошты на газ у 2005–2008 гадах, калі прымалася рашэнне аб будаўніцтве атамнай станцыі, і цяпер... Тады былі прагнозы, што кошты будуць вагацца ад 400 да 600 еўра за 1 тысячу кубаметраў. Але цяпер кошты значна ніжэйшыя, і эканамічны сэнс рашэння згубіўся на гэтым фоне.

Менавіта таму ў інтэрв'ю Міхадзюка няма ніякіх лічбаў. Хай ён шчыра скажа, пры якім кошце на газ ваша атамная станцыя будзе канкурэнтаздольнай. Пры існуючых сусветных коштах каля 200 долараў за 1 тысячу кубаметраў атамная электрычнасць не таннейшая за электрычнасць, якую выпрацоўваюць на сучасных электрастанцыях, што выкарыстоўваюць прыродны газ.

### Якія пытанні не былі ўзнятыя падчас інтэрв'ю?

Атамная станцыя будзе выпрацоўваць радыеадкіды і адпрацаванае ядзернае паліва. Што з гэтым рабіць, незразумела — наўрад ці ў Беларусі ёсць 4–5 лішніх мільярдаў долараў на будаўніцтва магільнікаў для высокаактыўных цеплавыдзяляючых радыеактыўных адкідаў. А сёння гэта галоўная праблема сусветнай атамнай энергетыкі: прыйшоў час будаваць магільнікі, а гэта вельмі дорага. Доўгатэрміновай стратэгіі ізаляцыі ядзерных адкідаў ад навакольнага асяроддзя ў Беларусі няма, і няма крыніц фінансавання на гэтыя мэты.

Няма адказу і на пытанне, колькі будзе каштаваць адпраўка адпрацаванага ядзернага паліва на перапрацоўку ў Расію. І ці будзе гэта адбывацца ўвогуле — адпаведная дамова дагэтуль не падпісаная.

# «Не хачу, але магу папоўніць шэрагі дармаедаў»

Зінаіда ЦІМОШАК

**Яшчэ адзін чалавек у Слуцку можа папоўніць шэрагі «дармаедаў» насуперак сваім жаданням. І, на жаль, гэтая гісторыя тыповая для невялікіх гарадоў і вёсак.**

Жанна Юрчэня 12 гадоў адпрацавала наглядчыцай Слуцкага краязнаўчага музея і была звольненая ў канцы сакавіка 2018 года ў сувязі з заканчэннем тэрміну аднагадовага кантракту. Нягледзячы на тое, што жанчыне 49 гадоў, і ў горадзе нялёгка знайсці работу, дырэктар Слуцкага краязнаўчага музея Наталля Серык не прадоўжыла з ёю кантракт.

Жанчына знаходзіцца ў пошуках працы на працягу месяца і блізкая да поўнага адчаю:

— Жыву ў арэнднай аднапакаёвай кватэры, аплата за камунальныя паслугі і кошт арэнды растуць штомесяц, да таго ж выплачваю грошы за куплены ў растэрміноўку тэлевізар, — распавядае Жанна Васільеўна. — У пошуках працы абышла амаль усе прадпрыемствы горада, пакуль што для мяне няма ніякіх вакансій.

Былая супрацоўніца краязнаўчага музея распавяла, што яна вельмі любіла сваю працу і марыла дапрацаваць у музеі да пенсіі, нягледзячы на невысокі заробак у 300 рублёў. Жанчына лічыць, што стала ахвярай асабістай непрыязні дырэктаркі музея ў сувязі са спробай адстойвання правоў у жніўні-верасні 2017 года.

— На працягу 11 гадоў асаблівых нараканняў на няякаснае выкананне мною працоўных абавязкаў з боку дырэктара не было, — распавяла сваю гісторыю Жанна Васільеўна. — Атрымлівала нават прэміі за добрую працу. У мінулым годзе з некалькімі работнікамі музею, у тым ліку і са мной, кантракт працягнулі толькі на год. Але гэта блізка да галавы не брала, паколькі музей зараз знаходзіцца на рамонце, і мы працуем у галерэі мастацтваў. Думала, што гэта звычайная з’ява ва ўсіх установах культуры. Гэтак жа, як і падзел на «прыбліжаных» і «чужых».

Аднак напрыканцы жніўня 2017 года жанчына пачала адчуваць ціск з боку адміністрацыі музея.

«Аднойчы я і некалькі супрацоўнікаў адмовіліся выконваць працу дворніка — палоць градкі і месці тэрыторыю. Гэтую працу мы неаднаразова і без спрэчак выконвалі ў тыя дні, калі дворнік быў у адпачынку. Але ў той дзень дворнік прысутнічала на працы. Пасля гэтага і пачалі ўзнікаць прэтэнзіі з боку начальніцы. Так, па выніках праверкі ўнутранай санітарнай камісіяй, 30 жніўня 2017 года ўсім супрацоўнікам музея былі зроблены розныя заўвагі. У мяне было найменш заўваг, але камісія склала ў адносінах да мяне акт аб наяўнасці мухі каля вогнетушыльніка і павуціння за адным з радыятараў ацяплення. Мне было прапанавана падпісаць акт, а я адмовілася гэта зрабіць, паколькі палічыла адну муху недастаткова сур’ёзнай прычынай для складання адмысловага акту, які можа стаць прычынай для звальнення з працы. Нягледзячы на тое, што ў акце былі ўказаны і іншыя вінаватыя супрацоўнікі музея, дырэктар пачала пагражаць звальненнем толькі мне».

Атрымаўшы паведамленне аб непрацягненні кантракту, Жанна Юрчэня звярнулася да дырэктара музея Наталля Серык з просьбай захаваць працу, бо інакш яна апынецца ў цяжкім фінансавым становішчы. Аднак у канцы сакавіка была звольненая. Каб застацца на працы, звярталася за дапамогай у райкам дзяржаўнага прафсаюза, амаль ва ўсе ўладныя кабінеты. Была на прыёме і ў намесніка старшыні Слуцкага райвыканкама па ідэалогіі і сацыяльнай працы Л. Дабравольскай, старшыні Слуцкага райвыканкама А. Янчэўскага. Ніхто не дапамог, усе спасылаюцца на тое, што *«райсполком не вправе указывать нанимателю на необходимость продления (непродления) трудового договора (контракта) с работниками»*.

Дырэктар Слуцкага краязнаўчага музея адмовілася каментаваць сітуацыю, але паказала подпіс Жанны Юрчэні на заяве аб звальненні па ўзаемнай згодзе бакоў.

— Па існуючаму заканадаўству аб кантрактах нібыта ўсё правільна, а як мне жыць далей? — задае пытанне Жанна Васільеўна.

Былая супрацоўніца музея патлумачыла, што паставіла подпіс на гэтым дакуменце пад ціскам адміністрацыі, калі не знайшла падтрымкі ў прафсаюзе і райвыканкаме:

— Дырэктар музея сцвярджала, што паколькі я ўсё роўна звольнена, такая фармулёўка для мяне будзе лепшая для далейшага працаўладкавання, — патлумачыла Жанна Васільеўна.




**«Камісія склала ў адносінах да мяне акт аб наяўнасці мухі каля вогнетушыльніка і павуціння за адным з радыятараў ацяплення. Я адмовілася падпісаць яго, бо палічыла муху недастаткова сур’ёзнай прычынай для складання дакумента, які можа стаць прычынай звальнення»**




Аднак карэктная фармулёўка пакуль не вельмі дапамагае знайсці працу. Каб выжываць, жанчына згадзілася працаваць за 10 рублёў у дзень у прадпрымальніка, што гандлюе адзеннем, — нават без афіцыйнага афармлення. Аднак вытрымала толькі 5 дзён.

— Рабочы дзень працягваецца 10 гадзін — з 8:00 да 18:00, увесь дзень на нагах, немагчыма нават прысесці. А ў выніку — толькі 10 рублёў, — распавядае жанчына. — Складваецца ўражанне, што прыватныя прадпрымальнікі добра ведаюць пра беспрацоўе ў Слуцку і гэтым карыстаюцца.

Сапраўды, Слуцк уваходзіць у групу праблемных гарадоў па наяўнасці працы і яе нізкай аплаце. У тэрытарыяльным цэнтры занятасці вакансіі для такіх катэгорый працоўных, як Жанна Васільеўна, адсутнічаюць, а заробкі па існуючых вакансіях таксама невысокія — 300–400 рублёў. Праца падсобнага рабочага ў будаўнічым трэсце ацэньваецца ў 315 рублёў, муляра ў ПМК — 226–400 рублёў.

Крыху болей зможа атрымаць галоўны бухгалтар у Слуцкай раённай ветэрынарнай станцыі — 450 рублёў, рабочы кухні ў дзіцячым садзе №5 задаволіцца заробкам у 350 рублёў. Тынкоўшчык-плітачнік зможа прэтэндаваць аж на 500 рублёў. Жанна Васільеўна пакуль не рэгістравалася ў цэнтры занятасці, бо баіцца абавязковых грамадскіх работ у выглядзе красавіцкага збору камянёў на сельскагаспадарчых палях. Такая праца супрацьпаказана ёй па стану здароўя.

Час ідзе, пужае не толькі галоднае існаванне, але і прывід «дармаедства», за якое дзяржаве трэба будзе заплаціць канкрэтныя сур’ёзныя грошы.

— Хто не хоча стаць дармаедам, той і не стане, — запэўнівае Ларыса Лысова, намеснік начальніка ўпраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Слуцкага райвыканкама. — Хай прыходзіць з усімі паперамі, будзем дапамагаць працаўладкоўвацца.

Хаця чыноўніца і не паабяцала нічога канкрэтнага, будзем спадзявацца, што працоўнае жыццё Жанны Юрчэні ў хуткім часе наладзіцца, і ёй будзе на што жыць і аплачваць крэдыты. Аднак відавочна, што новы дэкрэт аб «дармаедстве» яшчэ больш павысіць ціск на працоўных, якія знаходзяцца ў поўным падпарадкаванні перад наймальнікамі, паколькі звальненне пагражае дадатковымі вялізнымі выдаткамі на камунальныя паслуг.



**Дадатак да пастановы Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь №25 — кваліфікацыйныя характарыстыкі пасад служачых культурна-асветных устаноў.**

Службовыя абавязкі наглядчыка музея:

Забяспечвае захаванасць экспанатаў у даручанай яму экспазіцыі ад пашкоджання і крадзяжу. Прымае і здае па вопісу па заканчэнні працы даручаную яму экспазіцыю дзяжурнаму супрацоўніку. Сочыць за чысцінёй замацаваных за ім залаў. Назірае за тым, каб наведвальнікі не парушалі правілы паводзін у музеі і рэжым працы.

Павінен ведаць: правілы паводзінаў наведвальнікаў у музеі; рэжым работы музея; правілы захоўвання экспанатаў; правілы і нормы аховы і пажарнай бяспекі.

Літаратурная Беларусь

Выпуск №4 (140)
(красавік)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by



Змест



# Міхась Зізюк: «Пісьменнік павінен любіць тое, пра што піша»

***— Шаноўны Міхась Міхайлавіч, Вы жывяце і працуеце ў Навагрудку. Распавядзіце пра літаратурны працэс у першай сталіцы ВКЛ. На творы якіх аўтараў-землякоў вы параілі б звярнуць асаблівую ўвагу чытачам?***

— Я жыву і працую ў Навагрудку з 1993 года, але як пісьменнік стаўся значна пазней, недзе ў 2005–2007 годзе. Жыццё склалася так, што амаль дзесяць гадоў пасля заканчэння школы служыў у Расіі. Я ніколі не марыў стаць пісьменнікам, хоць пісаць цягнула з дзяцінства. Нават калі вярнуўся ў Беларусь, я не адразу прыйшоў да літаратуры. У мяне быў свой, часам няпросты, шлях да ўсведамлення беларускасці. Дзякаваць Богу, ён адбыўся. Што да сёняшняга дня Навагрудчыны літаратурнай, то горад мае ў складзе Саюза беларускіх пісьменнікаў таленавітую паэтку Святлану Абдулаеву і мяне. Шчыра кажучы, няшмат ведаю пра сучасных выхадцаў з Навагрудчыны. Магу ўзгадаць пісьменніка і літаратуразнаўцу Яўгена Лецку, паэта Змітра Арцюха, пэўны час жыла і працавала ў Навагрудку пісьменніца Таіса Супрановіч. У раённай газеце друкуюцца вершы некаторых мясцовых паэтаў. Сярод іх вызначыў бы шчырыя і таленавітыя вершы Марыі Быт. Цікавыя і змястоўныя матэрыялы друкуе дырэктар музея Адама Міцкевіча Мікалай Гайба. Ён — аўтар некалькіх кніг пра геніяльнага паэта, іх параіў бы прачытаць. Святлана Абдулаева і я ладзім імпрэзы з нагоды выдання сваіх кніг. Прэзентацыя маёй кнігі «Планктон» прайшла ў ліпені 2017 года ў актавай зале аграрнага каледжа. У лістападзе ў раённай бібліятэцы было арганізавана некалькі прэзентацый кнігі для дзяцей «Энерджы і дзеці з 5 «А»». А супрацоўнікі бібліятэкі зрабілі невялікі спектакль па матывах гэтай казкі. Таксама я выязджаў з выступамі ў Дзятлава, Карэлічы і Іўе. У лістападзе Святлана Абдулаева выдала новы зборнік паэзіі, але гэтым разам на рускай мове. Вечарына адбылася ў карцінnай галерэі мастака Кастуся Качана. У снежні ў раённай бібліятэцы адбылася пасмяротная прэзентацыя зборніка вершаў таленавітага самародка з Навагрудчыны Самсона Пярловіча, аўтара дзвюх прыжыццёвых кніг. Лёс не шкадаваў Самсона Георгіевіча, ён прайшоў ГУЛаг, але не скарыўся. Прэзентацыя адбылася дзякуючы найперш тытанічнай працы Святланы Абдулаевай, таксама і супрацоўнікаў бібліятэкі. Усім параіў бы прачытаць яго шчырыя і пранікнёныя вершы, звярнуць увагу на творчасць Святланы Абдулаевай. Але ж на першым месцы, безумоўна, творчасць славутага Адама Міцкевіча. Яго паэзія бессмяротная.





**Жыццё склалася так, што амаль дзесяць гадоў пасля заканчэння школы служыў у Расіі. Я ніколі не марыў стаць пісьменнікам, хоць пісаць цягнула з дзяцінства. Нават калі вярнуўся ў Беларусь, я не адразу прыйшоў да літаратуры. У мяне быў свой, часам няпросты, шлях да ўсведамлення беларускасці. Дзякаваць Богу, ён адбыўся**

***— Нядаўна выйшла Вашая новая кніга «Планктон», у якой сабраныя творы розных жанраў: прыгодніцкія і містычна-фантастычныя аповесці, псіхалагічныя апавяданні і вандроўна-падарожныя нарысы. А якому жанру аддаяце перавагу і чаму?***

— Кніга «Планктон», якая выйшла летась, — вынік працы не аднаго года. І тое, што туды ўвайшлі творы розных жанраў, не выпадкова. Мне цяжка аддаць перавагу нечаму аднаму. На фантастыцы я вырас, першы твор быў напісаны ў жанры фэнтэзі. Але нярэдка душа прагне іншага: непасрэднасці, шчырасці, апісальнасці. Хочацца раскрыць характары галоўных герояў, расказаць пра іх, знайсці для чытача нешта цікавае, а, магчыма, і нечаму навучыць. Люблю вёску, яе няспешнае ціхае жыццё, якое пахне дзяцінствам і любоўю да роднай зямлі. Люблю памарыць, павандраваць са сваімі героямі, пабываць з імі ў самых нечаканых месцах. Бывае, падкрадаецца сум і адзінота, яны спрабуюць загнаць цябе ў цёмны куток, туды, дзе туга адольвае і ўкрывае сэрца. Менавіта таму і пішуцца самыя розныя творы — сюжэтаў прыходзіць многа, хочацца ўсе іх рэалізаваць. А яшчэ не адпускае дзяцінства. У тыя гады я складаў казкі для сваіх братоў і сястры на цёплай бацькоўскай печы. Таму цяпер рэалізаваліся мары дзяцінства. І сёння ў сталe чакаюць свайго часу дзве цудоўныя казкі, але на іх выданне няма сродкаў. Характар у мяне бурапенны і імклівы, як вясновая паводка, і, у той жа час, я адкрыты, шчыры і даверлівы. Хутчэй за ўсё, перавага будзе на баку мастацкай прозы ў стылі Васіля Уладзіміравіча Быкава. Гэта тое, да чаго я імкнуся. Але на гэты час я не магу сказаць, у якім жанры будзе наступны твор, бо ўсе жанры мне цікавыя. Мне таксама цікавая і блізкая аўтарская песня. Я пішу свае песні і выконваю іх пад гітару, а вучыўся гітары ў трыццаць восем. Пішу яшчэ і байкі.



***— Вы напісалі таксама дзве кнігі для дзяцей: «Янка, Шмурдзік, Бухматка ды іншыя» і «Энерджы і дзеці з 5 «А»». Якой, на Ваш погляд, павінна быць дзіцячая кніжка?***

— Дзіцячы свет — гэта асаблівы свет. Мы вырастаем і забываем амаль усё тое, што хацелі ў дзяцінстве, пра што марылі, пра што думалі. Застаюцца толькі аскепкі ад той непасрэднасці і чысціні. На мой погляд, дзіцячая літаратура не павінна быць кан'юнктурнай, падладжвацца пад рэйтынгі і грошы. Яна павінна быць прасякнута любоўю, шчырасцю, дабрынёй, быць зразумелай, але і не спрошчанай. Безумоўна, значную ролю адыгрываюць малюнкі — не трэба забываць пра сілу дзіцячага ўяўлення. Мне здаецца, самая істотная рэч для дзіцячай кнігі адна: пісьменнік павінен любіць тое, пра што піша. Дзеці адчуваюць гэта на падсвядомым узроўні. А для беларускамоўнай дзіцячай літаратуры самае галоўнае — гэта падтрымка дзяржавы, інакш у хуткім часе можа стацца так, што яе не будзе каму чытаць.

***— Каго Вы лічыце сваімі настаўнікамі ў літаратуры, творчасць якіх пісьменнікаў найбольш паўплывала на станаўленне Вас як творцы?***

— Беларуская літаратура багатая на таленавітых людзей. І гэта прытым, што самых лепшых знішчылі ў 1937 годзе. Але прабілася новае, не менш таленавітае, пакаленне. Я зачытваўся творамі Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, Віктара Казько, Вячаслава Адамчыка, Івана Мележа, люблю творы Віктара Карамазава, Анатоля Кудраўца, Генрыха Далідовіча, Андрэя Федарэнкі, паэзію Янкі Купалы і Максіма Багдановіча. Я ўжо прызнаваўся, што да ўсведамлення сваёй беларускасці прыйшоў даволі позна. І па гэтай прычыне нямала «упусціў», не прачытаў многае з таго, што павінен быў прачытаць у свой час. На роднай мове пачаў пісаць толькі ў саракагадовым узросце. У правінцыйным Навагрудку не было творчых людзей з вопытам, не было таго, хто б параіў і падтрымаў. Некімі парадамі мне дапамаглі Віктар Казько, Андрэй Федарэнка, Яўген Лецка — з імі я перапісваўся, меў сякія-такія стасункі. Але самым лепшым настаўнікам былі кнігі Васіля Быкава і Уладзіміра Караткевіча. Найбольш блізкай для мяне стала проза Васіля Уладзіміравіча. Ягоная творчасць — гэта ўзор для сапраўднага пісьменніка. Настолькі шчымлівая і праўдзівая ён выпісвае людскія вобразы, характары і падзеі, настолькі тонка і трапна перадае драматызм сітуацыі, малюе псіхалагічныя партрэты, што чытач проста не можа застацца абыякавым. Ва Уладзіміра Караткевіча можна навучыцца многаму, найперш — самай шчырай любові да Беларусі, гонару за яе гісторыю, уменню захапіць чытача сваім стылем і сюжэтам. Я стараюся быць самім сабой і рухацца наперад, а астатняе пакажа час...

**Гутарыў Алесь Сачанка**




# Прэмія «Дэбют»

**Сталі вядомыя імёны пераможцаў прэміі «Дэбют» у намінацыях «Проза» і «Пераклад». Журы конкурсу сёлета вырашыла не ўручаць прэмію ў намінацыі «Паэзія».**

Прэмія «Дэбют» уручаецца пераможцам ужо ў восьмы раз. Яе атрымліваюць (па меркаванні журы) лепшы празаік, паэт і перакладчык, узрост якіх не перавышае трыццаці пяці гадоў.

Сяргей Дубавец, сябар журы прэміі, сказаў у часе ўручэння ўзнагароды, што яго дэбют быў трыццаць пяць гадоў таму: «Я не ведаю, хто якую матывацыю меў, калі пісаў гэтыя кнігі. Нехта, магчыма, хацеў выдаць кнігу. Але што мне, чытачу, да гэтага? Магчыма, нехта хацеў атрымаць грошы. Добрая матывацыя, але што мне да яе? Калі я чытаў кнігі намінантаў на прэмію, то звяртаў увагу на тое, ці намагаўся аўтар здзівіць свет. Гэта насамрэч шчаслівыя выпадкі, калі ў кнігах дэбютантаў ты знаходзіш нешта, што застаецца з табой і далей. Усе прадстаўленыя кнігі напісаныя з беларускімі рысамі. Гэта важна. Далей людзі могуць пісаць пра што заўгодна. Але важная сённяшняя закваска, бо без яе яны не змогуць стаць літаратарамі сусветнага ўзроўню».

Усе намінанты на прэмію прачыталі са сцэны фрагменты са сваіх перакладаў і мастацкіх твораў.

Лаўрэаткай прэміі «Дэбют» у намінацыі «Проза» стала Зарослава Камінская — за кнігу «Русалкі клічуць».

У намінацыі «Пераклад» лаўрэатам стала трыа перакладчыц: Наталля Бінкевіч, Ганна Комар і Юля Цімафеева — за кнігу «Чарльз Букоўскі. Святло, і паветра, і месца, і час».

У намінацыі «Паэзія» не было вылучана лаўрэата. Марыйка Мартысевіч як сябра журы патлумачыла гэта тым, што, па-першае, сярод намінаваных аўтараў журы не пачула істотнага голасу ў паэзіі, па-другое, было прадстаўлена толькі тры кнігі.

Старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч сказаў, што сёлета большая ўвага надавалася празаічным кнігам, якія выдаваліся як вынік працы маладых літаратараў у Школе маладога пісьменніка. Магчыма, гэты факт абумовіў малую колькасць паэтычных твораў, якія ўдзельнічалі ў конкурсе.

Але журы вырашыла скарыстацца магчымасцю спецпрэміі, якая прапісана ў статуце. Ёй узнагародзілі Ігара Кулікова «за маштабнасць і адвагу ў перакладніцкіх праектах, адкрыццё новых магчымасцяў і вымярэння мовы». Ігар пераклаў з санскрыту кнігу «Рыгведа. Кола I».

Пераможцы прэміі ў кожнай з намінацыяў атрымалі чэк ад Фонду «Вяртанне» на суму, эквівалентную 2000$ .

Сёлета ў журы прэміі ўвайшлі Ігар Бабкоў, Міхал Бараноўскі, Павал Берагові, Марына Весялуха, Сяргей Дубавец, Марыя Мартысевіч і Усевалад Сцебурака.

Прэмія «Дэбют» імя Максіма Багдановіча была заснаваная ў 2010 годзе Дабрачынным фондам «Вяртанне», Саюзам беларускіх пісьменнікаў і Беларускім ПЭН-цэнтрам. Сярод папярэдніх пераможцаў прэміі — Віталь Рыжкоў, Андрусь Горват, Наталка Харытанюк, Антон Францішак Брыль, Віктар Марціновіч, Андрэй Адамовіч, Міхал Бараноўскі, Адэля Дубавец, Ганна Янкута, Уладзь Лянкевіч, Кацярына Оаро, Кацярына Маціеўская, Аляксей Палачанскі, Таццяна Нядбай, Анатоль Івашчанка, Святлана Рогач і інш.

**Вікторыя Чаплева**

# Стыпендыя імя Магдалены Радзівіл

**Абвешчаныя імёны лаўрэатак Стыпендыі імя Магдалены Радзівіл для пісьменніц і перакладчыц. Яе атрымалі Вера Бурлак (Жыбуль) з Мінска, Ірына Дашына (Берасце) і Наста Кудасава (Рагачоў).**




Стыпендыя імя Магдалены Радзівіл была заснаваная ў 2017 годзе Саюзам беларускіх пісьменнікаў. У Склад Рады Стыпендыі ўвайшлі: Святлана Алексіевіч (старшыня Рады), Уладзімір Арлоў, Алена Макоўская, Барыс Пятровіч (Сачанка) і Юлія Чарняўская.

Стыпендыяткамі 2017 года былі Таццяна Барысік (Магілёў), Алена Брава (Барысаў) і Дар'я Ліс (Смаргонь).

# «Новы замак»-2017

**Выйшаў у свет літаратурны альманах «Новы замак» Гарадзенскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў. Гэта ўжо шосты выпуск альманаха.**

Укладальнік «Новага замка» — пісьменнік Янка Трацяк. Альманах даволі разнастайны па літаратурных жанры. Ён парадуе ўсіх, хто цікавіцца паэзіяй, прозай, перакладамі, літаратуразнаўствам, эпісталярыем і гумарам. З новымі празаічнымі творамі чытачоў пазнаёмяць Віктар Варанец, Аркадзь Ліцьвін, Анатоль Брусевіч, Валянцін Дубатоўка, Віктар Сазонаў, Міхась Зізюк і Леанарда Юргілевіч.

З «Сінімі вершамі» (трохрадкоўямі) упершыню ў альманаху выступае гарадзенскі літаратар Уладзімір Хільмановіч. Гэта філасофскія радкі пра нашае жыццё:

*Кволы прамень надвячорка,*
*Боль слізгануў па мінулым,*
*Тонкія рысы надзеі.*

Альжбета Кеда вынесла на суд чытачоў казкі, якія зацікавяць і дарослых, і юных чытачоў. А прафесар Аляксей Пяткевіч прыгадвае хлапчукоў ваенных гадоў. Сяргей Чыгрын напісаў успаміны пра Петруся Макаля, Зоську Верас і Рудольфа Пастухова, а таксама публікуе невядомы ліст жонкі Янкі Купалы да Аляксанда Жыткевіча з вёскі Вялікая Кракотка Слонімскага раёна.

Да 80-годдзя Данугы Бічэль Анатоль Брусевіч разглядае тры перыяды ў паэзіі «матулі гарадзенскага літпрацэсу», а да 70-годдзя Юркі Голуба Рычард Бялячыц напісаў артыкул пра яго творчасць «Палёт Голуба».

Добра прадстаўлены ў альманаху і пераклады. На беларускую мову перакладзены вершы Ганны Ахматавай, Эн Бронтэ, Мікалая Гумілёва, Адама Міцкевіча і Тадэвуша Міціньскага, Барыса Пастарнака і Уільяма Эрнэст Хенлі. Вершы гэтых паэтаў пераклалі на беларускую Аліна Паўлоўская, Галіна Самойла, Святлана Абдулаева і Анатоль Брусевіч.




Альманах «Новы замак» публікуе і шэраг іншых цікавых і новых літаратурных твораў і даследаванняў.

**Барыс Баль, «Радыё Рацыя»**

# Зараслава Камінская: «Я здзейсніла сваю мару»

**Прэстыжную прэмію маладая пісьменніца Зараслава Камінская атрымала за першую кнігу пра мастачку-прымітывістку Алену Кіш, імя якой доўгі час было страчаным для Беларусі.**



Яе аповесць «Русалкі клічуць» (якая выйшла ў кніжнай серыі Саюза беларускіх пісьменнікаў «Пункт адліку») — сінтэз мастацкай фантазіі з дакладнымі гістарычнымі фактамі. Алена Кіш была творчай вандроўніцай, хадзіла па вёсках і малявала дываны, часамі нават за ежу. Яе талент пачалі ўсхваляць толькі пасля смерці, якая таксама была трагічнай — мастачка ўтапілася.

Пра асобу беларускай мастачкі Алены Кіш беларуская пісьменніца Зараслава Камінская даведалася не так даўно. Сама здзіўляецца: думала, што шмат ведае пра беларускую культуру, а тут такое адкрыццё... Пачала капаць глыбей і адкрыла цэлы таямнічы свет наіўнага мастацтва. Многія чытачы казалі, што да з'яўлення гэтага выдання нават не ведалі пра існаванне такога накірунку ў Беларусі. Таму напісанне кнігі было не выпадковасцю, а, хутчэй, заканамернасцю.

Каб паступіць на другі год навучання ў Школе маладога пісьменніка (праект Саюза беларускіх пісьменнікаў, — «Sputnik»), трэба было прапанаваць ідэю твора, і Зараслава вырашыла зрабіць падарунак перш за ўсё сабе.

«Алена з'яўляецца ўвасабленнем мастака з даволі распаўсюджаным лёсам — яе працы былі не прызнаныя пры жыцці. Менавіта таму яна цікавіла мяне як асоба і сімвал складанага лёсу мастака», — кажа маладая пісьменніца пра гераіню сваёй містычна-дэтэктыўнай аповесці.

Трактаваць назву аповесці нават сама аўтарка не можа адназначна.

Па-першае, русалкі — гэта міфічныя дзяўчыны, якія самастойна інсуюць у творы. Па-другое, з русалкай Зараслава параўноўвае і саму Алену Кіш. Увогуле, русалка — гэта двайстая істота ў беларускай міфалогіі, бо бываюць русалкі тапельцы ці ахвяры, а бываюць пачвары, якія самі забіваюць людзей.

«Русалкі клічуць — гэта нават крыху пра мяне, бо, напісаўшы гэтую кнігу, я здзейсніла сваю мару, чаго не магла зрабіць доўгі час. Можна сказаць, што, зрабіўшы гэта, я адгукнулася на покліч сваёй мары», — тлумачыць Зараслава і кажа, што яе кніга — пра пошук моцы, пра адхіленне ад стэрэатыпаў і нежаданне ісці па звычайным для жанчыны шляху.

Пісаць Зараслава пачала на журфаку, але пасля «завучылася» і доўгі час была толькі чытачом. Вярнуцца на шлях пісьменніца-рэкламістка з Наваполацка вырашыла, калі даведалася пра Школу маладога пісьменніка. Цягам першага года пісала невялічкія апавяданні, на другім годзе вырашыла здзейсніць мару аб кнізе.

«Для мяне гэта цікавы досвед, таму што доўгі час я не пісала нічога, акрамя канцэпцый і рэкламных тэкстаў. Вельмі рада, што атрымалася. І ўжо тое, што кнігу надрукавалі — было асабістай перамогай», — усміхаецца дзяўчына.

«Сучасная беларуская літаратура проста цудоўная. Яна шматгранная, у ёй вельмі шмат таленавітых пісьменнікаў. Толькі шкада, што яна не папулярная сярод вялікай колькасць чытачоў», — распавядае Зараслава.

Яна мяркуе, што гэта праблема любой літаратуры на постсавецкай прасторы, бо ў нас няма такога ж добрага маркетынгавага падыходу, як, напрыклад, у Заходняй Еўропе.

«Мне падаецца, беларуская літаратура вартая таго, каб яе чыталі. Гэта важна не для пісьменнікаў, а, перш за ўсё, для чытачоў, бо знаёмства з беларускай літаратурай — унікальны досвед, якога не атрымаеш ні з рускай літаратуры, ні з замежнай, ні з кіно. Гэта нешта асабістае і пра цябе», — падкрэслівае аўтарка...

«Кожны павінен займацца сваёй справай: пісьменнік піша, а выдавецтва займаецца распаўсюджваннем яго кнігі», — падсумоўвае Зараслава.

Яшчэ адна прычына праблем у літаратуры — непапулярнасць мовы, але тут адзінае, што можа зрабіць пісьменнік — працаваць, ствараць моўнае асяроддзе і паказваць яе прыгажосць, каб людзям хацелася размаўляць, чытаць і пісаць па-беларуску, бо «няведанне мовы — гэта абкраданне сябе».

«Чалавек разам з беларускай мовай губляе нешта безэквівалентнае. Гэта няма чым замяніць, таму я хачу, каб мае будучыя дзеці абавязкова ведалі беларускую мову», — кажа Зараслава.

Яе бацькі, дарэчы, з Украіны, але гэта не перашкаджае ім чытаць беларускамоўныя творы дачкі і вучыць па іх мову...

**Паводле «BelSputnik»**

# З нізкі «Уладзевы гісторыі»



Уладзімір СІЎЧЫКАЎ

## Прачуханкі

Адзін час Галіна Іванаўна А., педагог-гісторык паводле адукацыі, мела пасаду, якая адзначалася ў яе працоўнай кніжцы запісам доўгім і мудрагелістым: «Кіраўнік арганізацыйнай групы па стварэнні музея гісторыі жаночай адукацыі ў Беларусі». Музей той ствараўся ў адзінай у краіне Жодзінскай жаночай гімнаіі.

Аднаго дня запрасіла Галіна Іванаўна ў гімназію на літаратурна-мастацкую імпрэзу ўраджэнца горада па-над Плісою Уладзіміра С. з ягонымі калегамі.

Актавая зала жаночай (пісьменнікі аніяк не маглі ўцяміць, чаму завецца яна жаночай, а не дзявочай, бо вучацца ў ёй усё ж дзяўчаты?) гімназіі была паўнюсенькая.

Галіна Іванаўна распачала імпрэзу — павітала ўсіх прысутных і стала прадстаўляць гасцей.

Спачатку назвала земляка, мастака і пісьменніка Уладзіміра С., які ў свой час вучыўся ў будынку гімназіі, што належаў тады сярэдняй школе №3.

—У нас у гасцях таксама, — працягвала вядоўца, — перакладчык, паліглот і педагог, грамадскі дзеяч, экс-дэпутат Вярхоўнага Савета нашай краіны Лявон Пятровіч Баршчэўскі!

Гімназічная ідэалагіня, плацінавая бландзінка Людміла Б., якая прыпазнілася, а таму стаяла ў дзвярах, бо не магла праціснуцца да сталоў, за якімі размясціліся госці, схапілася за галаву.

«Уй, блін! — чыталася ў яе на вуснах. — Каго запрасілі?!»

Калі аціхлі чарговыя гарачыя воплескі гімназістак, Галіна Іванаўна прадоўжыла:

— Мы рады вітаць у нашай гасціннай зале і Народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна!

Ідэалагіня зноў схапілася за галаву і паспрабавала нешта патлумачыць Галіне Іванаўне на мігах. Тая зглядзела, што Генадзь Мікалаевіч Бураўкін не спяшаецца адгукацца на яе прадстаўленне і падымацца з крэсла, а госці штосьць падказваюць ёй паўшэптам.

— Прабачце, дзяўчаты, прабачце і вы, дарагія госці! — нарэшце змікіціла яна, што змарозіла нейкую недарэчнасць, спахапілася і пастаралася выправіць сваю памылку: — Я вельмі хвалююся, а таму яшчэ раз перапрашаю. У нас у гасцях сёння — Народны паэт Беларусі Генадзь Бураўкін, аўтар тэкстаў такіх знакамітых песень, як «Завіруха» і «Калыханка»!

Гэтым разам давялося Генадзю Мікалаевічу падымацца і раскланьвацца, бо хіба ж можна не зваца Народным паэтам аўтару добрага тузіна шлягераў, а таксама песні, якая штовечар гучыць для дзетак з тэлеэкранаў?!

Тым часам на твары ў ідэалагіні можна было прачытаць: «Ну, усё, капец! Калі не звольняць, дык атрымаю як мінімум добрай прачуханкі ў гарана ці нават у гарвыканкаме!»

Імпрэза ж прайшла ўдала і ў нечым нават будзёна: сталічныя госці пачыталі вершы і пераклады, адказалі на пытанні, падарылі бібліятэцы свае кнігі дый пацешыліся кветкам ад гімназістак.

Не змаглі літаратары прамінуць таго дня і гарадскую бібліятэку. Пагаварылі з яе супрацоўніцамі, пакінулі аўтографы на сваіх аўтарскіх кнігах, што знайшліся на паліцах і ў бібліятэчных фондах, а таксама сфатаграфаваліся на добры ўспамін разам з бібліятэкаркамі.

А праз некалькі тыдняў дазналіся сталічныя госці, што дырэктарка бібліятэкі, лаўрэат прэзідэнцкай прэміі «За духоўнае адраджэнне» Тамара Ч. выйшла з адпачынку і ўзняла гвалт, калі падначаленыя пахваліліся ёй нядаўняй імправізаванай сустрэчай і аўтографамі знакамітых пісьменнікаў:

— Ды вы што! Знайшлі каго запрашаць у бібліятэку, знайшлі каго прывячаць у храме культуры! Вы што, не ведаеце — гэта ж бэнээфаўцы, гэта ж апазіцыянеры! Праз тое нашы ўлады ім ні званняў, ні прэмій, ні пасадаў не даюць!

## Raj

Два літаратары, суседзі па сталічным двары вярталіся з паседжання Рады пісьменніцкай суполкі, што праходзіла ў Сусветны дзень правоў чалавека і дзе чальцом творчага саюзу быў абраны і іх даўні сябра-мастак.

— Ну вось і вярнуліся мы ў свой Рай! — зазначыў малодшы, калі прамінулі яны каланаду перад Батанічным садам, збочылі праз арку з шумнага і ўвечары праспекта ў свой двор.

— Ну, ты, Уладзя, дык папраўдзе вяртаешся ў рай, да сваёй жоначкі Раі, — азваўся старэйшы.

— Але, калі як след разважыць, дык і двор наш можна ўважаць за райскі ці эдэмскі сад.

— Двор, і праўда, някепскі — вялікі, ад «Акадэмкнігі» да Батанічнага саду, і зялёны, быццам міні-парк. Кажуць, што ў ім раскашуе нямала кустоў і дрэў-экзотаў, якія, бывала, аказваліся лішнімі пры высадцы ў Батсадзе. Мне дык тут жывецца хораша і зручна — побач Дом друку, Акадэмія навук і Палац воднага спорту, а да станцыі метро, лічы, некалькі крокаў... Праўда, апошнімі гадамі кавярні і дарагія буцікі «з'елі» як мінімум тры прадуктовыя крамы. Ну ды гэта дробязь...

— Калі мецца на ўвазе краму «1000 дробязяў», дык у нас іх пад бокам тысяча, — нібыта пагадзіўся са старэйшым калегам Уладзя, але паспрабаваў зноў заінтрыгаваць. — Але я, шаноўны Генадзь Мікалаевіч, меў на ўвазе найперш Рай з пазамінулага стагоддзя, пра які і сам дазнаўся толькі днямі...

— Ну дык не марудзь, расказвай!

—Ды вось, агледзеў я ў інтэрнэце, на сайце «Нашай Нівы» польскамоўную мапу 1859 года. Там акурат на месцы нашага квартала пазначана нейкае паселішча, падпісанае як Raj. Зноў жа — дробязь, а прыемна!




— Дзіва што! Вось каб цяперашні парк Чалюскінцаў перайменаваць у Райскі парк, а яшчэ лепей — у Райскі сад!?

— Або хаця б аднавіць адну з гістарычных назваў — Камароўскі лес, лес Ваньковіча ці Камароўскі парк.

— І праўда, якое дачыненне маюць да Беларусі тыя, нібыта героі, чалюскінцы? — уздыхнуў спадар Генадзь і тут жа папрасіў: — Ты скінь мне на дыскету ці на флэшку той файл з мапаю.

— Магу хоць сёння пераслаць яго электроннай поштаю.

— Я, праўда, не дужа сябрую з найноўшай тэхнікай, але сын з дачкою дапамогуць разабрацца, расчытаць той рэбус.

— Я ўжо спрабаваў, але покуль што не ўдаецца. Не далі рады ні намеснік дырэктара Музея Мінска, гісторык Сяргей Тарасаў, ні даследчык землеўладанняў, у тым ліку Менска і Менскай губерні, Зміцер Дрозд. Кажуць яны, што мог нейкі дзівак іменаваць Раем свой фальварак або маёнтак, але... А ў мяне дык, калі думаю пра гэта, круціцца ў галаве даўняя пугачоўская песенька:

*...Вы не верьте, что живу я, как в раю,*
*И обходит стороной меня беда,*
*Точно так же я под вечер устаю*
*И грущу, и реву иногда...*

— Ну, а каб, як кажуць сённяшнія маладзёны, жыццё раем не падавалася, зазначу, што і тут, у нашым Раі, не адно толькі ружовыя (і зялёныя!) фарбы.

— Што вы, Генадзь Мікалаевіч, хочаце гэтым сказаць?

— Ды хаця б тое, што зусім поруч, імаверна, на месцы цяперашняй Акадэміі мастацтваў шчыраваў знакаміты фінскі мастак і мысляр Александэры Ахола-Вало. Ён, дарэчы, не толькі ілюстраваў кнігі беларускіх пісьменнікаў, пачынаючы ад другога выдання «Новай зямлі» Якуба Коласа, а сам настолькі дасканала вывучыў беларускую мову, што нават пісаў на ёй мастацкія творы. Чуў пра такога?

**Дазналіся сталічныя госці, што дырэктарка бібліятэкі, лаўрэат прэзідэнцкай прэміі «За духоўнае адраджэнне» Тамара Ч. выйшла з адпачынку і ўзняла гвалт, калі падначаленыя пахваліліся ёй нядаўняй імправізаванай сустрэчай і аўтографамі знакамітых пісьменнікаў**

—Па-мойму, гадоў дзесяць жыў ён у Беларусі, а ў Віцебску вучыўся ў мастацкай школе Юдэля Пэна. Працаваў у часопісе «Беларускі піонэр», папярэдніку цяперашняй «Бярозкі», а таксама ў Інбелкульце, быў знаёмы з Казімірам Малевічам і Маркам Шагалам...

— Усё правільна. У 1930 годзе збудаваў ён «Храм гісторыі чалавечых пакутаў» вышынёю з твой цяперашні дом, ледзь не сяміпавярховік. У цэнтры яго стаяла шасціметровая статуя — гэткі Галіяф, алегорыя сусветнага бандытызму. А за роспісы там былі адлюстраванні разнастайных катаванняў ад старажытнасці да ягоных дзён XX стагоддзя. Фіна за тое называлі Мікельанджала камунізму. Не ведаю, радавацца ці не, але павільён той улетку сорак першага знішчылі нямецкія фашысты... Ну, а каб скончыць гаворку на мажорнай ноце, выкажу спадзеўку, што ў іншым, нябесным свеце, чакацьме нас рай, лепшы за гэты — тутэйшы і цяперашні...

## Плывец

Паэт, празаік, перакладчык і публіцыст Янка С. лічыў сябе і за спрактыкаванага, моцнага плыўца, які нават у мора мог сам адплысціся на некалькі кіламетраў.

Але як мінімум двойчы надараліся з ім досыць крыўдныя, а ў нечым і небяспечныя чарнаморскія неспадзяванкі.

Аднае раніцы на досвітку выбраўся ён на Адэскі гарадскі пляж і ўпэўнена стаў адграбаць звыклым яму кролем, бо на моры не было відаць ані хвалі, а паверхня была як шкло.

Адкуль жа было ведаць хemployee рабраму плыўцу, што тым самым часам гаспадарыла там незаўважная і падспудная плынь?

Пазней здавалася плыўцу, што ўжо вяртаецца ён, грабе да таго месца на пляжы, дзе пакінуў ручнік, верхняе адзенне і абутак, але здолеў патрапіць на бераг толькі на далёкай гарадской ускраіне, ледзь не пад Куяльнікам.

Адэсіты паблажліва, але і з разуменнем пасміхаліся, калі пабачылі неабачлівага плыўца, які ператварыўся ў аўтобусе ў сухапутнага «зайца» і ехаў у адных толькі мокрых плаўках...

А другога разу яго вялікасць выпадак паджартаваў са спадара Янкі, калі задушлівым абхазскім надвячоркам зайшоў той у ваду на пляжы пры ўсесаюзным на той час Доме творчасці і адпачынку пісьменнікаў «Піцунда».

На поўдні прыцемкі гусцеюць імкліва, а таму плывец раз-пораз мусіў азірацца на бераг, дзе запаліліся ўжо агні ліхтароў на алеях, зацеплілася святло ў вокнах пансіянатаў, Дамоў адпачынку пісьменнікаў, журналістаў і кінематаграфістаў.

Але раптам, калі азірнуўся чарговы раз, адчуў плывец, што нават у прахалоднай марской вадзе працяла яго халодным потам: усе агні на беразе раптам згаслі!

«Мабыць, нейкая аварыя на электрападстанцыі! — ліхаманкава пранеслася ў галаве. — Але мне ад гэтага не лягчэй! Як зарыентавацца ў цемры, у якім накірунку плысці?! Калі наўздагад, дык магу і да Турцыі дапяць!»

Дзякаваць Богу, агні на беразе неўзабаве зноў запаліліся, і спадар Янка скіраваўся ўбок пляжа, дзе і даў сабе зарок адмовіцца ад начных заплываў.

# У дарозе



Таццяна БУДОВІЧ-БАРАДУЛЯ

Мае самыя раннія і яркія ўспаміны звязаныя з дарогай. Вось мы з маці ў самалёце. Я — побач з маленькім круглым акенцам, што так нязвыкла называецца: ілюмінатар... Махіна разганяецца, хутка-хутка імчыцца па паласе, адрываецца ад яе, і пад намі ўжо вершаліны дрэў. А яшчэ праз пяць хвілін — нібы ватныя, белыя калматыя аблокі. І ў дзірках паміж імі — вузенькія стужкі дарог, на якіх, падаецца, стаяць, а не едуць маленькія, быццам дзіцячыя машынкі-грузавічкі...

Мы з малодшай сястрой у аўто. Бацька — за рулём, побач з ім — маці, а мы — на задніх сядзеннях. Нам тут зрабілі «лежбішча», паклаўшы на падлогу вялізныя скруткі: намёт, коўдры, іншае начынне. Можна выцягнуцца ў поўны рост. Нам не цесна, а ўтульна і цікава: карцінкі за акном пастаянна мяняюцца, дарога ідзе то ў горку, то пад горку, і тады перад вачыма адкрываецца бліжэйшы пад'ём, ён та-а-акі высокі, круты, што здаецца, папярэднія машыны не ўз'язджаюць на яго, а запаўзаюць. Мы едзем на поўдзень, і прадчуванне сустрэчы з морам і чымсьці незвычайным саладка казыча ўяўленне...

А вось мы ўздымаемся па горным серпанціне. Вузенькая, крутая, звілістая, быццам цацачная дарога. Справа такі высокі абрыў, што аж глянуць страшна, а злева над намі навісаюць здаравенныя каменныя глыбы. Як толькі яны трымаюцца?

Цяпер мы дарослыя. Але тое адчуванне дарогі назаўжды зніталася з прадчуваннем шчасця. Калі абставіны доўга не дазваляюць кудысьці выбрацца, пабачыць новыя мясціны, гарады, горы, мора, я раблюся хворай, на мяне ўсё ціспе, і, падаецца, яшчэ трошкі — расплюшчыць канчаткова... Калі б раптам добры чараўнік сказаў мне: збірайся, праз гадзіну — вылет у Нью-Ёрк (Марока, Мехіка, Катманду), я была б гатовая праз пяць хвілін. Безумоўна, мы з мужам (ён у дзяцінстве таксама пакатаўся) шмат вандруем, змяняючы адно аднаго за стырном аўто.

Упершыню пасля нараджэння дзяцей мы выбраліся да мора, калі малодшы толькі пачаў хадзіць. Быў ліпень, сонца пякло няшчадна. Ад Кіева да Адэсы пяцьсот кіламетраў. Мы спадзяваліся трапіць туды да вечара. Я, хоць і сядзела спераду, глядзела больш назад: дзеці паводзілі сябе вельмі неспакойна. Муж даўно стаміўся, сілы былі на мяжы, таму месца кіроўцы саступіў мне адразу ж, як толькі дзеці супакоіліся і паснулі, зможаныя гарачынёй. І ён таксама хутка адключыўся, адкінуўшы сядзенне. Так я і засталася адна сярод соннага царства. Таксама з задавальненнем бы падрамала, але ж... муж даваў ужо храпака на ўвесь салон, дзеці мірна пасопвалі. Што ж, я гучней падкруціла ўлюбёную музыку і выціснула на ўсю моц педаль акселератара. Хуткасць была шмат вышэй за дазволеныя дзевяноста, але за ўвесь час вандроўкі па Украіне мы не пабачылі ніводнага «даішніка». Дый сітуацыя на дарозе заставалася спакойнай, яе шырокае палатно нячаста ўзрэзвалі аматары праімчацца з ветрыкам, раз-пораз — фуры, ну й зусім рэдка — мясцовыя вяскоўцы, часцей на «Жыгулях», «Масквічах» ці трохколавых матацыклах...

Аднастайнасць заваражвае. Яна гіпнатызуе, прычым так незаўважна, што не паспяваеш злавіць той момант: вось зараз ты яшчэ бадзёры, хутка рэагуеш на любую сітуацыю — а праз хвіліну патанаеш у салодкім мроіве думак, успамінаў, уяўленняў.

Сонца, разамлелае ад уласнай гарачыні, лянiва ліло на зямлю свае прамяні. Па абодва бакі трасы раскінуліся бясконцыя прасціралы палёў, быццам сшытыя з рознакаляровых квадратаў: жоўтых, салатавых, карычневых, цёмна-зялёных... Зрэдку іх перасякалі палосы стромкіх, як свечкі, таполяў, што раслі сцяной, ахоўваючы глебу ад моцных вятроў. Карцінка не была статычнай: кожны міг нешта змянялася, мільгалі прыдарожныя слупы, але далягляд па-ранейшаму заставаўся на месцы і ўсё падавалася надзвычай аднастайным.

Я зняла заручальны пярсцёнак і стала сціскаць яго губамі — да болю, наколькі ставала моцы. Так было лягчэй кантраляваць сябе і супраціўляцца сну.

...Дзіўна ўсведамляць (і нават не верыцца часам), што я — цяпер — тут. За стырном аўто. Жывая, здаровая. Муж, дзеці... Усё магло б быць зусім інакш...

Зноў перад вачыма яскрава, як быццам ён тут насамрэч, паўстаў Дэніс. Глыбокі ўдых — выдых. Удых — выдых. Не раскісаць! Усе слёзы выплакаліся, хопіць!!!

Што там увесь час маячыць наперадзе? Няўжо фура так хутка нясецца, што ўжо хвілін дваццаць нельга яе дагнаць? Не-е-е, гэта не па-нашаму! Аўто паскорылася, стрэлка на спідометры рэзка тарганулася ўправа. Адлегласць пачала скарачацца. Дэніс застаўся далёка за спіной...

...Толькі, Бог мой, чаму так балюча?! Што за ідыёт выдумаў, быццам час лечыць? Дзе там! Але калі ёсць дзеці, то будзеш жыць дзеля іх. Праз самы невераготны боль...

Гэта маглі б быць нашы з Дэнісам дзеці!!! Дзе і калі я што парушыла, што я зрабіла не так? За што мне гэта? Бог мой, у мяне зараз узарвецца мозг! Калі б хоць ведаць сваю правіну ў нейкім мінулым жыцці, лягчэй было б змірыцца.

Аднойчы падалося, што боль той стаў сціхвацца. Дэніс заставаўся жыць глыбока ў душы (і я нібыта прызвычаілася да новага адчування: размаўляла з ім, як быццам ён побач, раілася па ўсялякай драбязе). Больш не хацелася заснуць, каб не прачнуцца, не наварочваліся слёзы з нагоды і без нагоды па трыццаць разоў на дзень, я аднавіла трэніроўкі, бо ўлетку зноў (упершыню пасля таго) збіралася выехаць на скалы.

Потым з'явіўся Алекс. Ён так хутка і незаўважна ўвайшоў у маё жыццё, паўсядзённасць, думкі, справы... Каб яшчэ з месяц таму мне сказалі, што такое магчыма, не паверыла б. Ён зладзіў у мяне дома хатні кінатэатр, кожны вечар прыносіў цікавыя фільмы: трылеры, камедыі, дэтэктывы... Спачатку ўгаворваў глядзець іх разам, а потым я пачала лавіць сябе на думцы, што ўжо чакаю яго, чакаю новай порцыі эндарфінаў (праўда, не ведала, чаго хацелася больш: забыць пра ўсё, паглыбіўшыся ў чужыя прыгоды на экране, ці непагрэдна Алекса, яго цёплых рук, усмешкі, слоў). І вось — Алекс побач, спіць... Як неспадзявана...

...Зноў ажыў Дэніс. Глядзіць на мяне па-добраму, без ценю папроку. Трошкі схіліўшы на бок галаву, ледзь прыкметна ўсміхаючыся. І яго светла-зялёныя вочы зноў іскрацца на сонцы, як і тады... У самай глыбіні шырокіх зрэнак з'яўляецца цяпельца, спачатку ледзь заўважна, а потым усё ярчэй, і вось — вочы колеру хрызаліту праменяцца, дакранаюцца да душы, атуляюць яе пяшчотай, разуменнем... Ён працягнуў да мяне руку. Марудна, быццам баяўся спалохаць...

...Аўто вільнула ўлева. Я схамянулася, быццам вынырваючы са шчаслівага палону. Ці як рыбіна, выкінутая са сваёй стыхіі на халодныя камяні. Першае, што зафіксавала свядомасць, была чужая рука на стырне, што трохі павярнула яго ўбок. Траекторыі руху легкавіка і фуры не перасякліся. Я завяршыла абгон, вярнуўшыся на сваю паласу. Унутрана падрыхтаваўшыся пачуць ад мужа ўсё, чаго я вартая як кіроўца: толькі што ледзь не «ўгробіла» ўсю сям'ю, заехаўшы акурат пад фуру. І раптам чую: Алекс па-ранейшаму пахрапвае... Дыханне роўнае, як і было...

# Свастыка



Лявон ВАЛАСЮК

Ён ішоў па пероне ўздоўж бліскучых рэек у промнях спякотнага абедзенага сонца ў мой бок: чарнявы хлопец крыху вышэй сярэдняга росту, гадоў на сем-восем маладзейшы за мяне. У чорных пантофлях, чорных нагавіцах і такога ж колеру майцы без рукавоў, з-пад якой віднелася загарэлае мускулістае цела. Па смуглым скуластым твары можна было здагадацца, што ў яго продкаў цякла ў жылах цыганская ці татарская кроў.

На левым прадплеччы я разгледзеў выкалатую фашысцкую свастыку памерам з пяць колішніх савецкіх капеек. Так нечакана было пабачыць яе ў невялічкім гарадку на плячы маладога чалавека. Прыпомнілася з літаратуры, што фашысты расстрэльвалі цыганоў нараўне з яўрэямі і камуністамі. «Пэўна, галава не ведае таго, што рукі робяць?!» — падумаў я, назіраючы за хлопцам. Захацелася адразу садануць яму ў грудзі нагою, каб толькі не бачыць тую чорную свастыку на прадплеччы...

Той заўважыў мой погляд на яго плячо. На гэта было, відаць, усё і разлічана: справакаваць мяне альбо каго іншага на нейкія разборкі. Яго цёмныя калючыя вочы зіркалі ў мой бок, нібы прамаўлялі: «Вось я магу гэта сабе дазволіць, а вы ўсе?!.»

Такія дзікаватыя вочы я ўжо недзе бачыў: хутчэй за ўсё часцяком па тэлевізары ды на службе ў войску ў аднаго сяржанта-стараслужачага з Магадана.

Па ўсім было відаць, што хлопец не мясцовы, але адкуль ён з'явіўся тут, у горадзе майго дзяцінства, куды я часта прыязджаю да радні і сяброў?

Было бачна, што «нацы» выбраў мяне аб'ектам для правакацыі. Саступіць яму, зрабіць выгляд, што не бачу свастыку, — такога сабе дазволіць я не мог.

— Малады чалавек, а піва са мною папіць не жадаеце?! — паспрабаваў я абяззброіць яго.

Незнаёмец прыпыніўся амаль насупраць, глянуў па баках.

— Да цягніка яшчэ доўга, а кампаньёна няма. Бачу, што і табе горача ў тваім чорным. А мо ў цябе жалоба, то прабач...

Незнаёмец яшчэ раз азірнуўся, нібы асцерагаючыся «падлянкі» з майго боку, але ні адзін мускул не варухнуўся на яго твары.

— Вы нешта хочаце ад мяне? — запытаў халодным голасам незнаёмец, здымаючы і нагматваючы чорную майку сабе на левую далонь.

«Адразу рыхтуецца да бойкі», — трывожна падумаў я, адзначыўшы, што нікога знаёмага на пероне няма. На гэты раз давядзецца ўсё вырашаць самому.

— Дык што вы хацелі? — яшчэ раз, больш настойліва, перапытаў незнаёмец. У яго голасе ўсё яшчэ адчувалася варожасць і жаданне размяць мускулы.

— Хадзем пап'ем піва. Бачу, ты таксама адзін. Раскажаш, што і як. — Я стараўся быць спакойным. Бачна было, што мая прапанова збіла хлопца з панталыку, і ён нават зніякавеў, неяк абмяк, расціснуў кулакі.

«Нацы», які назваўся Мікітам, асцярожна пагадзіўся, і мы зайшлі ў невялічкі бар. Узялі па бутэльцы халоднага піва, прыселі за столік непадалёк ад дзвярэй: там былі вольныя месцы. Побач сядзела кампанія хлопцаў і дзяўчат, якія спакойна гаманілі паміж сабою аб нечым мясцова-малаважным.

— Навошта ты гэта зрабіў сабе? — нарэшце запытаўся я, адпіваючы з бутэлькі. — Невядома, як складзецца тваё далейшае жыццё, але з гэтым хадзіць па зямлі не вельмі прыемна і патрэбна.

— Гэта зусім нецікавая гісторыя, пра якую не хацелася б і ўспамінаць, але... — Мікіта ўсё яшчэ насцярожана глядзеў на мяне. — Неяк тусаваліся на хаце, гулялі ў карты. Дык я прайграўся, і ў выніку мне накалолі гэтую свастыку, сілаю, пры дзяўчатах... Я нічога не мог зрабіць. Цяпер з гэтым даводзіцца жыць. Так вось і хаджу. Улетку гатовы да таго, што нехта ў любы момант захоча мне морду набіць, але я не раю. Спецыяльна потым доўга трэніраваўся, каб пры патрэбе даць здачы. І вось што дзіўнае... Гэтая наколка змяніла ўсё маё нутро, я стаў зусім іншым чалавекам — развучыўся любіць людзей. Зусім не збіраўся з табою ўступаць у бойку, але каб ты мяне зачапіў, то даваўся б патузацца, а так...

Я глянуў на гадзіннік: трэба было спяшацца.

— Ты едзеш куды ці сустракаеш?.. — запытаў я ў Мікіты.

— Сустракаю сябра. А на цябе звярнуў увагу таму, што паказаўся знаёмым: недзе бачыў раней.

— Магчыма, свет цесны.

У гэты момант да нашага століка падышоў адзін з мясцовых з недапітым півам у куфлі і ўставіўся на Мікіту:

— Падла, а ты што носіш на плячы? Ты нічога тут не пераблытаў? — незнаёмец мацюкнуўся і ліннуў рэшткі піва ў твар Мікіту. Той хацеў рэзка прыпадняцца з-за стала, але двое хаўруснікаў мясцовага ў адно імгненне апынуліся за спіной Мікіты, прыціснулі плечы да стала і заламалі рукі.

Усё адбылося так хутка, што я не паспеў нічога зразумець. Спрабаваў нешта сказаць, але адляцеў убок і ледзь не страціў прытомнасць ад спрактыкаванага ўдара ў дыхавіну. А да Мікіты падышоў яшчэ адзін аматар піва і цыгарэтаю спакойна прыпаліў свастыку спачатку на адным, а потым на другім плячы. Той застагнаў, тарганўся, паспрабаваў вызваліцца — марна.

— Міліцыя! Міліцыя! Дзе тая міліцыя?!. — крычала ў трубку тэлефона бармэнша.

— Не раім табе больш тут з'яўляцца і дэманстраваць свае плечы, як шалава. Можаш у наступны раз і ласты склеіць, — пагрозліва сіпеў светлавалосы здаравяка ў сініх джынсах. — Гуляй!...

Я пацягнуўся на перон, а Мікіта выскачыў з бара і недзе знік за яго будынкам. У паветры адчуваўся непрыемны пах паленай чалавечай скуры.

# Нішто не паўтараецца



Аксана ДАНІЛЬЧЫК

## Суіснаванне

*Неба*
*падступае з усіх бакоў,*
*разганяе птушак,*
*але на імгненне*
*спыняе свой наступ.*

*Вочы коткаў,*
*сцішаных на дрэвах*
*насупраць акна,*
*ўспыхваюць жоўтымі водбліскамі*
*і адлюстроўваюцца*
*ў маіх зрэнках.*

*Хачу выйсці на вуліцу,*
*але так і застаюся*
*на трэцім паверсе*
*сам на сам з пачаткам ночы,*
*а навальніца*
*выкручвае рукі маланкам*
*і шпурляе камякі хмараў мне на балкон.*

*Ноч яшчэ нейкі час*
*углядаецца ў мяне,*
*а калі ёй гэта надакучвае,*
*апускае аканіцы дажджу,*
*і я пэўны час нічога не бачу.*

*Мы суіснуем*
*у адной матэрыяльнай прасторы*
*і адлюстроўваемся адно ў адным*
*незалежна ад адлегласці.*

*Толькі калі ўжо зусім блізка*
*бывае балюча.*

* * *

*У эпіцэнтры стыхіі*
*мой дом апынуўся, калі*
*вецер прыціснуў хмару да акна,*
*яна расплюшчылася*
*і пацякла цёмна-сіняй мельмай,*
*падхопліваючы зоркі.*

*Акіян не прадугледжваў*
*ніякага выйсця з гэтай замкнёнасці,*
*я і не спрабавала.*
*Толькі глядзела, як плынь*
*імкнулася выціснуць шкло,*
*а шкло супраціўлялася,*
*і пакуль яно супраціўлялася,*
*я жыла.*

*Так магло б працягвацца*
*дні і гады,*
*бо ці ёсць шанец*
*перамагчы стыхію?*

*Толькі чакаць,*
*калі аслабне яе сіла,*
*спадзявацца,*
*што вытрымае шкло,*
*і пісаць.*

*А магчыма,*
*толькі так і можна*
*перамагчы стыхію?*

* * *

*Момант,*
*калі бледна-ружовае неба*
*бэзавай фальбонай*
*накрыла плечы будынкаў,*
*разгарнуўся*
*ва ўсёй сваёй касмічнай пышчоце.*

*Інверсія звыклых колераў,*
*залежная ад невідавочных*
*для мяне працэсаў,*
*адбылася,*
*і ў бледна-ружовым небе*
*паўстаў*
*нерухомы шэры дым.*

*Так, я памятаю:*
*нішто не паўтараецца.*

*Зямля паварочваецца,*
*і ружовая паласа*
*страчвае свой колер.*

*Я застаюся*
*сам на сам*
*з чорнай бясконцасцю,*
*якая растрэскваецца,*
*бы старая фарба,*
*высыпаючы*
*праз белыя прожылкі*
*зорны пыл.*

*І я падстаўляю яму далоні.*

* * *

*На чырвонай выспе*
*сярод акіяна*
*спыняюцца белыя лебедзі.*
*І калі яны ўзмахваюць крыллем,*
*калі яны ўзмахваюць крыллем,*
*хваля цёплага святла*
*ўздымаецца ў паветра.*

*Гэтыя флюіды*
*разлятаюцца па зямлі*
*і абуджаюць высахлыя фантаны*
*ў спусцелых гарадах,*
*а на людскія душы*
*сыходзіць прасвятленне.*

*Няўлоўная энергія*
*лебядзіных крылаў*
*для мяне рэальней,*
*чым шэрая сцяна насупраць.*

*Бо ці існуе рэальнасць,*
*якую я не заўважаю?*

*Але я ведаю дакладна:*
*у тыя імгненні,*
*калі сонца завешвае*
*вогненнымі фіранкамі*
*вокны шматпавярховак,*
*на чырвонай выспе сярод акіяна*
*лебедзі ўзмахваюць крыллем.*

* * *

*Зіхатлівы трохкутнік,*
*аддзелены роўнымі лініямі*
*ад туманнага паветра,*
*праменіцца з ліхтара.*

*Нібы на тонкія пруткі*
*накінулі залацістую арганзу,*
*якая ледзь прыкметна калыхаецца,*
*ствараючы ілюзію плыннасці.*

*Плыннасці часу і прасторы,*
*залатога і шэрага,*
*і – нерухомасці цемры,*
*што акаляе мяне з усіх бакоў.*

* * *

*Разумець гэты свет*
*блакітны і залаты,*
*праплываць па яго затоках*
*то смутку, то радасці,*
*ведаць,*
*што бездань ёсць пад табой,*
*і бездань ёсць над табой.*

*І што адна смерць*
*не бывае больш смяротнай*
*за другую смерць,*
*бо калі мы ўсе неразумныя*
*ў адной лодцы —*
*ніхто не большы і ніхто не меншы,*
*а проста дай нам Божа даплысці*
*да берага.*



*Паўночнае мора*
*то падбягае, то адбягае,*
*светлае мора невыразных адценняў*
*пад сонцам ці пад дажджом*
*абыякавым.*

*У кожнага была свая параза*
*ці не так?*

*І хтосьці бачыў,*
*як ноч выплёўвала*
*крывавыя згусткі болю*
*на бязмоўныя пляжы Дункерка.*

## Гульня

*Беглі ўслед за вясновай вадой,*
*лавілі словы-караблікі,*
*а потым мружылі вочы*
*і глядзелі праз хісткія промні,*
*як словы, вылаўленыя ў ручаях,*
*аблытаныя сонечнымі ніткамі,*
*сушыліся пад бліскучымі*
*прышчэпкамі-саламандрамі,*
*як вецер казытаў іх ветразі*
*і змушаў ледзь чутна*
*шамацець ад задавальнення.*
*І неслі на працягнутых далонях*
*набытыя скарбы, а зямля*
*распраўляла цёмна-зялёнае*
*крылле лясоў*
*з белымі пёркамі бязлістых*
*бярозаў…*

*Прашу цябе, давай пагуляем яшчэ раз.*

## На мастку

*Рыбкі хаваюцца*
*ў мутнай вадзе,*
*ты ж не схаваешся*
*анідзе.*

*Сонца і вецер,*
*хвалі дрыжаць,*
*рыбкі блішчаць*
*як лязо нажа.*

*Не запавольвай*
*здзіўлены крок,*
*бо пад табой*
*таямніца і змрок.*

*Ў мутнай вадзе*
*не пабачыш красы*
*травы –*
*тапеліцы*
*валасы –*

*плынь апускае*
*на глеісты дол,*
*дзе анічога*
*не бачна вакол.*

*Цэліўся доўга*
*ў рыбку прамень,*
*а перастрэў*
*твой спалоханы*
*цень,*

*цень пахіснуўся,*
*з'ехаў набок —*
*не запавольвай*
*здзіўлены крок.*

## Ноч

*Ліхтар*
*расплываецца па фіранцы*
*імпрэсіяністычным акцэнтам,*
*цені вазонаў выцягваюцца*
*да памераў дрэваў*
*і накрываюць прастору.*
*Я згарнуся*
*пад іх абаронай*
*калачыкам,*
*як Маўглі,*
*што стамлёна*
*прылёг на траву*
*і слухае джунгляў*
*пранізлівыя галасы,*
*і згадвае*
*тыгра Шэрхана абпаленыя вусы,*
*пакуль не прыйдзе Багіра,*
*каб забраць мяне*
*ў падсвядомасці*
*чорныя гушчары,*
*каб песціць мяне*
*і трымаць там,*
*пакуль яе не асляпіць*
*чырвоная кветка*
*зары.*

* * *

*Паклала на ваду рукі,*
*і пад маімі далонямі*
*ускалыхнуўся сусветны акіян:*
*той, што забірае маю памяць,*
*а мяне запаўняе сваёй:*
*не адчуваць мінулага,*
*не прадбачыць будучыні —*
*хіба не ў гэтым*
*найвышэйшая асалода*
*існавання?*

*Цёплая плынь і халодная плынь*
*у непераадольным імкненні*
*да гармоніі*
*то страчваюць раўнавагу,*
*то зноў набываюць,*
*а сонца бліскае імпульсамі святла*
*і прабягае па гэтай*
*бясконцасці хваляў*
*па гэтай нязменнай зменлівасці вады*
*як усмешка, што прабягае па твары,*
*імгненна асвятляючы яго рысы…*

*А неаформленыя словы*
*коцяцца па схілах аблокаў,*
*адлюстраваных на яго паверхні,*
*і паглынаюцца сіняй безданню.*

# Прафесар



Альберт ЛАЗАКОВІЧ

**Гэта гісторыя магчыма падасца падобнай на шматлікія гісторыі пра трагічныя лёсы бязвінных ахвяр бальшавіцкага бязлітаснага рэжыму. Тым не менш аўтар палічыў карысным данесці да сучаснага маладога чытача яшчэ адну драматычную гісторыю...**

## Санаторый

Восень 1964-года. Мне, маладому ленінградскаму інжынеру, пашчасціла атрымаць не зусім профільную пуцёўку ў Сестрарэцкі кардыялагічны санаторый, і я нечакана апынуўся сярод шматлікіх сардэчнікаў амаль з усяго Саюза. Народ там сабраўся розны: карагандзінскія шахцёры, піцерскі разначынны люд, адстаўныя партыйныя функцыянеры (нават пара былых сакратароў абкамаў партыі з волжскага рэгіёна) і гэтак далей. З першых дзён заезду гэтыя пакутнікі сардэчных хвароб пачалі ўтвараць групоўкі па інтэрэсах, дзе абмяркоўвалі, акрамя хвароб, безліч жыцейскіх і грамадскіх праблем збяднелай краіны. Карацей кажучы, патрохі ўсталёўваўся (амаль на месяц) гарманічны лекава-выратавальны ансамбль. Але знаходзіліся арыгіналы, аматары зялёнага змія, якія неасцярожна блыталі рэжым жыцця і паводзін у кардыялагічным санаторыі з рэжымам і паводзінамі ў дамах адпачынку маракоў гандлёвага флоту. І шчыра абураліся на патрабаванні адміністрацыі датэрміновага (і ганебнага) іх вяртання ў родныя калектывы...

Мне пашанцавала на суседа. Дзядзька Рыгор спалучаў у сваёй асобе букет рыс чалавека дабразычлівага, знаходлівага, які пабыў і студэнтам Тэхналагічнага інстытута, і будаўніком Камсамольска-на-Амуры, а ў час вайны — камандзірам бранепоезда. Цяжкая кантузія і раны амаль пазбавілі яго зроку, але не пачуцця гумару і аптымізму; у час прагулак ён заўсёды быў у атачэнні купак пераспелых прыгажунь... Нехта з гэтых зачараваных кабет, у зручны час маёй адсутнасці ў пакоі, працягваў з яшчэ большай асалодай і адданасцю моўчкі выслухоўваць дзядзьку Рыгора ў яго моцных абдымках.

Нашы з ім вячэрнія гутаркі пра сапраўдныя рэаліі мінулых 20-40-х гадоў, сведкам ці ўдзельнікам якіх ён быў, шмат у чым папоўнілі палітру маіх ведаў пра перажытае ў той час краінай і народам.

## Дзіўны пацыент

...Ён з'явіўся ў санаторыі з невялікім, у 3–4 дні, спазненнем. І адразу прыцягнуў маю ды іншых наведвальнікаў сталовай увагу сваёй пастацю, тварам і нязвыклай манерай размаўляць упэўнена, з далікатнай годнасцю, што падказвала яго прыналежнасць да няпростых — навуковых альбо ўладных — колаў. Карціну саліднасці падкрэслівалі акуляры ў залатой аправе (не савецкага гатунку) і дарагі касцюм цёмна-блакітнага колеру. Уменне далікатна карыстацца сталовым інструментарыем таксама выдавала выхаванага чалавека. У маёй галаве імгненна ўзнікла паважлівая мянушка «Прафесар». Усё паказвала на тое, што гэты чалавек «лагічна» знаходзіцца тут, у кардыялагічным санаторыі, у адрозненне ад мяне, 27-мі гадовага інжынера, якому пашчасціла за сціплыя навукова-інжынерныя справы атрымаць ад прафкама інстытута гэтую «гарашчую» пуцёўку.

Некалькі дзён мы не бачыліся з ім з-за «накладак» лекавых працэдур, таму ў наступны раз за вячэрай я больш уважліва разгледзеў яго. Ён няспешна вёў размову з суседам насупраць, еў нешта тварожнае з гарбатай. Але калі размова паскорылася, адбылося дзіўнае. Мой герой, працягваючы неабходныя для размовы рухі вуснаў, на некалькі секунд «губляў гук». Гэтае тэлевізійнае падабенства ўражвала. Але не было бачна, каб гэтая акалічнасць — дэфект — неяк засмучаў прафесара...

## Трохі пра кіруючых

На двары стаяў кастрычнік 1964-года. Цяжкае эканамічнае і міжнароднае становішча дзяржавы патрабавала кардынальных і рашучых змен як у стылі кіраўніцтва, так і ў самім кіраўніцтве. Чакалася адстаўка Мікіты Хрушчова. Пра непазбежнасць гэтага размаўлялі і нашы санаторныя, хворыя на сэрца, ветэраны, якія па вечарах збіраліся каля радыёпрыёмача «Эстонія», каб без «глушылак» паслухаць каментары і прагнозы «Голаса Амерыкі» і «Бі-Бі-Сі». Значная частка гэтых слухачоў былі шматвопытнымі і, нярэдка, адказнымі кіраўнікамі... І вось пачуты з прыймача голас дыктара «Бі-Бі-Сі» адразу спыніў спрэчкі. З ледзь прыхаванай ірoніяй дыктар паведаміў слухачам аб маючым быць у заўтрашніх выпусках савецкіх газет рашэнні ЦК КПСС пра вызваленне Хрушчова з займаемых пасад «па стане здароўя». Пасля невялічкай (псіхалагічнай) паўзы, ужо не хаваючы іроніі: «Аб рэальным стане здароўя Хрушчова вам раскажа наш карэспандэнт, які летам суправаджаў візіт прэм'ера Хрушчова ў Егіпет на адкрыццё Асуанскай ГЭС». Голасам, пазбаўленым эмоцый, карэспандэнт распавёў пра абед, які Гамаль Абдэль Насэр даў у гонар Хрушчова па прыбыцці дэлегацыі ў Александрыю («Хрушчоў выпіў маленькую»). Потым быў пералёт да Асуана на свята адкрыцця ГЭС. І таксама абед, і таксама «Хрушчоў выпіў маленькую». Насэру (арабу!), значна маладзейшаму за 70-ці гадовага Хрушчова, стала дрэнна. Вось такі «стан здароўя», прамаўляў карэспандэнт, і стаў для атачэння Хрушчова афіцыйнай прычынай для яго адстаўкі...



Навіна, якую даўно чакалі, была ўспрынята значнай часткай слухачоў «Эстоніі» станоўча. «Прафесар» прайшоў моўчкі...

Праз некалькі дзён, вяртаючыся са шпацыру ўздоўж Фінскага заліва, купка адпачываючых, сярод якіх былі і мы з «Прафесарам», абмяркоўвала з ірoніяй «мудрыя партыйныя рашэнні». Але мяне трохі здзівіла абыякавасць «Прафесара» да гэтай праблемы і засмучанасць чымсьці. Пасля абеда мы няспешна крочылі да сваіх «нумароў» на адпачынак, і я неасцярожна заявіў, што пры Хрушчове ж адбылася рэабілітацыя соцень тысяч нявінна асуджаных людзей, а ў партыі пачаўся працэс вяртання да ленінскіх норм жыцця... «Жыцця» я не паспеў вымавіць, бо «Прафесар» імгненна зацiснуў мяне ў пакой: «Як вам не сорамна такое казаць?! Вы разумны малады чалавек, пра якія такія «ленінскія нормы» ўвогуле можна казаць у нас? Асабліва для «эліты». Прысядзем, я вам раскажу маленькі, але яскравы эпізод пра палітычную культуру і жыццёвыя звычкі гэтых прыхільнікаў так званых «ленінскіх норм».

«Гэта адбылося падчас афіцыйнага адкрыцця Куйбышаўскай ГЭС. На свята ў Куйбышаў прыляцела высокая ўрадавая дэлегацыя на чале з Мікітам Хрушчовым. Агульнагарадскі мітынг быў прызначаны на 12 гадзін дня, але ўжо за гадзіну да таго плошча была запоўнена шматтысячным натоўпам людзей, прысланых адміністрацыяй заводаў, дзяржаўных і навучальных устаноў. Надвор'е не радавала: дзень быў пахмурны, з Волгі дзьмуў халодны вецер. Настрой мітынгоўцаў таксама быў пахмурны: хранічна дрэннае забеспячэнне горада прывучыла народ не спадзявацца на паляпшэнне жыцця, і таму чакаемая сустрэча «партыі і народа» не давала вялікай надзеі на «радасны вынік». Але ж народ чакаў (мусіў чакаць). 12 гадзін — трыбуна пустая, 13 гадзін — пустая, натоўп пачаў гудзець. Пасля 14-ай гадзіны паказаўся картэж урадавых машын, але іх чакаў ужо натоўп зняважаных людзей, абураных такой непавагай. Плошча была наэлектрызавана: дэлегацыю сустрэлі ганебнымі крыкамі. Калі сарваны ветрам з галавы Хрушчова капялюш паслужліва кінуўся лавіць (і вельмі няўмела) Суслаў, плошча зарагатала...

Паступова дэлегаты размясціліся на трыбуне; я, разам з кіраўніцтвам ГЭС, стаяў непадалёк ад Хрушчова і бачыў яго лёгкую разгубленасць ад такой сустрэчы. Адкрыўшы мітынг, сакратар абкама запрасіў да мікрафона Хрушчова, што выклікала шмат крыкаў, аглушальны свіст. Выступаць было безсэнсоўна: у бок трыбуны нават паляцела нешта з гародніны (хутчэй, пара-другая бульбін). Сакратар абкама разгублена глядзеў на Хрушчова. Той, аглядаючы ўзрушаных мітынгоўцаў, голасна кінуў ім: «Была Самара, Самарай і засталася», і хутка патупаў з трыбуны...

Я на той час ужо добра ведаў, што гэта не першы эпізод няўдалай сустрэчы Хрушчова з народам, бо як навукова-тэхнічнаму кансультанту ўрадавых камісій мне даваляся прысутнічаць на прыёмах шмат якіх маштабных аб'ектаў па краіне. Таму ён, ужо звыклы да такіх «прыёмаў», не згубіў апетыт: як я даведаўся, для гатавання заказанай ім на абед юшкі са свежай сцерлядкі быў пасланы да валгаградскага вадасховішча самалёт... Вось так ажыццяўляюцца так званыя «ленінскія нормы» ў так званых «верных ленінцаў», малады чалавек...»

Я, трохі саромячыся, прызнаўся, што многія ўдзячныя менавіта Хрушчову за сваё вызваленне з лагераў і турмаў... «Прафесар» іранічна гмыкнуў: «Хрушчову? Ведалі б гэтыя «ўдзячныя людзі» пра службовы імпэт гэтага «вызваліцеля» ў справе пашырэння «запланаваных» спісаў так званых «ворагаў народа». Мой даўні калега бачыў нават рэзалюцыю Сталіна на гэтай хрушчоўскай прапанове: «Спыніся, дурань!» А вы кажаце... «вызваліцель». Палітычна вымушаны крок, не больш. Так што раю вам уважліва і акуратна ўспрымаць шмат у чым заблытаную інфармацыю пра трагічны перыяд нашага жыцця і... ніколі не здраджваць свайму сумленню, чаго б вам гэта не каштавала. На жаль, у многіх гэтага не адбылося».

Увесь час яго прамовы я адчуваў ягонае імкненне данесці нешта большае да мяне, мабыць, нейкія важныя старонкі асабістага жыцця. Але перашкаджала гэтаму, хутчэй за ўсё, значная розніца ўзростаў: для пакутных, трагічных аповедаў пра асабістае быў патрэбны больш сталы слухач...

На развітанне «Прафесар», неяк па-бацькоўску гледзячы на мяне, зрабіў амаль шэптам заўвагу: «Вы вельмі прамы, адкрыты і, для нашага часу, неасцярожны чалавек. Сістэма мала ў чым змянілася, не кожнаму можна душу адкрываць»...

**Плошча была наэлектрызавана: дэлегацыю сустрэлі ганебнымі крыкамі. Калі сарваны ветрам з галавы Хрушчова капялюш паслужліва кінуўся лавіць (і вельмі няўмела) Суслаў, плошча зарагатала...**



**Шанцаў выжыць не было. Выратаваць яго мог толькі цуд, і ён здарыўся. Нечакана памёр Сталін. З часам пачала разгортвацца рэвізія «творчай» дзейнасці НКВД-МГБ па масавым вырошчванні «ворагаў народа». «Прафесару» пашанцавала трапіць у першую хвалю амніставаных і рэабілітаваных**



### Смяротны вір пакут

Наступным днём «Прафесар» пакінуў санаторый. І ўвечары я ў размове з дзядькам Рыгорам падзяліўся сваім адчуваннем чагосьці недасказанага «Прафесарам» пра асабістыя старонкі яго пасляваеннага жыцця. Рыгор цяжка ўздыхнуў і прамовіў: «Мы з ім некалькі вечароў абмяркоўвалі перажытае, ён падрабязна расказаў пра ўсё, што адбылося з ім, яно жудаснае. Табе карысна аб тым ведаць, можа, калісьці дзесьці раскажаш ці апішаш. Так што слухай...

Пад час вайны наш «Прафесар» выконваў адказную працу ў ЗША, займаючы пасаду намесніка ваеннага аташэ па навукова-тэхнічных праблемах, бо ён жа доктар тэхнічных навук у галіне механікі. З групай калег адказваў за навукова-тэхнічнае абгрунтаванне выбару патрэбных відаў тэхнікі і матэрыялаў і якасны іх кантроль. Праца была заслужана адзначана менавіта баявымі ўзнагародамі. Але ж праз нейкі час пасля перамогі ў краіне пачаліся дзіўныя справы. Народ, які вынес жудасны цяжар вайны, чакаў зменаў у эканамічным і ўнутры-палітычным жыцці. Але змены гэтыя безнадзейна затрымліваліся. Непаразуменне і незадаволенасць гэтым замаруджваннем неслі пэўную небяспеку рэжыму. Адначасова стаяла задача замены значнай часткі кіруючага апарату людзьмі, здольнымі выконваць, як і ў час вайны, даручаныя рашэнні любой цаной. Вось гэтыя і блізкія да іх фактары патрабавалі хуткага і «па-бальшавіцку цвёрдага» рашэння. У віры яго выканання бязлітасна вырашаўся і лёс соцень тысяч людзей.

Гэты вір не абмінуў і нашага «Прафесара». Ён і аташэ былі выкліканы ў Саюз, аташэ — у Маскву , «Прафесар» — у Ленінград, дзе праз некалькі дзён былі арыштаваны. «Прафесар» не паверыў абсурднасці, анекдатычнасці прад'яўленых яму абвінавачванняў. Яго, адказнага за навуковае забеспячэнне паставак узбраення, доктара тэхнічных навук, абвінавачвалі ў тым, што ён садзейнічаў пастаўкам у Саюз няякаснай, а нярэдка і гнілой пшаніцы (!). У справе загучала тэма абвінавачвання ў таемнай змове з аташэ і нават з прадстаўнікамі буйных амерыканскіх кампаній-пастаўшчыкоў узбраення. Ад прыроды моцны, «Прафесар» доўга вытрымліваў бязлітасны «мардабой» раз'юшаных бандытаў, седзячы на табурэце з закручанымі за спіну рукамі. Праз пэўны перапынак катаванняў, прызначаны для спробы псіхічна зламаць ахвяру бесперапыннымі, у тым ліку і начнымі, допытамі, нязломны «Прафесар» трапіў у сапраўды жудасны канвеер смяротных пакут: усаджванне на ножку перагорнутага табурэта, іголкі пад пазногці, стаянне голым у вузкай халоднай цэментнай камеры і г.д. Напалову жывога «Прафесара» заносілі ў камеру да наступнага «сеансу». Аднойчы, моцна збіты, ён заўважыў на суседнім ложку новага «калегу», як высветлілася, былога армейца. Дазнаўшыся, з часам, пра сутнасць ідыёцкіх абвінавачванняў «Прафесара», той нечаканна параіў яму прызнаць іх. Па-першае, каб спыніць катаванні, па-другое, сітуацыя цяпер, у параўнанні з 37-ым годам, значна змянілася: гэтыя бандзюгайлы не толькі будуць задаволеныя тваёй згодай, але і змягчаць меру пакарання. «Прафесар»з абурэннем адмовіўся ад гэтай парады, патлумачыўшы сукамерніку, што яго згода пацягне ў засценкі дзясяткі бязвінных людзей.

...Праз некалькі дзён месца армейца вызвалілася, яго заняў моцна «апрацаваны» арыштант у падрапанай марской форме. Як высветлілася, гэта быў заслужаны марскі афіцэр, капітан 2-га рангу, начальнік аператыўнага аддзела штаба Балтыйскага флота. Калі «Прафесар» пачуў пра змест абвінавачванняў марака, ён, пры ўсёй сваёй збітасці, зарагатаў. Фантастычнасць абвінавачвання сягала ўвогуле за межы розуму: марак абвінавачваўся ў арганізацыі перахода Балтыйскага флота ў... Швецыю. Довады марака пра тэарэтычную немагчымасць адначасова зрушыць такую гіганцкую арганізацыю з сотнямі тысяч людзей і сотнямі караблёў з матэрыяльна-тэхнічнай абслугай, ніяк не ўспрымаліся следчымі, і марак быў «запушчаны» па тым жа канвееры катаванняў...

Пасля некалькіх месяцаў няўдалых следчых спробаў выбіць з «Прафесара» прызнанне ў злачынстве ён уяўляў чалавечую развалiну: страціў амаль палову зубоў, магчымасць нармальна размаўляць і рухацца, бо былі адбіты патрэбныя нервовыя цэнтры. У гэткім стане ён атрымаў свае дзесяць гадоў з наступнымі абмежаваннямі і апынуўся на Калыме. Шанцаў выжыць не было. Выратаваць яго мог толькі цуд, і ён здарыўся. Нечакана памёр Сталін. З часам пачала разгортвацца рэвізія «творчай» дзейнасці НКВД-МГБ па масавым вырошчванні «ворагаў народа». «Прафесару» пашанцавала трапіць у першую хвалю амніставаных і рэабілітаваных. Больш за тое, ледзь жывы, ён трапіў у рукі лепшых медыкаў краіны з загадам паспрабаваць вярнуць яму былы чалавечы выгляд...

Дзяржава паспрабавала максімальна кампенсаваць тыя жыццёвыя страты, якія прынесла яму сваёй хваравітай жорсткасцю: поўная рэабілітацыя, вяртанне навуковых, службовых пасад і званняў, а таксама ўсёй сумы неатрыманай за час зняволення зарплаты. У маляўнічым месцы бліз берага Фінскага заліва была пабудавана двухпавярховая, камфартабельная, на той час, дача. Здаецца, можна быць задаволеным такой кампенсацыяй страчанага. Але заставаліся вялізарныя страты, кампенсаваць якія ўжо не была здольная і дзяржава.

### Раструшчанае шчасце, ці страсці па Шэкспіру

У чалавека была сям'я: каханая жонка, прыгожая, інтэлігентная жанчына, мілыя сэрцу дзеці — сын і дачушка. І гэтая шчаслівая сям'я пасля арышту «Прафесара» таксама перажыла бязлітасныя пакуты, але іншага кшталту. Як вядома, дзеці «ворагаў народа» аўтаматычна пераводзіліся ў катэгорыю ізгояў, перад імі зачыняліся дзверы прэстыжных ВНУ, для больш дарослых — перспектыўныя напрамкі распрацовак новай, асабліва ваеннай, тэхнікі і г.д. Такая будучыня чакала дзяцей «Прафесара», у першую чаргу сына-васьмікласніка. Гэтую сітуацыю вырашыў выкарыстаць адзін з адказных супрацоўнікаў МГБ, які добра ведаў і «Прафесара», і яго сям'ю, быў тайна закаханы ў жонку «Прафесара».

Нядрэнны псіхолаг, дастаткова інтэлігентных паводзінаў, генерал выбраў тактыку «цішэй едзеш, далей будзеш». Пры першай, нібыта выпадковай, сустрэчы з даўняй знаёмай ён выказаў ей сваё «шчырае» абурэнне тым, што адбылося з яе мужам і абяцаў праз нейкі час высветліць прычыны гэтай «недарэчнасці». Далейшае інфармаванне няшчаснай жанчыны служыла рэалізацыі задуманага генералам любоўнага, амаль шэкспіраўскага праекта. Па «версіі» генерала, «Прафесар», маючы шырокае кола сяброў і калег сярод навукова-тэхнічнага і партыйнага асяроддзя Ленінграда, апынуўся ў складзе антыпартыйнай групы, якая нібыта прапаноўвала шырокую аўтаномію Ленінграду і вобласці ў складзе СССР. Маўляў, гэтыя планы змоўшчыкаў цалкам раскрытыя, іх чакае суровае пакаранне (добра, калі не растрэл). Няцяжка ўявіць, у якім стане апынулася жанчына, яе сям'я, яе дзеці. А «сябар сям'і» раіў не губляць самавалодання, знайсці выйсце з гэтага цяжкага становішча, бо цяпер галоўнае для яе — лёс дзяцей. Пазбаўленая працы, яна страціла сродкі на існаванне, уладкавацца нават на сціплую пасаду, вядома, не атрымлівалася. Аднойчы генерал «па-сяброўску» прапанаваў ёй цалкам разлічваць на яго (яна добра ведала, што ён удавец). Яго нечаканая прапанова выклікала здзіўленне (калі не абурэнне) і адмову. Але генерал, які быў вопытным псіхолагам, не пакрыўдзіўся і не змяніў сяброўскіх да яе адносінаў. Яна ж, тым часам, адчувала нясцерпны боль ад безвыхаднасці. Год крыху прытупіў вастрыню пякельных жаночых пакут. Старэнькая маці-настаўніца з вачыма, поўнымі слёз, неяк прашаптала: «Ніхто ня можа цябе асудзіць, дочанька». Даўняя, з дзяцінства, сяброўка некалькі хвілін брыдка лаялася, а потым, загаласіла: «Госпадзі, і за што ты пасылаеш нам, бабам, гэткія нясцерпныя пакуты сардэчныя; які цяжар зваліўся на нашы жаночыя плечы: і пакалечаных мужыкоў выратоўваць, і дзяцей гадаваць!» А супакоіўшыся, цвёрда сказала сяброўцы: «Не мучай сябе, колькі жанчын цяпер вымушаны прайсці праз гэта дзеля дзяцей. Згаджайся».

І яна згадзілася. Хоць адчувала, што страчвае апошнюю надзею на вяртанне свайго жаночага шчасця. І не памылілася.... Прайшоў пэўны час, быў рэпрэсаваны і яе генерал. Яна засталася вольнай: сын і дачка вучыліся ў інстытутах, са сваімі планамі і турботамі.

І нарэшце адбылася іх з «Прафесарам» сустрэча з драматычнай развязкай: ён не даравай ей здраду, няхай і вымушаную, пакутніцкую. Перанесеныя нечалавечыя здзекі і пакуты нібыта давалі яму чалавечае (а, дакладней, мужчынскае) права не прымаць яе мацярынскай ахвяры, нягледзячы на шчырыя просьбы і нават патрабаванні сына і дачкі...

На пытанне дзядькі Рыгора: «І як жа Вы цяпер жывеце?» ён паведаміў: «Жыву адзін, часта наведваюць дзеці з унукамі, калі-нікалі і яна з імі прыязджае. Галавой я даўно зразумеў тое, што адбылося з намі, але ў сэрцы маім яе няма». Рыгор, пачуўшы гэта, параіў «Прафесару» пасля стольких пакут кіравацца ў яго ўзросце мудрай французскай парадай: «Зразумець азначае дараваць», на што той з сумам вымавіў: «На жаль, я не француз...».

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 4 (140) | 27 красавіка 2018 | № 15 (578) Новы час

# Наш дзень пачаўся



Мікола АЛЯХНОВІЧ

***

Баяліся,
што не паспеем
на месяц паглядзець,
калі ён хмарны
(зацьменнем
захінуты
месяц
быў).
Пакінулі сябе,
сваё —
намарна —
успамінаем:
фота-негатыў.

***

Аддзялілася —
не аддалілася,
і на шчырае —
ну, бывай!
памалюся,
як ты малілася:
прамаўляла —
не забывай.

**Думкі ўслых**

Даганяю дождж,
А ён паўсюд...
І ад яго нікуды
Цябе не ўкрасці.
Направаруч — ён там,
А злева — лье,
Наперадзе
і па-за мною —
Дождж.
Ён залаты, той дождж.
Але не мой.
Даруй...

***

Вы зразумейце:
Развітанне
Якраз і ёсць
Яшчэ адно вітанне.
А прывітаемся
Мы ўсе ўжо
Там.

***

З пагардай і абразаю маўчком
Спажыць свой час,
што дадзены ад веку, —
Адно найменне стане з чалавека,
Калі да кону прыйдзе жабраком.

***

Я зразумеў, што недарэчы
Пачуць твоё мне «выбачай»,
Калі ўсе спакаваны рэчы,
Калі ў вачах адзін адчай.

***

Якое сонца, а як грае!
А мне цябе так не хапае
На ранні,
А ці на змярканні...
А калі й хопіць,
То ці хопіць?

***

Жыццё — на знос,
Як той пракос
Пасля касы і сонца...
Час цверазіць —
А што ты змог,
А ці паспеў
Свой скідаць стог?
Знайдзі сябе!

Наколькі змог,
Свой скідаў стог,
А што ў ім —
Знае толькі Бог?!

***

Сябры мае, пакуль вы ёсць
І я вам трэба...
Не так самотна,
бо душа
святлее з неба.

***

А мне ад цябе
аблокаў не трэба:
Ты проста
маё
высокае неба.

***

Вы хочаце сказаць,
Што можна доўжыць дзень...
Калі ж на гэты дзень
Не ўпаў душы прамень,
Такому дню не зіхацець,
Як ні хацець...
Калі ж не захацець —
Ці варта зіхацець?

***

Прастора часу,
дадзеная звыш,
не ўсведамляецца,
пакуль — жывыя...
Калі ж, аднак,
да кону дабяжыш,–
праясніца:
яшчэ
жывы Я!

***

Наш дзень пачаўся
і дае нам згоду
На ўсё, пра ўсё, ад веку і на век.
Адно, што не тлумачыць
нам прырода:
Навошта ў гэтым свеце Чалавек?

***

Ёсць даланя,
якая нас трымае...
А мы ці ёсць
на гэтай далані?!
Наперадзе —
Жыццёвая прамая,
А паваротаў —
Божа барані!

***

Пабыць хацелася паболей
У харастве і смутку забыцця,
Ды для такой зямной няволі
Не хопіць аднаго жыцця.

***

Магчыма, нам не ў час
было сустрэцца,
Магчыма, лёс наканаваў нам тое,
Што мы на раз сустрэліся
з табою,
Каб перапалавініць сваё сэрца.

***

Яно было,
Яно мінула,
Але — ёсць!
Як ты ні думай —
Забываць не варта:
На сёння — дома ты,
Назаўтра — госць...
І ганаровая —
Пад карабінам —
Варта.

***

Ты ўсё-такі ў маім жыцці была
І засталася ў ім, і дзякуй Богу!
Бо як бы я сваю спазнаў дарогу,
Калі б мяне па ёй ты не вяла!?

***

Наколькі б рады быў я дню,
Якому ўжо ніколі не адбыцца...
Калі ў тваім жыцці
не будзе месца мне,
Хаця б, як сонечнаму зайчыку,
адбіцца
Адным імгненнем у тваім акне.

# Кілім

(З цыклу «Чмялёк сцеражэ садок»)



Аксана ШАЛАК

***

На гэтым даўнюткім кіліме —
Зоранька, кветка, лодка...
Вунь кryллі зложылі
ва ўздыме
Лебедзь і з ім лябёдка.
У зарасніку заблукала
Спуджанае алянятка...
На ўзлеску яно не прапала:
Вунь зыркае вокнамі хатка...
І аляняткa знойдзе,
Перш чым пайсці на луг,
Лустачку хлеба на плоце,
Цмокнуўшы сонейка круг.

***

Чмель сцеражэ мой садок.
Кветачку не пацалуеш, —
Пыжыць ён свой завіток:
– Хто ты? Ч-ч-чаго тут
ш-ш-шуруеш?
– Мой берагун залаты!
Кветачку я ўзгадавала.
А ўберажэш толькі ты
Грацыю пахкага бала!

***

Неба болей не хмурэла, —
Дождж прайшоў. Зямля упрэла.
Поле ўсё — у каласах:
Заспяваў у жыце птах.
Чмель на кветцы загудзеў:
Радаваўся, што даляцеў...
Мятлік крыльцамі — мах-мах:
– Ах! Багацце на палях!

***

На кожнага мятліка
Пахучая кветка.
На кожнага дзятліка
Елка-суседка.
Ты вырасцеш, дзетка,
Ля новых дарожак, —
Але не забудзеш
Бацькоўскі парожак!

***

Хтось з торбы чароўнай ночкі
Выпусціў Месяц-поўню...
У радасці нашы вочкі,
Бо страх залез у шпакоўню.
Пакоціцца Месяц небам —
Нібыта дзівосны мячык...
Пакорміцца жытнім хлебам
І знойдзе ля студні глячык.
Блудлівым світанкам ночка
Паскідвае з Месяца стужкі:
А раптам той мяч — сарочкай
Прылёг ля тваёй падушкі?



З украінскай мовы пераклаў Сяргей Панізьнік

# Харасмент, альбо Цнатлівы мабільнік
## Нявыдуманая гісторыя


Уладзімір МІХНО

Ноч — цёмная і калючая. Прастатыт. Абуджаешся часта, засынаеш не хутка — старасць. Старасць? Хочаце пасмяяцца? Раскажу вам адну гісторыю, толькі цур, каб не чуў мой мабільнік.

Містыка... Даўно заўважыў: містыка здараецца не тады, калі яе чакаеш, а падпільноўвае знянацку — як абухом па цемечку, быццам бы хоча здзівіць, яна, містыка — як той гарэзлівы пацан — абы прыкальнуцца, абы пацвяліцца. У маім жыцці містычнае здаралася не так часта, можа, таму, што я не надта ў тое веру. Ды часам нехаця паверыш.

Нанач заўсёды клаў свой мабільны тэлефон на крэсла побач з ложкам, каб ён быў, як цяпер кажуць, «у крокавай даступнасці». Бо ці мала што... спіш яшчэ, а камусьці не спіцца, швэндай тады голы па хаце, як лунатык, а так, калі што, працягнуў руку — і ты на сувязі. Заадно і час зверыш па мабільніку, святла не запальваючы — зручна.

Дык вось, паклаў я яго аднойчы на крэсла, распрануўся і шусь пад коўдру...

І шанцуе ж мне на мабільныя тэлефоны, хоць і простыя яны ў мяне, не «крутыя», ды заўсёды вясёлыя, яўна з гумарком, а то і з характарам. Крутых ды розных там сэнсарных мне не трэба, хай моладзь забаўляецца. Спачатку быў «Siemens». Сямёнавічам яго зваў, лабэшнікам моцны, хоць ты ім было цаглiну разбівай. Насіў, вядома ж, у кішэні, дзе яго яшчэ насіць! А ён там паляжыць-паляжыць, засумуе і давай з дуру «коры мачыць». Аднаго разу напалохаў і моцна здзівіў сваякоў, тыя раптам атрымалі ад майго Сямёнавіча пустыя эсэмэскі. Давай мне званіць-трывожыцца, што, маўляў, здарылася, а я і сном-духам не ведаю. Ну зусім як малое неразумнае дзіця. Ды толькі і ў кут не паставіш, і дзягі не ўшпіліш — хіба шчаўбана дасі, а што той шчаўбан броненепрабіваемай электроннай лабацiне!

Пухам яму зямелька! Знік мой Сямёнавіч без вестак, як праз зямлю праваліўся. Выскачыў аднойчы з кішэні, калі я на скутарку па вясне на гарадской дарозе, як на пральнай дошцы, азадак сабе адбіваў і вантробы растрасаў. Сiгануў у свет як у капейку — і памінай як звалі.

І тады я купіў «LG». Кітаец Элік, як цяпер памятаю, дзвесце дзесяць тысяч каштаваў, калі іншыя пад мільён падбіраліся, дармавы можна сказаць. Худзенькі-шчупленькі, кнопачкі, як рэбрачкі — усе аж свецяцца, пералічыць можна. Не тое што ў кішэні, ён табе ў далані паміж пальцаў схаваецца. Ну, думаў, гэты, на выгляд інтэлігентны, хоць гальштук завязвай, сур'ёзны будзе, самастойны, ва ўсякім разе смяяцца з гаспадара за грэх палічыць. Дык ён і не смяяўся дагэтуль ніколі. А тут раптам...

Прыйшоў я дадому стомлены, на працы, за сталом пісьмовым, за камп'ютарам, радоўку адбыў — мусіць, лепей бы ў полі каровы пасвіў, так бы не стаміўся. Памятаю, як пасвілі з бацькам каровак. Па кустах, па пожаньках, да лесу, аж да Логу Каменнага, пад Лісія Норы ганялі. Малы быў, падшыванец яшчэ. Трава гэдак не стаяла ў той час, як цяпер, што ў быльнягу палі па вушы хаваюцца, і меліярацыя тады яшчэ зямельку не пасушыла. Атава зялёная адскочыць, каровы як хутка наўсмак зліжуць, як масла са скрылдa — і пераганяй далей. Пад вечар ужо ног не чуеш. А ўсё роўна так не стамляешся, як цяпер, цярэбячы на працы за кампом патыліцу.



Во ўспомніў маленства. Чаму, можа, прыгадаў? Таму, што сёння, у апошні дзень студзеня, у мяне свята. Асабістае. Свята душы. Яго ў календарах не шукайце, бо яно маё, як кажуць, эксклюзіўнае. Маленькі кавалачак дзяцінства, абразок захаваўся ў памяці, «завіс», як той комп са старою экспішнаю «віндою».

Мы — уся сям'я, я і сёстры — малыя яшчэ. І бацькі дома. Дроўцы ў печцы весела трашчаць, гараць. Мама ля загнета — ладзіць нам вячэру: «татаву яечню» — так мы звалі амлет, у якім плавалі вялікія прадаўгаватыя любовыя шкваркі, бацька яго вельмі любіў. А на другой, вялізарнай, як жорны, патэльні, сквірчаць грэнкі — чорны сухаваты хлебец смажыцца на таплёным сальцы пад ціхую песню патэльні — нібы па-новай нараджаецца...

Сястра сачыніла і ў сшытак запісвае вершык. Неўпрыкмет падглядваю, і пакуль не «спаліла» мяне ды не засланіла даланёй сшытак, паспеў убачыць: «Ты яечню, мама, сжарь и гренок из хлеба». У коміне вецер скуголіць-свішча, на вуліцы снегу намяло, заўтра, можа, будзем на санках з даху ў гурбу з'язджаць. А тут, на пяколку, нам, дзецям, і коцшы Мурцы так утульна, так хораша! Апошні суровы студзенскі вечар...

Адбілася-вылепіліся ў памяці, як у матрыцы — на ўсё жыццё. І цяпер у мяне кожнага трыццаць першага студзеня — Дзень утульнасці. Трыумф майго маленства.

Печку тую рускую з пяколкам даўно разабралі і дарогу ля хаты ёй замасцілі, каб не паплыла, і «яечню татаву» ды «гренок из хлеба» не заўсёды ёсць час прыладзіць, дый няма для каго. Кармлю сябе, старога, успамінамі дзяцінства.

Ага, дык на чым жа я спыніўся? Прыйшоў дадому стомлены, ногі прывалок, хапіла сілы распрануцца і схавацца пад коўдраю. А пра мабільнік усё ж не забыўся. Яго, як заўсёды — на крэсла, на адлегласці працягнутай рукі.

Прастатыт пракляты. Паспіш тут! Хіба я там пакімарыў? Цёмначы борздзенька прахапіўся, цікава, колькі ж часу? Працягнуў руку, ды раптам зласліва бліснуў мне ў вочы маленькім блакітным экранчыкам Элік: «Прашу не лапаць...»

> **Містыка здараецца не тады, калі яе чакаеш, а падпільноўвае знянацку — як абухом па цемечку, быццам бы хоча здзівіць, яна, містыка — як той гарэзлівы пацан — абы прыкальнуцца, абы пацвяліцца**

Што? Рука здрыганулася і адскочыла сама, нібы ўхапіў гарачага. Што! Вочы самі сабе не паверылі. Асцярожна, як бы да вужакі, дакранаюся да Эліка, падношу экран да вачэй, спраўджваю: «Прашу не лапаць...» Сон як бураю знесла... Бач ты, які цнатлівец! Не бойся, дурань. Тут жа ўжо, даражэнькі... прастатыт, сам разумееш, каб і хацеў, грэц яго... Ты мне лепей скажы, блін, колькі часу!

Чакай, кажуць, духі ў людзей нават пасяляюцца, а чаму б і не ў мабільнікі? А раптам у яго дух якой-небудзь там поп-дзівы з Галівуда ўсяліўся — Умы Турман ці Мэрыл Сціл, халера іх, язык зломіш. А ўжо не кажу пра іншы орган. Аж галава ўскружылася ад гэткай здагадкі, і лоб успацеў, і «да ветру» тым часам зусім перахацелася. Адчуваю, як у паветры смаленым запахла. Ха... ха... харасмент, бліін!. А што! Калі вунь нават сам Трамп у лапы да тога харасмента трапіў, ледзь быў выкруціўся, ды хто ж тут я такі са сваім прастатытам! Э, не, брат, Масква слязам не верыць. Прышпіляць, як вунь у дзеда Кандрата ў байцы: «Не разбяруцца, зловяць — чык. Тады й даводзь, што ты не бык».

Падхопліваюся, борздзенька бягу шукаць лупу. А вочкі ж мае вочкі, не свеціце ўжо ўночкі... Лупай узброіўся, файлік адкрываю. Чаго ж ты, Элік, хочаш ад мяне, супастат, вымагальнік хрэнаў! Файлік адкрываю, чытаю: «Прашу не лапаць тэлефон — прыватная ўласнасць ён, а не прывабная дзяўчына». І дата: «31.01.2018».

Думаеце, пісьменнік насачыняў? Калі не верыце, запытайцеся... А ў каго, грэц яго, запытаца? Хіба што ў майго авантурнага Эліка? Хто спраўдзіць? Хто пацвердзіць? Хто радачкі дасць?! А толькі, далібог, нічога, слоўца ніводнага не прыдумаў, так яно ўсё і было.

Ляжу, вочы па гарбузу. Сон увесь у комін дымам выйшаў. Цяперака ночанька доўганькай будзе, калі не акалею тут увогуле да раніцы ад роспачы, змогшыся зубамі ляшчэць. А зуб на зуб не трапляе. І сарамоцця не абрацца, быццам і сапраўды якой попдзіве на каленца руку паклаў. А ці ім там, у Амерыцы, сваіх харасментаў мала, што яны ўжо і да чэснага савецкага... Цьфу ты, хай сабе ўжо й не зусім савецкага, а ўсё роўна ж чэснага — і не збэшчанага рознымі іхнімі заакіянскімі штукенцыямі, грамадзяніна дабраліся-дачапіліся. Вось табе, дзядулька, і прастатыт! Ты мне так не жартуй, Элічак! Хай яны там са сваімі мужыкамі самі разбяруцца — хочуць, да спадніцы падпускаюць, хочуць, «бергамскія замкі» сабе вешаюць ды за «венецыянскімі краткамі» цноту сваю хаваюць, а хоць сабе і адразу, як Афіна, з расколатай галавы Зеўса, на свет белы з'яўляюцца. А мы ўжо тут самі сабе, без харасментаў, пажывем, мы ўжо тут як-небудзь па-традыцыйнаму.

Блін! Галава і праўда, як у таго Зеўса, раскалваецца... Чакай, а ці не сам я і сачыніў тую эсэмэску? «Прыватная ўласнасць ён, а не прывабная дзяўчына». Ну так, натуралёва! Бач ты ўжо — склероз! Гадоў мо пяць таму. Унукі прыязджалі. Эліка майго схопяць і давай сваім кралям саплівым названьваць. Узлаваўся дзед і сачыніў вершык. І ў нататках захаваў, не ведаў, як яго скарыстаць? Эсэмэскаю гарэзаў не спужаеш і ад дзяўчат не адвадзіш.

Добра, хай сабе і так. Але чаму сённяшнім днём тая нататка выскачыла? Містыка! Э-эх! Надта мулкім мой Дзень утульнасці атрымаўся, надта ж няўтульна на душы... А мо і праўда ўжо й да нас той харасмент дабраўся, што там яму акіян пераплыць?

Будзеце смяяцца, ды з таго часу перастаў я Эліка побач з сабою ноччу ўкладваць. Лепей ужо, калі што, пашукаю ў цемры. Малайчына, дамогся мой цнатлівы мабільнічак права на асабістае жыццё, дамогся недатыкальнасці. І за колькі там метраў, па-іхняму, нельга набліжацца, каб не ўвярвацца, чаго добрага, у асабістую прастору ды не ўляпацца па дурасці ў харасмент? Смейцеся, смейцеся. Як дзед Кандрат казаў: «Смяецца той, хто смяецца апошнім».

# «У трохкутніку пачатку і канца»

## З Міцкевіча

### Сон

*Пакінуць змушана мяне, — і ўсё ж*
*Калі ты ў сэрцы зберажэш каханне,*
*Знарок заўчасным смуткам не трывож,*
*Перад расстаннем не ўзгадай расстанне!*

*Хай з вечару да слёзаў ранку нас*
*Яшчэ пабавяць хвілі мрой пяшчотных,*
*І толькі ў самы развітальны час*
*Атруты — колькі кропляў —*
*дай смяротных.*

*Цябе я пацалую, а павек*
*Сваіх не змружу і на самым сконе,*
*Няхай засну ў раскошы я навек,*
*Бы тонучы ў вачэй тваіх прадонні.*

*І пройдуць дні ці леты над зямлёй,*
*Калі мне скажуць паўставаць з магілы,*
*Ты ўспомніш, як заснуў каханы твой,*
*І з неба сыдзеш, каб яму даць сілы.*

*Абнімеш, ад пяшчоты рук тваіх*
*Прачнуся я ў цябе на белым лоне,*
*І здасца мне, што задрамаў на міг,*
*Паволі тонучы ў вачэй прадонні.*

### Праліліся слёзы

*Праліліся слёзы знячэўку праз вейкі,*
*На радасць забаваў свавольскіх анёльскіх,*
*На ўзлёт маладосці натхнёны, шалёны,*
*На горыч мужчынскіх абразаў, паразаў;*
*Праліліся слёзы знячэўку праз вейкі...*

## З Шэлі

### Філасофія кахання

*Крыніца да ракі ўцякае,*
*Рака да акіяна,*
*А вецер — подых небакраю —*
*З натхненнем паяднаны.*
*Павінныя па Божай волі*
*Душы дзве быць адной,*
*Але самотнай аніколі, —*
*Чаму ж не я з табой?*

*Не будзе даравання кветцы,*
*Што сябрам пагарджала;*
*Глядзі, да хвалі вал імкнецца,*
*Цалуюць неба скалы;*
*Затоцы — месяц, дзень — зямлі*
*Нясуць мілосць такую ж,*
*Але навошта ўсё, калі*
*Ты не мяне цалуеш?*

## З Лангфэла

### Страла і песня

*Пусціў стралу я ў белы свет,*
*Ды ўпала дзесьці немавед,*
*Яна ляціць нашмат хутчэй,*
*Чым зрок пільнуючых вачэй.*

*Я песню выдыхнуў у свет,*
*Дый знікла дзесьці немавед,*
*Хто гэткі хуткі, каб паспеў*
*Прапільнаваць парыўны спеў?*

*Праз леты адшукаў — страла*
*У дубе цэлая была,*
*А песню ўсю сваю наноў*
*У сэрцы сябра я знайшоў.*

## З Герберта

### Струна

*Пакідаюць птахі*
*ў гнёздах свае цені*

*ты пакінеш лямпу*
*інструмент і кнігу*



*пойдзем на пагорак*
*дзе расце паветра*

*зорку па-за светам*
*пакажу рукою*

*ў глыбі пад дзірванам*
*чуйныя карэньцы*

*там крынічка хмарак*
*чыстая трапеча*

*вецер дакранецца*
*вуснамі — спявайце!*

*мы ж ілбы паморшчым*
*слова не прамовім*

*німбы наўкол хмараў*
*што святыя маюць*

*а замест вачэй нам*
*камянёў чарноцце*

*шнары па расстанні*
*добра памяць лечаць*

*можа сыдуць бліскі*
*на пахілых спінах*

*напраўду напраўду кажу я вам*
*пропадня вялікая*
*паміж намі*
*й светам*

### Балада пра тое што не гінем

*Тыя, што на золку паплылі,*
*але ўжо ніколі не вернуцца,*
*на хвалі пакінулі след —*

*тады ў глыб мора спадае ракаўка*
*прыгожая, як скамянелыя вусны*

*тыя, што йшлі пясчанай дарогай*
*але не дайшлі да аканіц*
*хаця ўжо відаць было дахі —*

*у звоне паветра маюць спрат*

*тым, каму выпала асірацідь*
*празяблы пакой пару кніжак*
*пусты каламар белы аркуш*

*насамрэч не памерлі цалкам*

*шэпт іх ідзе праз нетры шпалер*
*у сталі жыве пляскатая галава*

*з паветра вады вапны земляў*
*зроблены рай іх анёл ветру*
*цела расцярушыць у руцэ*
*будуць*
*імчацца па гонях нашага свету*

### Да ракі

*Рака — клепсідра вады метафара вечнасці*
*ўступаю ў цябе штораз больш іншы*
*што мог быць аблокам рыбай*
*альбо скалой*
*а ты — нязменная нібы гадзіннік*
*што адмярае*
*метамарфозы цела і заняпады духу*
*павольны расклад тканак і кахання*

*я народжаны з гліны*
*хачу быць тваім вучнем*
*і пазнаць крыніцу*
*алімпійскае сэрца*
*халодная паходня шумная калона*
*апрышча маёй веры і роспачы*

*навучы мяне*
*рака ўпартасці й трывання*
*каб заслужыў у апошнюю гадзіну*
*на адпачынак у ценю вялікай дэльты*
*ў святым трохкутніку пачатку і канца*

## З Шэкспіра

### Гамлет

*Звіхнуўся век — знявечаны! От ліха,*
*Народжаны я збавіць век ад звіху.*

### Гертруда

*Скінь, добры Гамлет, колер свой начны,*
*На караля датчан зірні, як сябар.*
*Не апускай павек сваіх навек,*
*Выглядваючы ў праху воблік бацькі,*
*Звычайна — ўсё жывое памірае*
*І пераходзіць праз прыроду ў вечнасць.*

### Гамлет

*Мо і звычайна...*

### Гертруда

*Так было заўжды,*
*Здаецца дзіўным што табе, скажы?*

### Гамлет

*«Здаецца»? Не, насамрэч ёсць! Я слова*
*«Здаецца» не прымаю. Ні мой плашч,*
*Нібы з атраманту, ні чорны ўбор,*
*Ні кіслы твар, ні іншы знак пакуты*
*Не скажуць праўду пра мяне — яны*
*«Здаюцца» толькі — можна іх сыграць.*

*Аздобы тыя дэманструюць скруху,*
*Ёсць большае ўва мне за паказуху.*
*...........*

*Быць альбо не быць, — і ў тым пытанне —*
*Дзе болей годнасці: цярпець свядома*
*Прашчы і стрэлы жорсткага нам кону*
*Альбо ўзняць зброю супраць мора*
*бедстваў*
*І ў бітве стрэчнай знішчыць?*
*І... памерці —*
*Заснуць — няйнакш. І гэтым сном спыніць*
*Боль духа й тысячы турбот прыродных,*
*Што дастаюцца целу. Мы жадалі б*
*Такі мець дасканалы скон. Памерці —*
*Заснуць. Заснуць! Скон — сон?*
*Аднак замінка —*
*Якія мары ў сне смяротным прыйдуць,*
*Калі мы скінем путы крутаверці?*
*Грызуць сумненні... Адсюль паклон*
*Злашчасцям, што іх пажыццёвымі*
*І робіць. Бо хто трываў бы здзекі часу,*
*Хлусню прыўладных, кпіны фанабэрных,*
*Глумленне над каханнем, суд няпраўны,*
*Чыноўнікаў нахабства і паклёпы*
*Душой убогіх на высакародных,*
*Каб ён мог паквітацца па квітках*
*Стылетам? Хто б цягаў свой цюк набіты,*
*Патнеў і рохкаў у жыцця загоне,*
*Калі б жах ад таго, што ж там*
*па смерці —*
*Таемны край, ніводны скуль вандроўнік*
*Не змог вярнуцца — не бянтэжыў волю*
*Галаваломкай і не змушаў цярпець*
*Прывычныя цярпенні, а не мкнуць*
*Да... верагодна, новых? Так свядомасць*
*З нас баязліўцаў робіць і ўкрывае*
*Рашучасці прыроджаны румянец*
*Бялёса-гіпсавым адценнем думкі,*
*Й зачыны, што саспелі ў сарцавіне,*
*Па роздуме вядуць свой ток у бок*
*І не мянуюцца — «учынак».*
*.........*

*Вам, хто збялеў ад гэтай сцэны,*
*Мне не паспець усё пераказаць...*
*Смерць — канваір, які штурхае ў спіну.*
*Хай будзе так! Гарацыё, я гіну...*

*А ты жывеш, усім паведай праўду.*

*Па мне імя скалечаным жыць будзе,*
*Як час падзеі гэтыя схавае.*
*Калі ж мяне любіў ты сэрцам верным,*
*Тады адкінь забавы, асалоды*
*І з болем удыхай суворы свет,*
*Каб выдыхнуць маю аповесць.*
*Гарацыё, я паміраю...*
*Атрута моцная — мой дух дранцвее...*
*Далей зацішша.*

### Гарацыё

*Дабранач, добры прынц,*
*Анёлаў спеў цябе хай залюляе.*

**Пераклады на беларускую мову**
**Сержа Мінскевіча**

# «Любоўю пасвянчоная Жыццю»

**У мінулым годзе ў выдавецтве «Галіяфы» ў серыі «Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў» выйшла кніга паэзіі Людмілы Паўлікавай-Хейдаравай «Прыступкі да Храма Святога Духа».**

Назва зборніка гаворыць сама пра сябе, адсылаючы да сакральных вышыняў чалавечых памкненняў. Кніга аб'яднала як новыя творы, так і выбраныя, а таксама прапануе чытачу пераклады з польскай, украінскай, рускай, літоўскай і в'етнамскай моў. Паэтычнае крэда ў яскравай форме выказана лаканічнымі радкамі:

*У часе, як у даўкім, цяжкім дыме,*
*іду, паклон аддаўшая быццю —*
*Любоўю пасвянчоная Жыццю,*
*Жыццём ахвяраваная Радзіме...*

Паэтка не спакушаецца бляскам тэматычнай навізны ці іншымі моднымі плынямі, каб «уціснуцца» ў мейнстрым, а няўхільна запрашае чытача да духоўнага роздуму.

Шчыра кажучы, у наш час рызыкне не кожны творца звярнуцца да неаднаразова перапетай грамадзянскай тэматыкі ды высокай патэтыкі, асабліва ўлічваючы долю здаровага скепсісу ў сучаснага чытача. Аднак паэтка з дапамогай трапнай метафарычнасці і яркай вобразнасці бліскуча балансуе паміж Сцылай казённага пафасу, які ў свой час набіў аскому, і Харыбдай сучаснага нігілізму, які прыгнятае чалавечую волю:

*З-пад Белай Брамы зграямі ваўкоў*
*У бой ідуць апошнія героі...*

Вершам Л. Паўлікавай-Хейдаравай не ўласціва сэнсавая цьмянасць ці лексічная эквілібрыстыка; яна не імкнецца і да празмернай інтэлектуалізацыі сваіх твораў. Душэўныя перажыванні не хаваюцца за шматслаёвай метафарычнасцю. Паэтка знаходзіць дакладныя, лагічна выверaныя і, разам з тым, пранізлівыя словы, каб ахарактарызаваць пакутлівы стан душы, якой даводзіцца існаваць у «пракруставым ложку ілжывай дзяржавы».

Паэтка не хавае свайго болю за мову «племені без роду», за Айчыну, абпаленаю гаркавай біблейскай зоркай.

У радках, прысвечаных чорнаму маю, жах чарнобыльскай трагедыі набывае планетарны адгалосак:

*Зямляне, узвядзіце саркафаг*
*над Белай Руссю...*

«Прыступкамі да Храма Святога Духа» сталіся і вершы, прысвечаныя радні па духу: Максіму Багдановічу, Васілю Быкаву, Рыгору Барадуліну, Паўлюку Багрыму... У іх паэтка выказала сваю любоў і павагу, боль і захапленне высокім лёсам найлепшых сыноў Айчыны.

Паэзіі Людмілы Паўлікавай-Хейдаравай, матэматыку па адукацыі, падуладныя не толькі функцыі філасофскіх разважанняў ды інтэгральнае ўспрыманне рэальнасці, ёй уласцівыя і тонкі лірызм ды меладыйнасць. Пры тым у любоўнай тэматыцы яна пазбягае прыкрай сентыментальнасці і штучнай манернасці.

Паэтка па-майстэрску валодае словам і ў перакладах, уключаных у гэты зборнік. Яна не толькі максімальна захоўвае вершаваную канструкцыю арыгінала і пазбягае спакусы збіцца на хвалю ўласнай пачуццёвасці, але і надае наватвору высокую мастацкую якасць.

...На прэзентацыі зборніка «Прыступкі да Храма Святога Духа» ў галерэі ТУТ.БАЙ гучала многа цікавых выказванняў у адрас кнігі. Але калі ў перыядычных выданнях я не знайшла друкаваных водгукаў, вырашыла звярнуцца да аднаго з найбольш аўтарытэтных майстроў паэтычнага слова, каб пачуць яго думку аб творчым узроўні новага выдання.

Людміла Паўлікава-Хейдарава не аднойчы называла Алеся Разанава «чалавекам у лёсе». Зыходзячы з гэтага, немагчыма было не даведацца, як выбітны паэт успрыняў яе новую кнігу




паэзіі. Праз некалькі дзён я атрымала пісьмовы водгук Алеся Разанава:

«Гэта своеасаблівая анталогія аднаго аўтара. У ёй сумяшчаюцца розныя паэтычныя формы, розныя віды верша — ад санета да прозаверша, і яны красамоўна сведчаць аб дасягнутым узроўні майстэрства. Асноўная іхняя асаблівасць — што яны шчырыя, гэта яе вершы, бо яны ўзышлі з яе жыцця, з яе перажыванняў, з яе жыццяпісу і выяўляюцца як споведзі — свае і людскія.

Так, часам, нібы з адбіткам у люстэрку, яна ажно залішне атаясамляецца са сваёй асабовасцю, але ўсё роўна, хочаш-не хочаш, а адпускае яе, і гэты «водпуск», нібы жывіцай, напаўняецца каштоўным досведам; так, часам (найбольш напачатку) яна прамаўляе задужа агульныя словы да ўсёй Беларусі і ад усёй Беларусі, але за гэтымі словамі прысутнічае напаўненне — мелодыя, а яны ўспрымаюцца як словы да нейкай песні.

У гэтую, надзённую, рэчаіснасць яна як бы ўваходзіць аднекуль — з іншай, святлейшай, дабрэйшай, нават шляхетнейшай рэчаіснасці, і гэтая рэчаіснасць становіцца палатном, на якім праступаюць узоры і знакі той рэчаіснасці, і там, дзе яны праступаюць найбольш выразна, там найбольшыя творчыя дасягненні...

У іх асабовае яднаецца з пазаасабовым і выплаўляецца ў формулы і высновы.

Як бачым, класічны верш, населены самацветамі прызнанняў і перажыванняў, для Паўлікавай-Хейдаравай апынаецца плённым, можа, найбольш плённым набыткам».

На заканчэнне пра кнігу скажу так: «Прыступкі да Храма Святога Духа» непадробныя і высокія, аб'ёмныя і шматвымерныя ў мастацкім выяўленні. Гэтая кніга — годны шлях для тых, каго вабіць высакароднасць. Гэтая кніга — адхланне для тых, хто захапляецца любоўнай лірыкай. Гэтая кніга для тых, хто не ўяўляе сябе за межамі нацыянальнай і сусветнай культуры. Удачы чытачам на кожнай яе прыступцы!

**Валянціна Осіпава**

# Некалькі думак у абарону відавочнага

**Роздум паводле лекцыі У. Мікушэвіча «Іван Бяздомны — аўтар рамана «Майстар і Маргарыта»**

Філасофія не пасягае на ісціну, а існуе дзеля таго, каб іншыя не прысвоілі чужыя думкі, шукаючы свае, — пісала я некалі ў сваёй першай кнізе «Проста ноч на дварэ». У тым яшчэ раз пераканалася, слухаючы доўгачаканую (мной) лекцыю У. Мікушэвіча «Иван Бездомный — автор романа «Мастер и Маргарита». Як мінімум, дзве небяспечныя высновы філосафа прымусілі мяне стаць на абарону... калі не ісціны, дык хаця б відавочнага.

«Богоискательство дальше всего от Бога, даже дальше чем неверие в него. Бог не иголка — что его искать?» — як літаратурная фраза, думка падаецца мне прыгожай. Разважанне «всуе» на падобныя тэмы ёсць грэх, здольны давесці да страты розума. Аднак рэальнае жыццё дазваляе прыняць думку філосафа толькі як умоўную, ідэалістычную. Наш свет не населены выключна тымі, хто жыве па прынцыпу — «имеющий глаза да увидит, имеющий уши да услышит». Нараджаецца дзіця — і адразу цягнецца да смочка. Калі ўпершыню адчувае сваё «Я» — пачынае шукаць духоўнае сілкаванне. Абсурднай толькі здаецца карціна: галоднае дзіця, маючы на вуснах малако — выплёўвае з роту смочак, крычыць, шукае яго і зноў выплёўвае. Так бывае з многіх прычын. Ці не падобным чынам у адносінах да боскага паводзіцца чалавек? Як не ўсе немаўляты забяспечаны мацярынскім малаком і нават мамай, так і ў духоўным... Наўрад ці будзе займацца богашукальніцтвам чалавек, адораны святасцю душы і прывіты праведнасцю ўчынку, незалежна ад таго, «акармляецца» ён храмам ці самастойна. Затое да святасці праз церні і змаганні ў пакутлівым пошуку прыходзілі не аднойчы. Богашукальніцтва, уласцівае гістарычнаму перыяду таго грамадства, спрыяла Ісусу займець вучняў. Як і распаўсюджванню хрысціянства.

Можна дамовіцца: богашукальніцтва — паталогія, хранічная хвароба чалавецтва, курыная слепата, лекі ад якой — у прасвятленні.

Другая выснова У. Мікушэвіча куды больш небяспечная за першую. Філосаф сцвярджае, што Хрыстос ёсць «народный вождь». Як доказ сваёй праваты дае прыклад: Ісус Хрыстос разганяе гандляроў ад храма. Не трэба забываць, што ў зямным існаванні Ісус быў чалавекам і не мог фізічна ў кожным сваім імгненні заставацца Богам. Не ўсе словы і ўчынкі Ісуса можна разглядаць як пасыл ад імя Бога. І менавіта ў разгоне гандляроў праявіліся рысы Хрыста-чалавека. Бог якраз цярпеў! Да гэтай пары на іх нават пстрычкі не ахвяраваў. Што крыкнуў гандлярам Ісус? «Дома Отца моего не делайте домом торговли» (Евангелле ад Іаана, гл. 2,16). Каб на той момант ён гаварыў ад імя Бога, казаў бы: «Вон з Майго дома!»

Менавіта ў гэтай памылцы — бачыць Ісуса народным правадыром, змагаром, барацьбітом — крыецца страшны грэх «шчырага патрыёта» Іуды. Неапраўданая надзея змяніць гаротнае існаванне суайчыннікаў, паставіць свайго Настаўніка сапраўдным царом потым штурхнула яго на здраду. З ваяўнічым вобразам Хрыста расчыналіся крыжовыя паходы і войны...

Выбачайце, хачу прывесці навязлівы ўспамін. Старая бабуля-інвалід, разбітая хваробай Паркінсона, па тэлевізары глядзіць велікодныя святкаванні. Уздыхае, рэагуючы на шыльду «цар іудзейскі»: «Калі ж ты ўжо станеш царом?!» Гэта — цёмная бабуля, не здольная зразумець, што Царом Ісус з'яўляецца ўжо дзве тысячы гадоў.

Філосаф У. Мікушэвіч сцвярджае, што не было б хрысціянства, калі б Ісус не быў народным правадыром. Калі б Ісус быў такім, якім філосаф бачыць яго, — не пайшоў бы на крыж! Ад прыроды любой жывой істоце ўласцівы імунітэт самазахавання. Бунтарскай, правадырскай натуры яшчэ «дадаецца» і моцны элемент нязгоды з лёсам — як шлях выжывання. Такі герой не пойдзе на крыж толькі таму, што «наканавана». А самае галоўнае, з чым і кім можа змагацца Ісус? Калі ў свеце ўсё ад Бога і нічога няма акрамя Бога. У змагара свет падзяляецца на сваіх і ворагаў, а Ісус любіць кожнага, ён не змагацца прыйшоў да людзей — паказаць, што любоўю можна змяніць усё, нават саму смерць. Навошта нам дадумваць і прыцягваць за вушы здагадкі? Там сапраўдны барацьбіт ёсць — Варава. Ён паказаны ў біблейскім сюжэце не выпадкова. Каб не зблытаці. Ён — антыпод. Імя бунтара нам паказвае, як лёгка падмяніць ісціну. Варава (Бар абба) з іудзейскай — «сын бацькі». Так Ісус сваім вучням адказваў на пытанні. «Скажы нам: хто ты? Ілля? Месія? Прарок?» — «Я Сын Айца нябеснага».

А. І. Салжаніцын на прыкладзе з жыцця рэальных людзей паказаў у рамане «Архіпелаг ГУЛАГ», што ёсць сіла веры. Лагер ламаў самых моцных, волатаў, змагароў. А квёлых бабуль і лядашчых дзядоў, арыштаваных за веру, не адолеў. Вось у чым сіла Хрыста...

Філосаф даводзіць літаратурны аналіз да абсурднай галаваломкі: мы не маем напрыканцы НІЧОГА: Хрыста — няма, Маргарыты — няма, Майстра няма ад самага пачатку, бо ён страціў сваё імя... Затое само па сабе паўстае пытанне: а Воланд — хто? Аказваецца — магчыма, ён і не той, за каго ўсе яго прымаюць! Вось гэта якраз лагічна. Калі Ісус — «народный вождь», то Воланд сваёй «моцю» цягне — ого-го! (Страшна агучыць...)

Іешуа зусім не падобны на Ісуса, на думку крытыка, таму што вельмі слабы і ніякіх цудаў не стварыў. Але цуды паказвалі і да Хрыста, і пасля яго. Ён мусіў паказаць цуд, бо слабая людская вера. Не ў цудах сіла Ісуса, а ў здольнасці любіць нават сваіх катаў. Бясспрэчна, Іешуа — герой літаратурны, аднак як бы ні вышукваў крытык у ім чорнага «падкладу», — яго там няма. Цяжка ўявіць, што Міхаіл Булгакаў апошнія дні свайго жыцця аддаў на тое, каб стварыць пусты балонік, вобраз «лубочнага Хрыста». Ці мог бы яго «лубочны Хрыстос», «антыпод» паспрыяць дзіўнаму пераўтварэнню Бяздомнага, як у рамане адбываецца. Не гледзячы на «хадульнасць» усіх вобразаў рамана, аўтару ўдалася галоўная ідэя: паказаць квінтэсэнцыю хрысціянства. Ачысціць «краекутні камень» ад домыслаў і надбудоў.

Калі б хтосьці мне даказаў, што Бога няма, яго прыдумалі, — я б упэўнена адказала, што прыдумаць Яго мог толькі сам Бог. Слухаючы на гэты раз паважанага мною У. Мікушэвіча, падалося, што філосаф спрабаваў даказаць, што майго Бога не існуе.

Не пярэчыць, толькі пацвярджае мае развагі прыём шматаўтарства рамана ў рамане. Пісаў усё Булгакаў, перадаў аўтарства Майстру, той у свой час паклаў надзею на Бяздомнага, а дапісвае ўрэшце ўжо не той Бяздомны, а прафесар Панырoў, які спазнаў пераўтварэнне. У Старым Запавеце ўвесь час хтосьці цікаўны з народу звяртаецца да Бога з рытарычным паклічам: «ХТО ТЫ?! НУ АДКАЖЫ НАМ — ХТО ТЫ ЁСЦЬ?!» І заўсёды гучыць адказ: «Я — гэта вы».

Кожны з нас стварае Бога. Чалавек і Бог — узаемазвязаныя сасуды, якія разам і развіваюцца. А інакш — навошта мы ЯМУ?!

**Людміла Андзілеўка**

ПРЭМІІ




## Прэмія памяці Астрыд Ліндгрэн

**Паводле паведамлення, апублікаванага на афіцыйным сайце літаратурнай прэміі памяці Астрыд Ліндгрэн, лаўрэатам сезона 2018 года стала амерыканская пісьменніца Жаклін Вудсон.**

Яна нарадзілася ў 1963 годзе і жыве ў Брукліне (Нью-Ёрк). Ж. Вудсон — аўтарка больш за трыццаць кніг, у тым ліку раманаў і паэтычных зборнікаў. Яна піша ў асноўным для падлеткаў, але сярод яе твораў ёсць таксама і творы для дзяцей і дарослых.

Журы прэміі адзначыла: «Жаклін Вудсон знаёміць нас з маладымі людзьмі, якія змагаюцца за тое, каб знайсці сваё месца ў жыцці. Мовай простай, як святло і паветра, яна распавядае гісторыі з багатым і глыбокім пачуццём. Жаклін Вудсон можа знайсці ўнікальную паэтычную ноту ў паўсядзённай рэальнасці, падзеленую паміж смуткам і надзеяй».

Прэмія памяці Астрыд Ліндгрэн (ALMA) — гэта самая вядомая ў свеце ўзнагарода за дзіцячую і юнацкую літаратуру. Яе прэміяльны памер — 5 мільёнаў шведскіх крон (каля 615 тысячаў даляраў).

## Прэмія імя Андэрсана

**Паводле паведамлення выдання «Publishers Weekly», на Балонскім дзіцячым кніжным кірмашы былі абвешчаныя імёны лаўрэатаў прэміі літаратуры для дзяцей — прэміі імя Ганса Хрысціяна Андэрсана, якую называюць Нобелеўскай прэміяй у сферы дзіцячай літаратуры.**




Старшыня журы прэміі Патрыцыя Алдана ад імя Міжнароднай рады па кнігах для моладзі абвесціла імёны пераможцаў прэміі. Лепшым дзіцячым аўтарам 2018 года стала японская пісьменніца Эйко Кадоно, а лепшым мастаком-ілюстратарам — расіянін Ігар Алейнікаў.

Адной з самых вядомых работ Эйко Кадоно з'яўляецца «Служба дастаўкі Кікі», упершыню апублікаваная ў 1985 годзе ў Японіі і перакладзеная ў ЗША ў 2003 годзе выдавецтвам «Annick Press». Кніга пра маладую вядзьмарку ў горадзе Корык, з якой пачаўся цыкл, была адаптавана вядомым ва ўсім свеце японскім рэжысёрам Хаяо Міядзакі ў аднайменны анімацыйны фільм. У заяве журы гаворыцца: «У працы гэтага японскага аўтара ёсць незвычайная чароўнасць, спачуванне ды імпульс... Нягледзячы на тое, што Кадоно пастаянна падарожнічае па ўсім свеце, яе гісторыі глыбока ўкаранёныя ў Японіі і паказваюць нам Японію, у якой жывуць усякія нечаканыя людзі».

Ігар Алейнікаў пачаў сваю кар'еру як аніматар на студыі «Саюзмультфільм» у Маскве, перш чым ілюстраваць кніжкі з арыгінальнымі гісторыямі, такія, як «Усе бягуць, ляцяць і скачуць» Данііла Хармса, так і з класічнымі казкамі і фальклорам, такія, як «Салавей» Ганса Хрысціяна Андэрсана («Purple Bear», 2007). Сярод яго апошніх працаў — рускае выданне «Прыгодаў мышаня Дэспэро» Кейт ДзіКаміла («Махаон», 2009). Журы прэміі пра мастацтва Алейнікава адзначыла: «Гэты выключны ілюстратар умее ўдыхнуць жыццё ў старонку кнігі так, што гэта можа стаць зайздрасцю для яго калег... Акрамя таго, ім быў створаны шэраг неверагодных персанажаў... У працах Алейнікава адчуваюцца руская мастацкая школа, стыль і запал».

Медалі і дыпломы ўручаць пераможцам падчас правядзення 36-га Кангрэса Міжнароднай рады па дзіцячай кнізе, які пройдзе ў Афінах у верасні 2018 года.

# Кніга Папы Рымскага

**Як паведаміла выданне «RomaSette», у кнігарнях Італіі з'явілася кніга Папы Рымскага Францыска «Бог маладых. Інтэрв'ю з Папам Францішкам» («Dio è giovane»), запісаная ў фармаце гутаркі, якую пантыфік даў 33-гадоваму пісьменніку і журналісту Томасу Леанчыні, і прысвечаная маладому пакаленню.**

Кнігу выдала італьянскае выдавецтва «Piemme», а яе публікацыю прымеркавалі да святкавання Сусветнага дня моладзі, якое адбылося ў Вербную нядзелю.

Папа Францішак адзначае: «Калі мы хочам пагаварыць з маладым чалавекам, мы павінны быць «мабільнымі», тады ён замарудзіцца і будзе нас слухаць, ён вырашыць гэта зрабіць». А гэта, на думку пантыфіка, «можа азначаць прагрэс. Дарослыя часта «выкарчоўваюць» маладых людзей, вынішчаюць іх карані, і замест таго, каб дапамагаць ім быць прарокамі на карысць грамадства, робяць іх сіротамі і адкідваюць. Сённяшняя моладзь расце ў спустошаным грамадстве».

Папа Францішак запрашае дарослых «прасіць у нашых дзяцей прабачэння, таму што мы не заўсёды ставімся да іх сур'ёзна. Мы не заўсёды дапамагаем ім бачыць дарогу... Мы часта не ведаем, як прымусіць іх марыць, і мы не можам іх прыводзіць у захапленне».

Гаворачы аб сацсетках, ён адзначае: «Сёння сацыяльныя сеткі як быццам бы прапануюць нам прастору сувязі з іншымі; сетка прымушае маладых людзей адчуваць сябе часткай адной групы. Але праблема, якую цягне за сабой Інтэрнэт, — гэта яе ўласная віртуальнасць: сетка пакідае маладых людзей у паветры і па гэтай прычыне надзвычай няўстойлівая». Альтэрнатывай з'яўляецца «дыялог маладых людзей з састарэлымі». Але «грамадства адкідае і тое, і іншае». Старыя летуценнікі і маладыя прарокі — гэта шлях да выратавання нашага грамадства: два пакаленні могуць выратаваць усіх».

Нарэшце, пантыфік тлумачыць, чаму «Бог маладых»: «Ён робіць усё новае і любіць новыя рэчы; Ён ведае, як марыць і жадае марыць; будуе адносіны і просіць нас зрабіць тое ж самае, гэта сацыяльнае».

У іншых краінах кніга з'явіцца ў кастрычніку 2018 года.

# «Неспакой» у Шведскай акадэміі

**Згодна з паведамленнем масавай газеты Швецыі «Dagens Nyheter» са спасылкай на матэрыялы ўнутранага расследавання, нейкім «прадстаўніком культуры», які меў цесныя сувязі са Шведскай акадэміяй (што прысуджае Нобелеўскую прэмію), неаднаразова датэрмінова выдаваліся імёны лаўрэатаў прэміі па літаратуры, якія, згодна з рэгламентам, павінны трымацца ў таямніцы да самага апошняга моманту.**

Насуперак правілам, «інфарматар» раней тэрміну паведамляў публіцы, што прэмію атрымаюць Віслава Шымборска (1996), Эльфрыда Элінек (2004), Харолд Пінтэр (2005), Жан-Мары Гюстаў Леклезіё (2008), Патрык Модзіано (2014), Святлана Алексіевіч (2015) і Боб Дылан (2016). Паводле выказванняў адвакатаў, сем надзейных сведкаў, не звязаных паміж сабой, пацвердзілі, што гэтая асоба паведамляла сакрэтную інфармацыю пра лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі.




Акрамя гэтага, расследаваннем было высветлена, што гэты ж чалавек раскрыў імёны двух новаабраных членаў акадэміі да таго, як іх імёны абвясцілі перад грамадскасцю.

Аднак раскрыццё сакрэтнай інфармацыі — гэта не адзінае абвінавачванне ў адрас «прадстаўніка культуры», жанатага, па дадзеных выдання, на адной з членаў акадэміі. Яму таксама інкрымінуюць дамаганні да 18 жанчынаў, праца якіх так ці інакш была звязана з дзейнасцю Шведскай акадэміі.

Вынікам стаў раскол у Акадэміі, калі тры шведскіх пісьменнікі — Клас Эстэргом, Петэр Інглунд і Чэлі Эпсмарк — адмовіліся ад званняў яе пастаянных членаў у знак сваёй нязгоды з ходам і вынікамі разгляду, падкрэсліўшы, што «Акадэмія палічыла за лепшае не годнасць, а дружбу і прыняцце пад увагу іншых абставінаў...». Усе трое адмовіліся паведамляць падрабязнасці, спасылаючыся на прыватнасць.

Пазней апякун Акадэміі — кароль Швецыі Карл XVI Густаў, выклікаўшы пастаяннага сакратара Шведскай акадэміі Сару Даніус, выказаў ёй свае заклапочанасць у звязку з «сумным развіццём падзей».

# Міжнародны дзень дзіцячай кнігі

**Ён адзначаўся 2 красавіка. Гэтая дата была выбрана невыпадкова — у гэты дзень 213 гадоў таму нарадзіўся сусветна вядомы дацкі казачнік — Ганс Хрысціян Андэрсан.**

Яго папулярныя ва ўсе часы казачныя гісторыі — «Гадкае качаня», «Дзюймовачка», «Снежная каралева», «Прынцэса на гарошыне» і шмат іншых — вядомыя і дзецям, і дарослым.

Свята было заснавана па ініцыятыве нямецкай пісьменніцы Йелен Ліпман — заснавальніцай Міжнароднай рады па дзіцячай кнізе (IBBY). У 1967 годзе рашэннем гэтай арганізацыі 2 красавіка і зацвердзілі Міжнародным днём дзіцячай кнігі.

Мерапрыемствы, якія адбыліся ў гэты дзень, мусілі прыцягнуць увагу грамадскасці да дзіцячай літаратуры і падкрэслівалі тую вялікую ролю, якую маюць кнігі ў фарміраванні асобы кожнага дзіцяці, яго інтэлектуальнага і духоўнага развіцця, у выхаванні маральных каштоўнасцяў маленькіх грамадзян.

Варта адзначыць, што дзіцячая літаратура з'явілася параўнальна нядаўна: да сярэдзіны XVII стагоддзя дзецям расказвалі казкі вусна, а само дзіцячае чытанне зводзілася да вывучэння Бібліі. У канцы XVII стагоддзя ў Францыі былі выдадзеныя знакамітыя «Казкі матухны гускі», у якой акадэмік Шарль Перо літаратурна апрацаваў народныя казкі «Папялушка», «Кот у ботах», «Чырвоны Каптурок», «Хлопчык-з-пальчык», «Падарункі феі», «Сіняя барада» і напісаў сваю ўласную.

У XVIII стагоддзі дзеці чыталі ўжо такія знакамітыя сёння творы, як «Рабінзон Круза» Даніэля Дэфо, «Падарожжы Гулівера» Джонатана Свіфта, зборнік усходніх казак «1001 ноч». І толькі ў XIX стагоддзі яны змаглі чытаць спецыяльна для іх напісаныя творы, у прыватнасці — казкі Людвіга Іагана Ціка, Эрнста Тэадора Амадэя Гофмана, братоў Якаба і Вільгельма Грым і Ганса Хрысціяна Андэрсана.

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# Курдыстан: жаночая рэвалюцыя

Мікалай ДЗЯДОК

**Маладыя жанчыны з краін Захаду едуць у Сірыю, каб ваяваць з Ісламскай дзяржавай і... памерці**

У сакавіку гэтага года сусветныя медыя аблязела навіна: у Афрыне, кантоне Сірыйскага Курдыстана, загінула грамадзянка Брытаніі — 25-гадовая анархістка Ганна Кэмпбэл.

На фронце ў Сірыі штодзень гінуць жанчыны-ваяры. Аднак яны абараняюць свой дом, сваю радзіму і сваю рэвалюцыю. Што ж рушыць тымі жанчынамі, хто праязджае тысячы кіламетраў, каб далучыцца да змагарак з ісламістамі?




Фота www.internationalistcommune.com

Ганна Кэмпбэл, грамадзянка Вялікабрытаніі, якая ваявала ў шэрагах Курдскай жаночай міліцыі, вядомай як YPJ.

### Пад сцягам Аджалана

Гісторыя курдскага нацыянальнага руху, рэвалюцыі ў Ражаве і тамтэйшага сацыяльнага ладу непарыўна звязана з імем Абдулы Аджалана — лідара ППК (Працоўнай партыі Курдыстана), якая з 1979 года змагаецца за незалежнасць Курдыстана адразу ў чатырох краінах: Турцыі, Сірыі, Іране і Іраку. Метады змагання ўключалі ў сябе ўзброеную барацьбу, за што цэлым шэрагам краін ППК была прызнаная тэрарыстычнай арганізацыяй.

Аднак галоўная кіруючая партыя Сірыйскага Курдыстану — PYD, фактычна, з'яўляецца афілатам ППК на тэрыторыі Сірыі, а заадно легітымным партнёрам ЗША ў змаганні з ІДІЛ і іншымі ісламістамі.

З 1999 года Абдула Аджалан адбывае пажыццёвае зняволенне ў турэцкай турме на востраве Імралы. Аднак зняволенне не замінае яму заставацца духоўным і палітычным лідарам ППК ды аказваць рашучы ўплыў на яе ідэалогію.

З канца 2000-х Аджалан усё больш пачаў цікавіцца ідэямі лібертарнага камуналізму — сацыяльнага ладу, ідэя якога была распрацаваная амерыканскім анарха-эколагам Мюрэем Букчыным (1921–2006). Аджалан уступіў у ліставанне з Букчыным, і пад яго ўплывам пачаў крытыкаваць нацыянальную дзяржаву, патрыярхат, выказваць клопат пра экалогію. Усё гэта з часам пачало адбівацца і на палітыцы партыі. ППК пачало адыходзіць ад марксізму-ленінізму і ідэі пабудовы сацыялістычнай дзяржавы Курдыстан. Месца новай ідэалогіі заняў выпрацаваны Аджаланам дэмакратычны канфедэралізм, згодна з якім Курдыстан мусіць быць канфедэрацыяй народаў (курдаў, арабаў, асірыйцаў, езідаў, армян ды іншых), на базе наўпроставай дэмакратыі, кааператыўнай эканомікі, усеагульнай свабоднай адукацыі і роўнасці мужчын і жанчын.

Апошні пункт ва ўмовах Блізкага Усходу стаў ледзь не самым рэвалюцыйным. На патрыярхальныя традыцыі племяннога грамадства ў курдскіх рэгіёнах Сірыі накладаліся патрыярхальныя нормы Карана і Суны, што ставіла жанчыну ў стан каласальнай няроўнасці і шматбаковага прыгнёту. Барацьбе з імі Аджалан надаваў і надае ў сваіх палітычных пракламацыях велізарную ўвагу.

Як вынік, у 2013 годзе на тэрыторыі Ражавы ствараецца YPJ — Жаночыя атрады абароны, цалкам незалежныя вайсковыя фармаванні, якія складаюцца выключна з жанчын ад 16 гадоў. Уводзяцца нечуваныя раней нормы пазітыўнай дыскрымінацыі: жанчына ў курдаў можа камандаваць вайсковым звязкам з мужчын і жанчын, а мужчына — не. На сходах жанчын (не толькі ў арміі, але ўвогуле) мужчыны не прысутнічаюць і не маюць права голасу.

Акрамя вайсковых, YPJ выконвае і палітычныя функцыі: выяўляе выпадкі парушэння правоў жанчын, змагаецца з такімі з'явамі, як жаночае абразанне і прымусовыя шлюбы, якія, нягледзячы на поспехі рэвалюцыі, дагэтуль сустракаюцца.

### На антыісламісцкім фронце

Ад моманту стварэння YPJ адразу прыняло актыўны ўдзел у барацьбе з Ісламскай Дзяржавай, якая на той момант была на піку магутнасці. Асабліва драматычнай была абарона Кабані — памежнага горада з 44-тысячным насельніцтвам, у якім атрады YPG і YPJ трапілі ў акружэнне трохразова пераважаючых сіл ІДІЛ (3 тысячы супраць 9 тысяч) і былі пастаўленыя на мяжу знішчэння. На дапамогу курдам былі мабілізаваныя партызаны ППК з Турцыі і атрады іракскіх курдаў «Пешмерга»; ЗША наносіла авіяўдары. Праз пяць з паловай месяцаў курды здолелі прарваць блакаду і адкінуць сілы ісламістаў.

Па зразумелых прычынах, ІДІЛ адчувае да жаночых атрадаў абароны звярыную нянавісць. Ісламская Дзяржава ўспрымае YPJ як парушальніц усіх магчымых нормаў ісламу, да таго ж джыхадзісты вераць: калі маджахед будзе забіты жанчынай, ён не трапіць у рай. Жорсткія кары і здзекі з апалчэнак YPJ, захопленых у палон, — звычайная справа.

Вайна жанчын-курдзянак супраць ісламістаў выклікала і працягвае выклікаць шырокую хвалю падтрымкі ў заходнім грамадстве. На дапамогу Ражаве і яе ўзброеным сілам мабілізуецца курдская дыяспара, левыя, антыфашысцкія і анархісцкія групы па ўсёй Еўропе і не толькі.

Адзінкі, аднак, ідуць яшчэ далей і вырашаюць, што рэпостаў у Фэйсбуку і дэманстрацый мала, і змяняюць утульнае жыццё ў краінах еўрапейскіх дэмакратый на акопнае жыццё пустэльнай Сірыі.

### Эмпатыя і абавязак

Ганна Бохман з Ванкувера ў мінулым — фотамадэль. Зараз ёй 46 гадоў. У 2015-м яна далучылася да атрадаў YPJ. «Гэта з-за таго, што робіць ІДІЛ, і ад таго, што нашы ўрады не робяць нічога, каб яго спыніць, — адказвае Ганна на пытанне «Vice News» аб тым, чаму яна далучылася да YPG. — Я падумала: калі людзі могуць быць добраахвотнікамі ў ІДІЛ, то трэба, каб былі і добраахвотнікі супраць ІДІЛ. «Ільвы Ражавы» (міжнародная група валанцёраў, якая перапраўляе людзей у курдскае апалчэнне) скантактавала мяне з YPJ, і я далучылася да іх у лютым 2015-га. Я сышла ў іракскі Курдыстан і адтуль перайшла мяжу на надзіманай лодцы».

**ІДІЛ адчувае да жаночых атрадаў абароны звярыную нянавісць. Мала таго, што джыхадзісты ўспрымаюць іх як парушальніц усіх магчымых нормаў ісламу, яны таксама вераць: калі маджахед будзе забіты жанчынай, ён не трапіць у рай**

Кімберлі Тэйлар — 27-гадовая брытанка, што вывучала матэматыку ва ўніверсітэце Ліверпуля і была валанцёркай розных сацыяльных і праваабарончых рухаў.

Яна працавала ў лагерах уцекачоў у паўднёвым Іраку і вырашыла далучыцца да ўзброенага змагання супраць ІДІЛ пасля размовы з мужчынам-езідам, які адмаўляўся з'язджаць са свайго месца жыхарства, бо ІДІЛ трымала ў закладніках дзвюх яго дачок.

«У гэты момант я дала сабе абяцанне, што я прысвячу жыццё таму, каб дапамагчы гэтым людзям», — кажа Тэйлар, і прыгадвае ў інтэрв'ю «Гардыян» гісторыю 8-гадовай дзяўчыны з праасадаўскай сям'і, па-зверску забітую ІДІЛ у сірыйскай вёсцы.

Пасля далучэння да YPJ Тэйлар адразу ж накіравалася на фронт — вызваляць «сталіцу ІДІЛ» Раку.

«Я хачу аддаць сваё жыццё за гэта. [...] Гэта для ўсяго свету, для ўсяго чалавецтва, для ўсіх прыгнечаных людзей паўсюль. Гэта не проста ІДІЛ забівае і гвалціць. Гэта сістэматычнае псіхічнае і фізічнае катаванне неймавернай ступені».

Роза са Швецыі далучылася да YPJ, калі ёй было 20 гадоў, і на момант дачы інтэрв'ю «ANF News» знаходзілася ў іх шэрагах ужо больш за два гады, паспеўшы прыняць удзел у многіх баявых аперацыях.

У сябе на радзіме яна працавала ў хімчыстцы. Але калі стала цікавіцца навінамі з Блізкага Усходу яна, па яе ўласных словах, «урэшце зразумела, што адно з самых важных месцаў, дзе жанчына можа прынесці карысць усім астатнім жанчынам і дапамагчы рэвалюцыі — гэта YPJ»: «Маладая дзяўчына, якая далучаецца да іх, вучыцца свабодзе, крышыць сістэму дамінавання і робіцца асобай. Дзяўчаты набываюць жаночы погляд і філасофію. Жаночая барацьба на Блізкім Усходзе ўзмацняецца — і жанчыны вызваляюцца. І жанчыны не спыняцца на гэтым, яны працягнуць барацьбу на перадавой супраць варвараў з ІДІЛ. Быць на фронце — для мяне неабходна. Я хачу падзяліць гэтую вайну, перамогу і асалоду свабоды».

Ніхто не лічыў, колькі жанчын з Еўропы змагаецца ў YPJ, але можна меркаваць, што іх не менш за некалькі дзясяткаў.

Як бачна з размоваў, матывацыя ўсіх змагарак прыкладна аднолькавая. Гэта моцная эмпатыя да ахвяраў Ісламскай Дзяржавы і інтуітыўнае адчуванне справядлівасці той барацьбы, якую вядуць курдзянкі. Палітычныя ідэі — фемінізм, роўнасць, — гэтаксама адыгрываюць ролю, але, як падаецца, стаяць не на першым месцы. Першаснае — жаданне дапамагчы тым, хто ў бядзе, і падаць руку смелым жанчынам, якія супрацьпаставілі сябе джыхадзістам. І тут, дарэчы, варта сказаць, што вярбоўцы такіх ідэалістак моцна дапамагае сама Ісламская Дзяржава — сваёй жорсткасцю, публічнымі забойствамі і катаваннямі. Медыйны імідж, які, паводле задумаў піяршчыкаў ІДІЛ, мусіў застрашыць «няверных», даў адваротны вынік.

У сакавіку 2018-га прэс-служба YPJ паведаміла пра смерць аргенцінкі Алёны Санчэс. Ёй быў 31 год.

15 сакавіка, падчас аперацыі «Аліўкавая галіна» — акупацыі Турцыяй кантона Афрын — ад турэцкага снараду (паводле іншых дадзеных — ад авіяўдару) загінула грамадзянка Вялікабрытаніі, 26-гадовая анархістка Ганна Кэмпбэл.

Варта адзначыць, што гэта толькі тыя выпадкі смерці, якія трапілі ў СМІ.

### Выпадковасць ці тэндэнцыя?

Жанчыны з сытага Захаду едуць паміраць у далёкія пустэчы дзеля змагання з тым, што яны бачылі толькі на экранах лэптопаў і смартфонаў — для прагматычных грамадзян гэта можа падацца глупствам. Аднак для добраахвотніц гэта свядомы выбар, які, дарэчы, кажа нам многае не толькі пра іх маральныя якасці, але і пра сусветныя тэндэнцыі.

Добраахвотнікі-інтэрнацыяналісты на франтах любой, справядлівай і не вельмі, вайны — рэч не новая. Аднак тэндэнцыя росту колькасці жанчын менавіта як ваярак, роўных мужчынам, — відавочна, з'ява апошняга часу, якая прымушае паглядзець на пэўныя асаблівасці.

Першае — усе без выключэння жанчыны адпраўляюцца ваяваць пад уплывам СМІ. Прэса адыгрывае першасную ролю ў матывацыі, рэтрансліруючы жахі, якія робяць ворагі, і геройскі вобраз змагарак-курдзянак. У гэтым сітуацыя ў Сірыі не ўнікальная. Каб рызыкаваць жыццём, для абсалютнай большасці трэба моцная матывацыя. І ў нашым свеце ёй, як правіла, з'яўляецца альбо моцная палітычная ідэя, часта ў звязку з ідэнтычнасцю («курдзянка», «жанчына», «феміністка», «рэвалюцыянерка»), альбо грошы, якія абяцаюць, напрыклад, наймітам вялікіх дзяржаў у проксі-канфліктах.

Другое: глабалізацыя дае свой уплыў — арміі ў месцах узброеных канфліктаў робяцца ўсё больш інтэрнацыянальнымі. На піку існавання той жа Ісламскай Дзяржавы ў ёй знаходзіліся байцы больш чым з 81 краіны, і іншаземцы складалі, па самых сціплых ацэнках, 15 працэнтаў.

У шэрагах курдскага апалчэння ваююць туркі (яны пераважаюць), амерыканцы, канадцы, французы, немцы, англічане і прадстаўнікі многіх іншых краін. Палітычныя групы прадстаўленыя не менш чым чатырма камуністычнымі арганізацыямі і трыма анархісцкімі атрадамі — не лічачы добраахвотнікаў пераважна з ЗША, якія прыехалі проста «мачыць ІДІЛ».

Варта лічыць, што з паскарэннем глабалізацыі, развіццём транспарту, медыя, з павышэннем агульнай мабільнасці насельніцтва колькасць добраахвотнікаў і добраахвотніц з самых розных краін ва ўзброеных канфліктах будзе толькі расці. І што б ні казалі з гэтай нагоды Біблія альбо Каран, жанчыны на вайне — гэта ўсур'ёз і надоўга.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Брытанцы баяцца быць патрыётамі

Напярэдадні Дня святога Георга — нябеснага патрона Англіі, — сацыёлагі правялі апытанне наконт патрыятызму. Вынікі выклікалі ступар. Паводле іх, у краіне назіраецца сталая дэградацыя гонару за радзіму. Толькі 20 працэнтаў рэспандэнтаў адчуваюць гонар за нацыянальную прыналежнасць. Прычым, найбольш абыякавая да ідэяў патрыятызму маладшая генерацыя, дзе патрыётаў толькі каля 18 працэнтаў. Пры гэтым 25 працэнтаў моладзі ўвогуле лічаць, што забабоны патрыятызму не адпавядаюць цяперашняй рэальнасці. Напэўна, лепшая ілюстрацыя сітуацыі ў гэтай галіне — рэйтынг святаў, якія брытанцы лічаць нацыянальнымі. На першым месцы ў гэтым спісе — Кубак Свету па футболе, а на другім — Алімпійскія гульні. Аднак больш за ўсё грамадскасць турбуе, што вялікая колькасць патрыётаў (каля 22 працэнтаў) баяцца дэманстраваць свае погляды на людзях, бо непакоіцца, што могуць стаць аб'ектамі жартаў або ўвогуле ахвярамі гвалту.

**Паводле брытанскай прэсы**

### РАСІЯ. Гарэлкай па санкцыях

Калі верыць расійскай прэсе (прычым, дастаткова сур'ёзнай), Фінляндыя вось-вось адмовіцца ад антырасійскіх санкцый. Прарваць санкцыйны кардон, быццам бы, дапаможа расійская гарэлка. Усё праз новыя правілы вывазу алкаголю з Расіі, якія дазваляюць фінам браць з сабой толькі пяць літраў напою. Абмежаванні ўвялі не так даўно як адказ за тое, што Фінляндыя далучалася да еўрапейскіх санкцый за анексію Крыма. Для фінаў, дзе, паводле статыстыкі, штогод кожны жыхар ужывае ў сярэднім 17 літраў спірту, пяць літраў алкаголю — дробязь. А набываць гарэлку ў мясцовых крамах вельмі нязручна праз не высокі кошт (каля 25 еўра). Такім чынам, у будучым, як спадзяюцца расійскія СМІ, простыя фіны могуць прымусіць урад выйсці з кааліцыі супраць Масквы. Хаця ёсць і іншыя сцэнары. Не выключана, што кампенсаваць недахоп гарэлкі фіны будуць у Прыбалтыцы. Акрамя таго (на гэта спадзяюцца медыкі), дэфіцыт спіртнога можа прымусіць фінскіх алкаголікаў адмовіцца ад напояў, што пойдзе на карысць краіне. Для даведкі, у 2016-м звыш 30% пацыентаў, якія звярнуліся за неадкладнай медыцынскай дапамогай у Фінляндыі, знаходзіліся ў стане алкагольнага ап'янення.

**Паводле расійскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Калі б перамагла казахская БНР?

У Казахстане выйшаў дакументальны фільм «Калі б перамагла Рэспубліка Алаш», які прапануе альтэрнатыўны погляд на гісторыю. У прыватнасці, стваральнікі стужкі спрабуюць фантазіраваць на тэму, што было б, калі б перамагла Алаш-арда — казахскае аўтаномнае дзяржаўнае ўтварэнне, якое існавала ў пачатку XX стагоддзя на тэрыторыі сучаснага Казахстана. Алашская аўтаномія была абвешчаная ў Арэнбургу 5–13 снежня 1917 года на казахскіх зборах і праіснавала да 1920-га. На думку аўтараў стужкі, у выпадку перамогі Алаш-арды Казахстан мог стаць другой Японіяй. Прычым краіна, як адзначаецца ў фільме, магла таксама ўлучыць у свой склад іншыя народы Цэнтральнай Азіі — напрыклад, узбекаў. Насельніцтва такой краіны складала б каля 100 мільёнаў чалавек (сёння ў Казахстане жыве 18 мільёнаў). Натуральна, такая дзяржава была б лідарам Цюркскага свету, і нават магла прэтэндаваць на сяброўства ў ЕС. Праўда, у гэтай фантазіі хапае крытыкаў. Па-першае, цяжка ўявіць, што дэмакратыя магла выжыць у краіне, дзе ніколі не было нават звычайных выбараў. Акрамя таго, праз дамінаванне качавой мадэлі гаспадаркі ў краі банальна не было эканамічнага базіса для дэмакратыі.

**Паводле казахскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. Як клімат палітыку змяніў

Аказваецца, змена клімату можа моцна паўплываць на польскую палітыку. Як вядома, у час апошняй зімы на вуліцы часам было ледзь не летняе надвор'е. Закладнікамі такой кліматычнай блытаніны стаў Яраслаў Качыньскі — лідар урадавай кансерватыўнай партыі «Права і Справядлівасць» (PiS), антыліберальны курс якой крытыкуюць у Еўропе. Высвятляецца, што кіраўнік PiS пакутуе на алергію, якая найбольш непакоіць яго ўвесну. З прычыны таго, што веснавое надвор'е вельмі часта бывала ўзімку, у Качыньскага ўзніклі праблемы. Праз алергію ён некалькі разоў адмовіўся ад удзелу ў важных дзяржаўных мерапрыемствах. У дадатак асабісты доктар Качыньскага жыве не ў Варшаве, а ў Лодзі, што прымушае палітыка ўвесь час пакідаць сталіцу, дзе прымаюцца ўсе палітычныя рашэнні. Чым скончыцца гісторыя з хваробай Качыньскага, пакуль цяжка сказаць. У любым выпадку, польскі палітыкум, у тым ліку апаненты PiS, жадаюць Качыньскаму добрага здароўя.

**Паводле польскай прэсы**

# Перапапахаваць Махно

*Алег НОВІКАЎ*

**Кіраўніцтва Запарожскай вобласці мае намер перавезці з Парыжу і перапапахаваць парэштні славутага анархіста Нестара Махно. Ініцыятыву ўкраінцы ў большасці вітаюць, аднак у яе рэалізацыю слаба вераць.**



Фота www.6a3apob-alex.livejournal.com

Галоўная задача для тых, хто шукае скрыню з парэштамі Махно на парыжскіх могілках Пер-Ляшэз, — не даць зацягнуць сябе ў плынь амерыканскіх турыстаў-тынейджараў. Яны штодня ў вялікай колькасці дэсантуюцца на Пер-Ляшэз, каб ушанаваць памяць пахаванага тут рок-спявака Джыма Морысана. Прах атамана спачывае трошкі ўбаку ад парэштаў Морысана ў сцяне калумбарыя, дзе хаваюць не вельмі багатых нябожчыкаў.

Да іх і належаў Махно, які памёр у 1934-м у ад сухотаў у парыжскай бальніцы ва ўзросце 45 гадоў. Гэтаму папярэднічала амаль дзесяць гадоў палітычнай міграцыі — пасля таго, як Бацька збег з Украіны ў 1921-м ад пераследу чырвоных.

І вось цяпер парэштні Махно плануюць рэпатрыяваць. Пра гэта ў мінулую пятніцу паведаміў кіраўнік Запарожскай абласной дзяржаўнай адміністрацыі Канстанцін Брыль. Як распавёў Брыль падчас нарады ў Запарожскай абласной адміністрацыі, улады вобласці маюць намер ініцыяваць перапахаванне Нестара Махно на яго гістарычнай радзіме — горадзе Гуляй-Поле. Чаму менавіта зараз? Таму што, калі верыць губернатару, цяпер заканчваецца тэрмін арэнды месца на могілках Пер-Ляшэз. Адначасова тым жа Брылем была агучана праграма будучага святкавання вяртання парэштаў атамана на радзіму. Па словах чыноўніка, яна будзе ўключаць афіцыйную частку з нагоды перапахавання скрыні з прахам, а таксама адкрыццё ў Гуляй-Полі помніка легендарнаму земляку.

Рэпатрыяцыя парэштаў атамана прынясе шмат бонусаў, лічыць афіцыйная запарожская прэса. «Відавочна, што магіла Бацькі ў Гуляй-Полі рэальна падштурхне турыстычны інтарэс да рэгіёну. Плюс — з такой «легендай» у райцэнтры можна праводзіць некалькі тэматычных фестываляў на год», — піша афіцыйны абласны сайт.

Праўда, на шляху вяртання парэштаў ва Украіну хапае тэхнічных і прававых праблемаў. Перш за ўсё, незразумела, ці пагодзяцца на такую рэпатрыяцыю французскія анархісты, якія рэгулярна плацяць за арэнду месца на могілках. Па-другое, у Гуляй-Полі ўжо існуе помнік Махно, які быў усталяваны яшчэ ў 2009 годзе. Няўжо губернатар вобласці вырашыў адкрыць той помнік другі раз? Ці, можа, гаворка ідзе пра новы мемарыял? Аднак для райцэнтра два помнікі ў гонар адной асобы, напэўна, зашмат.

Наўрад ці ініцыятары перапахавання Махно не ведаюць пра гэтыя відавочныя супярэчнасці. Таму некаторыя каментатары лічаць, што ніякага перапахавання не будзе. Чыноўнікі папросту займаюцца піярам Махно, каб атрымаць нейкі гешэфт.

Напрыклад, тэма Махно, фігура якога папулярная ў рэгіёне, можа дапамагчы праўладным палітсілам узняць свой рэйтынг напярэдадні прэзідэнцкай і парламенцкай кампаніяў. Нагадаем, што ўкраінскія нацыяналісты яшчэ з 1990-х гадоў спрабуюць прасунуць сваю ідэалогію на Паўднёвы ўсход краіны за кошт тэмы махноўшчыны. Прыкладна ў сярэдзіне нулявых была сфармуляваная думка, што махноўшчына ёсць часткай «вызвольных украінскіх змаганняў», у тым ліку таму, што шмат у чым нагадвае казацкія войны. Прасоўваўся тэзіс, што анархісцкія настроі заўжды былі ўласцівыя ўкраінскай народнай свядомасці.

Натуральна, з пункту гледжання гісторыкаў, такая трактоўка вельмі супярэчлівая. Як анархіст, Махно выступаў супраць любой улады, у тым ліку ўкраінскай, і прытрымліваўся ідэі «свабодных саветаў». Больш за тое, лідар анархістаў некалькі разоў ситуатыўна быў саюзнікам чырвоных. Тым не менш, часткова прыём спрацаваў. Вобраз Махно і сімвалы яго руху актыўна эксплуатаваліся і на Еўрамайдане. Паводле прэсы, апагеем дзяржаўнай прыватызацыі махноўшчыны стаў бронеаўтамабіль «Махно», які быў створаны спецыяльна для АТО на Данбасе. Дакацілася ідэалагічная вайна за Махно і да Парыжа. Мясцовыя анархісты кажуць, што «змагаюцца» з украінскімі нацыяналістамі, якія намагаюцца ўпрыгожваць скрыню Махно жоўта-блакітнымі стужкамі, зрываючы анархісцкія чырвона-чорныя.

Аднак не думаецца, што эксплуатацыя брэнда «Махно» асабліва дапаможа запарожскай абласной адміністрацыі, кіраўнік якой, паводле ўкраінскіх законаў, прызначаецца прэзідэнтам. Усе сацыёлагі Украіны кажуць, што прэзідэнцкі рэйтынг увайшоў у зацяжны штопар. Увосень, калі непасрэдна пачнецца прэзідэнцкая кампанія, і да выбараў увесну 2019-га, чакаецца імклівая эрозія шэрагаў прыхільнікаў Парашэнкі.

Таму пакуль большасць бачыць у ідэі Канстанціна Брыля калі не асабісты піяр, то спробу падаіць бюджэт. Аперацыя з пераездам скрыні сапраўды будзе патрабаваць шмат сродкаў толькі на юрыдычныя працэдуры і паслугі перакладчыкаў. Адсюль вельмі эмацыйныя каментары на форумах запарожскіх СМІ, аўтары якіх заклікаюць чыноўнікаў не піярыцца на Махно, а заняцца канкрэтнымі справамі.

Найбольш арыгінальную версію на тэму перавозу парэштаў Махно ў Гуляй-Поле прапанавала запарожскае выданне «Миг». Яго журналіст пабачыў у гэтай гісторыі лапу... дырэктараў запарожскіх могілак. Маўляў, ніхто на самай справе не збіраецца вяртаць парэштні Махно ва Украіну. Затое са спасылкай на прыклад Францыі можна ўвесці арэнду на запарожскіх могілках. То бок, праз нейкі час патрабаваць ад родных нябожчыкаў плаціць за месца пахавання.

Спекуляцыі пра вяртанне парэштаў Махно для «Новага Часу» пракаментаваў лідар аб'яднання «Саюз анархістаў Украіны» **Вячаслаў Азараў**.

— Думаю, што гэтая навіна (пра перапахаванне Махно) — не больш чым чарговы танны піяр рэжыму. Чыноўнікі шукаюць, на чым яшчэ можна папілаваць бюджэт. І тут яны прыдумалі! О, так, можна за парэштамі Бацькі ў Парыж пакатацца! Наколькі я ведаю, плацяць за месца ў калумбарыі еўрапейскія анархісты, і яны наўрад ці аддадуць Махно прадстаўнікам украінскай улады. Я ўжо не кажу пра тое, што чыноўнікі могуць казаць падчас цырымоніі перапахавання. Пра тое, што яны паспяхова знішчылі ўсе махноўскія запаветы інтэрнацыяналізму і мадэляў самакіравання без чыноўнікаў, за якія змагаліся махноўцы? Не, Нестар Іванавіч, рана табе дадому, занадта шмат дрэні яшчэ ходзіць па тваёй зямлі, — кажа лідар анархістаў Украіны.


Amos Chapple (RFE/RL)

Фота www.ru.krymr.com

# Каму і як адгукнецца Арменія?

Алег НОВІКАЎ

**Пасля падзей у Арменіі ў палітолагаў з'явілася забаўка: спрачацца, ці возьмуць з армян прыклад іншыя постсавецкія дзяржавы, і якія канкрэтна.**

Найбольш фантастычная версія ў гэтым масіве тэорый і аналізаў — за армянскім «Майданам» стаяла Масква. На гэты конт нават ужо прыдумалі анекдот з серыі армянскага радыё. «Армянскае радыё спыталі: «Ці праўда, што прэм'ер Саргсян разгромлены антырасійскімі сіламі?» Радыё адказвае: «Праўда, але ёсць некаторыя недакладнасці. Па-першае, не прэм'ер Саргсян, а газпрамавец Карапецян. Па-другое, не разгромлены, а прыведзены да ўлады. Па-трэцяе, не антырасійскімі, а прарасійскімі сіламі».

Аднак такая тэорыя вельмі спрэчная. Якім бы ні быў Серж Саргсян — кепскім, добрым, ніякім, але Расія яго пастаянна падтрымлівала і рабіла на яго стаўку. Адмаўляць гэта зараз — смешна. Цяперашняя сітуацыя — каласальная рэпутацыйная страта, яшчэ адно звяно ў доўгім ланцужку знешнепалітычных правалаў Расіі. З гэтым згодная большасць каментатараў.

Аднак праспаць «армянскі Майдан» для Крамля — гэта толькі палова справы. Цяпер важна не дапусціць экспарту моды на пратэсты ў тую ж Расію. Нездарма ў сеціве шмат хто намякае Пуціну, што той таксама ўжо затрымаўся ва ўладзе — як той Саргсян.

Напрыклад, на думку газеты «Век», у Арменіі была абкатаная схема расійскага Майдана, фішкай якога сталі новыя сацыяльныя тэхналогіі, цалкам не падобныя на тыя, што практыкаваліся падчас пратэстаў у Кіеве ў 2013–2014 гадах. «Сутнасць новай пратэстнай тэхналогіі — у дэцэнтралізацыі прынцыпу рашэнняў, а паколькі адзінага цэнтра пратэсту няма, то і «гасіць няма каго», — піша выданне. Пра тое, што такі сцэнар для Расіі цалкам верагодны, і, магчыма, ужо пачаў разгортвацца, на думку газеты, сведчаць шматлікія і на першы погляд дэцэнтралізаваныя пратэстныя выступы ў расійскіх рэгіёнах — з самых розных нагодаў.

Абмяркоўвае расійская аналітычная супольнасць і магчымасць ускоснага ўплыву падзей на Каўказе на сітуацыю ў краіне. Напрыклад, інтэрнэт-выданне «Колокол» прагназуе новы раунд азербайджанска-армянскай эскалацыі канфлікту ў Нагорным Карабаху, рэха якога будзе чуваць і ў расійскай глыбінцы. Як мяркуе «Колокол», «колькасць армян у Расіі, паводле дадзеных перапісу, склала 1 мільён 182,4 тысячы, азербайджанцаў — 603 тысячы чалавек. Натуральна, кожны з іх будзе заўзець «за сваіх», і там, дзе яны будуць перасякацца, пачнуцца сутычкі. А цяпер уявім, што да родных, што жывуць у Расіі, дададуцца натоўпы ўцекачоў са сваім горам і расповедамі пра жахі, учыненыя супернікамі. І ў кожнага боку будзе свая праўда. Увогуле, для ФСБ і МУС працы будзе непачаты край». Па логіцы выдання, занятыя праблемамі мігрантаў спецслужбы праслабяць кантроль над «пятай калонай». Дарэчы, азербайджанскія войскі 23 красавіка сапраўды адправілі вайсковую тэхніку на перадавыя пазіцыі.

Цікава, што мандраж у расійскіх медыя кантрастуе з поглядамі ў заходніх СМІ. Так, BBC не верыць, што армянскія падзеі будуць імпульсам для актывізацыі расійскай апазіцыі, бо Крэмль паспеў узяць дыстанцыю. Паводле BBC, «здаецца, упершыню ў гісторыі сучаснай Расіі яна павяла сябе разумна. Расія ўсвядоміла, што змены ў Арменіі непазбежныя, што прыйдуць новыя сілы. (...) А ў Нікала Пашыняна — а ён сёння лідар апазіцыі, — вельмі ўзважаныя, нармальныя адносіны да Расіі. Пра рэакцыю Расіі на сваіх мітынгах яны таксама казалі вельмі стрымана».

Існуе думка, што Арменія — гэта ўверцюра Майданаў у Сярэдняй Азіі, ключавой геапалітычнай мэты ЗША. «У выпадку ўварванне праз Каспій у Сярэднюю Азію і ваеннае замацаванне, амерыканцы змогуць наблізіцца да «мяккага падбрушша Расіі», а заадно да адносна голай спіны Кітая. І гэта стала б фактычным завяршэннем бліскучай геапалітычнай партыі, якую амерыканцы разгулялі ў другой палове дваццатага стагоддзя», — пішуць «Ведомости».

А вось газета «Взгляд» лічыць, што метадычкі арганізатараў пратэстаў у Ерэване будуць выкарыстаны не ў Расіі, а Беларусі, дзе сітуацыя, быццам, падобная да армянскай. «Поўнае неразуменне, што трэба працаваць з вуліцай, з шараговымі людзьмі, а не абмяжоўвацца п'янкамі і гешэфтам з элітай, якая наскрозь схільная да крадзяжоў, прывяло да страты Украіны, вядзе зараз да страты Арменіі, крыху пазней абавязкова прывядзе да страты Беларусі. А больш і губляць няма чаго», — мяркуе «Взгляд».

Калі ўжо гаворка пра Беларусь, то яе кіраўнікам, падаецца, трэба баяцца не толькі вуліцы. Пасля Арменіі ў расійскіх медыя папулярная тэма змены формулы працы ў бліжэйшым замежжы, а дакладней — перастаць рабіць стаўку на карумпаваныя групоўкі. Як піша газета «Life», «Мы павінны выбудоўваць даверлівыя адносіны з армянскім народам, з грамадзянскай супольнасцю, бізнесам і ўладай, а не з асобнымі кланамі. Так што адстаўку Сержа Саргсяна можна толькі вітаць. Як бы цынічна гэта ні гучала, але ад «таксічных» палітычных актываў на постсавецкай прасторы трэба пазбаўляцца, і своечасова «перазагружаць» палітычныя сістэмы нашых саюзнікаў».

Так ці інакш, прывабнасць Майдана па армянскаму рэцэпту залежыць ад таго, як зараз будуць развівацца падзеі ў самой Арменіі. Наконт гэтага адзінай думкі няма. Некаторыя лічаць, што ўсё хутка стабілізуецца. Іншыя баяцца новых палітычных землятрусаў, якія хутка адродзяць сярод грамадзян Расіі і іншых краін СНД «украінскі сіндром».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Жаір Балсанару



63-гадовы кангрэсмен бразільскага парламенту ад сацыял-ліберальнай партыі, кандыдат на пасаду прэзідэнта пакуль мае найбольшыя шанцы заняць вышэйшую пасаду Бразіліі.

Лічылася, што будучыя выбары прэзідэнта перагорнуць вельмі непрыемную старонку гісторыі краіны. Нагадаем, што двое апошніх прэзідэнтаў і цяперашні часовы прэзідэнт апынуліся фігурантамі буйных карупцыйных афёраў. Аднак, магчыма, тыя карупцыянеры будуць выглядаць анёламі на фоне Балсанару. Палітык адкрытым тэкстам шкадуе, што 1985-м у Бразіліі знікла вайсковая дыктатура і настальгуе па катаваннях, якія ўжывалі спецслужбы ў тыя часы.

Таксама кандыдату не падабаюцца сексуальныя меншасці і чарнаскурыя бразільцы, актывістаў якіх ён называе «жывёламі». За кінутую ім падчас сваркі з дэпутаткай заўвагу, што «яна нават не вартая быць ім згвалтаванай», Балсанару быў асуджаны судом да штрафу.

Кумірам Балсанару з'яўляецца Альберта Фухіморы — перуанскі аўтарытарны прэзідэнт, які з дапамогай рэпрэсіўных сродкаў навёў парадак у краіне. Не саромеецца палітык і адкрытага папулізму, накшталт танцаў у касцюме леапарда падчас карнавалу.

Тым не менш, Балсанару мае найбольшую падтрымку (22 працэнты) на фоне іншых прэтэндэнтаў на пасаду кіраўніка Бразіліі, якую, відавочна, чакаюць цяжкія часы ў выпадку яго абрання. Выбары ў Бразіліі пройдуць у кастрычніку.

### Павел Дураў



Усё больш палітычных аглядальнікаў у Расіі лічаць, што прадпрымальнік, праграміст, адзін са стваральнікаў месенджара Telegram, які быў забаронены ў Расіі, хутка стане новым лідарам антыпуцінскай апазіцыі.

На карысць гэтай версіі ёсць шмат фактараў. Пасля таго, як Навальны не здолеў арганізаваць кампанію байкоту выбараў, а Сабчак не стала цэнтрам кансалідацыі апазіцыі, ніша правадыра ліберальнай апазіцыі вакантная. Больш за тое, ніхто сярод апазіцыянераў не мае такога аўтарытэту або харызмы, каб узначаліць антыпуцінскі рух.

Дураў — зусім іншая справа. Скандал вакол забароны Telegram закрануў шматлікіх расіянаў, а інтэрнэт поўны інфармацыі пра непрацуючыя касы і зрывы ў працах банкаў у выніку дзеянняў Раскамнагляду. Плюс Дураў выдатна ведае моладзь, якая пагалоўна сядзіць у Telegram. «Гэты (Дураў) проста ідэальны апазіцыйны лідар — малады, здаровы, непітушчы, тэхнічна падкаваны», — піша адзін з аналітыкаў.

Праўда, ёсць адно «аднак». Высвятляецца, што Дураў з'яўляецца грамадзянінам Вялікабрытаніі. Гэта вынікае з афіцыйнага рэестра фірмаў брытанскага ўрада, дзе прысутнічае створаная ім кампанія.



### Рэджэп Таіп Эрдаган

Кіраўнік Турцыі абвясціў пра датэрміновыя выбары прэзідэнта ў чэрвені гэтага года. Па графіку яны павінны былі адбыцца ўвосень 2019-га.

Відавочна, палітык хоча зняць праблему ўлады ў краіне на наступныя сем гадоў. Кампанія непасрэдна яшчэ не стартавала, аднак ужо абяцае быць вельмі скандальнай. Першым скандалам стала абяцанне Эрдагана праводзіць свае выбарчыя мерапрыемствы і ў замежжы, дзе жывуць каля двух мільёнаў грамадзян Турцыі. Пераважна гэта Германія і Аўстрыя, улады якіх яўна не ў захапленні ад магчымых візітаў турэцкага палітыка.

Эрдаган прасоўвае антыеўрапейскія і нацыяналістычныя лозунгі, што замінае інтэграцыі туркаў у заходняе грамадства. Яшчэ падчас кампаніі 2017-га Вена і Берлін забаранілі агітацыю на сваіх тэрыторыях для палітыкаў дзяржаў, якія не з'яўляюцца сябрамі ЕС. Забарону яшчэ раз пацвердзіў Хейка Маас, дырэктар нямецкага МЗС 22 красавіка.

Адказ не прымусіў сябе чакаць. Эрдаган заявіў, што «барацьбу туркаў за дэмакратыю спыніць будзе не так проста». На думку аглядальнікаў, наўрад ці ён рызыкне асабіста наведаць тую ж Германію, аднак сучасныя тэхналогіі дазволяць яму ўплываць на настроі еўрапейскіх туркаў.


Дзесьці ў Заходняй Беларусі


Праверка дакументаў у палонных польскіх жаўнераў


Чырвоная Армія пад Радашковічамі

# Палонныя неабвешчанай вайны


Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У пачатку Другой сусветнай вайны ў шэрагах Войска Польскага было каля 70 тысяч беларусаў, большасць з іх мужна змагалася з нацыстамі. Пасля 17 верасня 1939 года, калі Чырвоная Армія перайшла «рыжскую мяжу», польскае камандаванне аддала загад сваім часткам эвакуявацца ў Венгрыю, Румынію ці Літву. Савецкі Саюз не абвяшчаў вайну Другой Рэчы Паспалітай, аднак гэта не перашкаджала чырвонаармейцам забіваць польскіх жаўнераў і паліцэйскіх, браць іх у палон і трымаць у лагерах.**

## Рэзервісты з Маладзечна

Адзін з трагічных выпадкаў, звязаных з захопам бальшавікамі польскіх жаўнераў, адбыўся ля мястэчка Гарадок пад Маладзечна. Гэтую гісторыю мы ведаем са слоў былога жаўнера Войска Польскага Уладзіміра Маніда, які нарадзіўся ў вёсцы Хатуцічы ў 1912 годзе. У пачатку 1930-х гадоў менавіта яго сваякі збеглі ў СССР і сталі ахвярамі сталінскіх рэпрэсій.

Падчас усеагульнай мабілізацыі, якая была абвешчана ў Польшчы ў жніўні 1939 года, Уладзіміра Маніда, як і шматлікіх іншых жыхароў Заходняй Беларусі, паклікалі ў польскае войска.

Хлопцу ўжо было 27 гадоў, і за яго плячыма была тэрміновая вайсковая служба. Рэзервістаў сабралі ў гміне Лебедзева, а потым накіравалі ў вайсковы гарадок у Геленава (зараз тэрыторыя Маладзечна). У гэты час 86-ы пяхотны полк Войска Польскага, які да вайны дыслакаваўся там, ужо быў перакінуты на Захад і змагаўся супраць нацыстаў у складзе 19-й пяхотнай дывізіі, якая ўваходзіла ў Армію «Прусы». У маладзечанскім гарнізоне працаваў мабілізацыйны цэнтр, дзе з рэзервістаў фармавалі і рыхтавалі больш-менш баяздольныя часткі. Варта памятаць, што побач знаходзілася мяжа з Савецкім Саюзам, і польскае камандаванне разглядала магчымасць таго, што Саветы выкарыстаюць зручны момант пакветацца за «цуд на Вісле».

Жыхароў Маладзечаншчыны, якія апранулі мундзіры Войска Польскага, спешна рыхтавалі да баявых дзеянняў. Паводле ўспамінаў Уладзіміра Маніда, жаўнераў-рэзервістаў узброілі і амаль кожны дзень вазілі на палігон, дзе тыя ўзмоцнена праходзілі агнявую і страявую падрыхтоўку. «Патронаў не шкадавалі. Мне выдалі кулямёт англійскай вытворчасці. Камандзірам у нас быў падпаручнік Заяц. Да вайны ён быў упраўляючым у маёнтку Беніца, які належаў панам Швыкоўскім», — узгадваў Уладзімір Манід.

14 верасня 1939 года польскіх жаўнераў у Геленава паднялі па трывозе, пашыхтавалі і хутка накіравалі ў раён мястэчка Гарадок, дзе пяхотнікі павінны былі ўзмоцніць падраздзяленні польскага Корпуса аховы памежжа, якія ахоўвалі польска-савецкі кардон. Уладзімір Манід узгадваў, што сярод яго саслужыўцаў было шмат мясцовых беларусаў, ураджэнцаў вёсак Конавічы, Заскавічы, Готкавічы і іншых. Сярод іх хадзілі чуткі, што Чырвоная Армія рыхтуецца прыйсці «на дапамогу Польшчы ў вайне супраць Германіі». «У братоў з БССР страляць не будзем. Але загад ёсць, і яго трэба выконваць, таму ідзем на кардон», — разважалі заходнебеларускія сяляне.

## Палон

Раніцай 17 верасня 1939 года падчас маршу польскай вайсковай калоны ў бок стражніц КАП (верагодна, гэтае падраздзяленне павінна было ўзмацніць гарнізон стражніц «Кучкуны» і «Шапавалы». — І.М.) на шашы, якая вяла з Мінска на Радашковічы, польскія жаўнеры ўбачылі кавалерыстаў у будзёнаўках. Апошнія таксама заўважылі польскіх пяхотнікаў і пайшлі ў атаку. Аднак польская пяхотнікі не збіраліся страляць. Яны не разумелі, што адбываецца.

У разгубленасці быў і камандзір польскага падраздзялення. Пад рулямі бальшавіцкіх вінтовак польскія жаўнеры пачалі складваць сваю зброю. Узамен яны атрымлівалі... бальшавіцкія ўлёткі, дзе распавядалася пра «белапалякаў», «польскіх паноў» і «панскі прыгнёт». Хутка сярод «палякаў» з'явіўся бальшавіцкі палітук, які пачаў тлумачыць палонным жаўнерам, чаму Чырвоная Армія перайшла даваенную мяжу: «Таварышы! 20 гадоў вы знаходзіліся пад прыгнётам пана Пілсудскага і яго зграі, але зараз Чырвоная Армія пад мудрым кіраўніцтвам Сталіна прыйшла вызваліць вас і ўсю Заходнюю Беларусь».

Міма палонных польскіх жаўнераў праязджалі калоны савецкіх танкаў і бронемашын. У адным з вайсковых вазоў ляжаў польскі бела-чырвоны памежны слуп, які чырвонаармейцы, відавочна, выкапалі на мяжы.

Хутка палонным загадалі пашыхтавацца ў калону і пад канвоем чырвонаармейцаў і савецкіх памежнікаў з сабакамі пагналі ў бок Маладзечна. Ужо ўвечары таго ж дня польскіх вайскоўцаў размясцілі ў Маладзечанскай турме, дзе ўжо знаходзіліся паліцэйскія і ксяндзы. Прыкладна праз тыдзень знаходжання ў Маладзечне палонных жаўнераў Войска Польскага павялі на вакзал, дзе іх чакаў чыгуначны эшалон, які складаўся з вагонаў-цялятнікаў. Канвой быў ужо не такі ветлівы, як камісар, які размаўляў з заходнебеларускімі хлопцамі 17 верасня 1939 года. «Будзем страляць, так што ідзіце роўна і не спрабуйце збегчы», — крычалі жаўнеры ў будзёнаўках. Калі былых ужо вайскоўцаў пагрузілі ў вагоны, адзін з іх запытаў у чырвонаармейца, куды іх вязуць. І пачуў у адказ: «На нябёсы, панскае адроддзе».

## Лагер на Віленшчыне

Уладзімір Манід узгадваў, што, маючы кепскія прадчуванні, ваеннапалонныя пачалі ўкладаць запіскі ў гільзы і выкідаць іх на станцыях праз вокны вагонаў. «Можа нехта знойдзе, ды паведаміць сваякам», — думалі заходнебеларускія хлопцы. Цягнік рухаўся ў бок Вільні. Падчас руху здараліся «эксцэсы»: на станцыі Залессе эшалон спыніўся і «пасажыры» вагона, дзе ехаў Уладзімір Рыгоравіч, пачулі стральбу. Аказалася, што некалькі палонных паспрабавалі збегчы. Чырвонаармейцы пачалі страляць спачатку па тых, хто пабег, а потым вывелі тых, хто быў у вагоне, і расстралялі з кулямётаў. Колькі людзей тады загінула, ніхто не ведае. Кажуць, што і сёння побач са станцыяй ёсць непрыкметны крыж над магілай, дзе пахаваныя ваеннапалонныя той неабвешчанай вайны.

Урэшце польскія жаўнеры з-пад Маладзечна прыбылі ў Меднікі пад Вільняй. Там, на тэрыторыі старога замка, бальшавікі арганізавалі лагер для ваеннапалонных. Вось як падобнае месца апісваў адзін з карэспандэнтаў савецкай газеты «Чырвоная зорка»: «У толькі што арганізаваны лагер я прыехаў позна ўвечары. Групы людзей у зялёных і сініх шынялях, у фуражках з доўгімі казыркамі стаялі паўсюль.

Сярод іх без цяжкасцяў можна было адрозніць жаўнераў, апранутых у зялёныя фрэнчы, у ботах з абмоткамі, афіцэраў, у форме з дабротнага сукна, і паліцыянтаў, начапіўшых сінія картузы з брылямі, абцягнутымі металёвым кантам. Тут жа мільгалі людзі ў цывільных касцюмах. Гэта былі тыя афіцэры, якія баязліва збеглі з частак, пераапрануўшыся ў цывільнае. Прыглядзеўшыся ўважліва, няцяжка было заўважыць, што групы афіцэраў трымаліся ўбаку ад жаўнераў, не жадаючы размаўляць з імі». Адзначым, што асобы ў грамадзянскай вопратцы — гэта, хутчэй за ўсё, рэзервісты, якія не паспелі атрымаць уніформу і якіх «узялі» разам з іншымі жаўнерамі Войска Польскага ў гарнізоне.

У Медніках, паводле сведчанняў Уладзіміра Маніда, знаходзілася вялікая колькасць польскіх ваеннапалонных і цывільных асоб. Хутка бальшавікі пачалі дапытваць вязняў, цікавіліся, якую пасаду яны займалі ў войску ці ў цывільным жыцці. Афіцэраў вылучылі і перавялі ў іншую частку лагеру. Асабліва цікавіліся «адукаванымі» людзьмі, тымі, хто меў 7–8 класаў сярэдняй ці вышэйшую адукацыю. Пасля допытаў гэтыя людзі больш не вярталіся ў баракі. Частку зняволеных накіроўвалі ў Асташкаўскі і іншыя лагеры.

Як вядома, Сталін «падараваў» Віленшчыну Літоўскай рэспубліцы, пры гэтым Меднікі апынуліся ў складзе БССР. Аднак ненадоўга: у кастрычніку 1940 года горад увайшоў у склад Літоўскай ССР. Прыкладна ў гэты час Уладзімір Манід апынуўся на волі.

Праз год пасля далучэння Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны да СССР у газеце «Чырвоная зорка» адзначалася, што ў выніку «вызвольнага паходу» ў савецкі палон трапілі 10 генералаў, 52 палкоўнікі, 72 падпалкоўнікі, 5131 афіцэр, 4096 падафіцэраў і 181233 шарагоўцы. Аднак, паводле меркавання польскіх даследчыкаў, усяго ў руках бальшавікоў тады апынулася каля 230 тысячы чалавек (ад генералаў да шарагоўцаў). Частцы гэтых людзей (асабліва шарагоўцам) пашчасціла, і іх вызвалілі. Некалькі дзясяткаў тысяч афіцэраў Войска Польскага, польскай дзяржаўнай паліцыі і КАП былі знішчаны ў Катыні, Медным, Быкоўні, Пяціхатках і мінскіх турмах. Вялікая колькасць падафіцэраў (сярод якіх былі і беларусы) былі рэпрэсаваныя і апынулася ў лагерах ГУЛАГу.


Чырвонаармейцы вядуць захопленых у палон пад Лідай польскіх пілотаў

**Аўтар выказвае шчырую падзяку Віктару Голубу за прадстаўленыя матэрыялы.**

# Краязнаўчы музей у Стоўбцах: пажаданы ці неабходны?

Ігар ІВАНОЎ

**Стоўбцы — адзіны раённы цэнтр Міншчыны, дзе няма краязнаўчага музея.**

У кастрычніку 2016 года Стоўбцы ўзрушыла беспрэцэдэнтная навіна — падчас навукова-практычнай канферэнцыі «Стаўбцоўшчына — гісторыка-культурная спадчына наднёманскага рэгіёна», зладжанай Інстытутам гісторыі Акадэміі Навук Беларусі, была прапанавана новая дата заснавання Стоўбцаў.

Кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт III 20 чэрвеня 1593 года надаў прывілей удаве крычаўскага старосты Мікалая Слушкі на правядзенне новых таргоў ды кірмашоў, дзе згадваецца новае месца «сверждзьскае над Нёманам». Гісторык-архівазнаўца Андрэй Латушкін лічыць гэта першым дакументальна засведчаным узгадваннем Стоўбцаў. Такім чынам, мястэчка памаладзела на 82 гады (папярэдняя дата — 1511 год).

Наколькі важнай у краязнаўчым вывучэнні краю з'явілася гэтая падзея, настолькі амбівалентным было ўспрыняцце яе месцічамі. Стагоддзе туды — стагоддзе сюды, у свядомасці большасці ўспрыняцце пачатковай кропкі гісторыі горада заўсёды балансавала паміж Стоўбцамі — бацькаўшчынай Коласа і «польскім часам», які пакінуў нашчадкам будынак вакзала і дамы ў «закапанскім стылі». Слушкі, Чартарыйскія... Пасля знішчэння ў 1950-х гадах Дамініканскага касцёла адзіным матэрыяльным успамінам пра часы знакамітых землякоў засталася Святаанінская царква на пагорку з цэнтральнай плошчай. Адышла ў забыццё гісторыя гандлёвых Стоўбцаў, і на пытанне, чаму на гербе горада віціна, мінак, хутчэй за ўсё, адкажа: «Дык, пэўна ж, Нёман побач».

У пратаколе канферэнцыі паўстала графа: «Заснаваць у Стоўбцах краязнаўчы музей» — ініцыятыва даўно не новая. Сёння ў экскурсійных маршрутах Стоўбцы побач з Мікалаеўшчынай разглядаюцца як «Коласаўскія мясціны», дзе мястэчка — не больш, не менш — прыдатак да былой вёсцы Акінчыцы, дзе нарадзіўся пясняр (у 1977 годзе вёска была ўключана ў склад горада). Краязнаўчы музей як месца, што раскрывала б лёс краю, на жаль, так і не склаўся.

## Музей — гэта не будынак

Пратакол канферэнцыі прадугледжваў заснаванне аргкамітэту па стварэнні музея, у які ўвайшлі прадстаўнікі аддзела культуры, райвыканкама, мясцовыя краязнаўцы, ініцыятыўная моладзь. Менавіта аргкамітэту ў задачу ставілася распрацоўка канцэпцыі будучага музея — прынамсі так гэта разумелася людзьмі, якія дагэтуль не мелі дачынення да музейнай справы.



Дом Туніка, Першамайская,2



Стоўбцы, кірмаш

Забягаючы наперад, адзначу відавочную праблему, з якой сутыкнуўся аргкамітэт: недакладнае разуменне сутнасці музейнай справы, немагчымасць правільна сфармуляваць функцыі музея, адштурхнуўшыся ад якіх можна было б планаваць канкрэтныя захады па арганізацыі ўстановы. Ва ўсведамленні большасці, музей з'яўляецца лакалізаваным месцам, а не інстытутам. Экспазіцыяй, а не матэрыялізаванай справай. Сапраўды, для чалавека, далёкага ад музеязнаўства, паняцце музея засяроджваецца перш за ўсё на матэрыяльным увасабленні працэсу, а не на самім працэсе. То бок, калі казаць утрыравана, музей — гэта месца (будынак, памяшканне), куды можна прыйсці і штосьці ўбачыць. Знаёмыя з дзяцінства асацыяцыі, але менавіта імі кіруюцца людзі, якія, не маючы адпаведнай адукацыі, намерваюцца стварыць музей.

Таму аргкамітэту трэба было ўсвядоміць, чым з'яўляецца музей і музейная справа, музейны прадмет і музейны фонд.

## Ці ёсць што паказаць?

Пакуль прадстаўнікі райвыканкама разглядалі магчымасць прыцягнення сродкаў з дзяржбюджэту, чальцы аргкамітэту правялі папярэдні ўлік прадметаў музейнага значэння. Прадметы збіраліся цягам апошніх дваццаці гадоў, сёння яны захоўваюцца ў Доме культуры Старога Свержня і Новаколасава — пасёлках Стаўбцоўскага раёна. Гэта археалагічныя артэфакты, знойдзеныя Міхасём Чарняўскім падчас раскопак ля вёскі Русаковічы, сялянскія пабытавыя рэчы, сельгаспрылады, падручнікі на польскай мове, фотаздымкі, прадметы часоў Вялікай Айчыннай вайны. Прадметы разнапланавыя, большасць — этнаграфічнай тэматыкі, вялікая колькасць сучасных малюнкаў, вырабаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, сувенірных выданняў кніг і г.д. Частка прадметаў, што захоўваюцца ў Старым Свержні, прадстаўлены ў выглядзе мастацкай галерэі «Дубрава».

Пры абмеркаванні пытання юрыдычнага афармлення музея паўстала праблема адсутнасці памяшкання для фондасховішча, якое магло б адпавядаць устаноўленаму рэгламенту і быць дастаткова вялікім. Зразумела, што пакоі Дома культуры, разлічаныя на правядзенне адукацыйных заняткаў, не могуць задаволіць патрабаванняў па захоўванні музейных калекцый.

Да таго, як памяшканне з'явіцца, метадысты мінскага абласнога музея далі рэкамендацыі па часовым афармленні выставачнай галерэі ў Стоўбцах пры мясцовым аддзеле культуры, што разглядалася як пераходны этап да афармлення ўласна музея. Трэба адзначыць, што парады, пры сваёй слушнасці, не адпавядалі першапачатковай задачы аргкамітэта, хоць і былі прынятыя большасцю яго чальцоў. Некаторыя заўважалі, што «часовы» статус галерэі можа змяніцца на «пастаянны», і «часовая» галерэя ў выніку заменіць сабой паўнавартасны музей, задаволіўшы райвыканкам і адсунуўшы пытанне краязнаўчага музея на нявызначаны тэрмін.

## І будынак таксама

У якасці памяшкання, пакуль яшчэ патэнцыйнага, прапанаваны першы паверх двухпавярховага дома па вул. Першамайская, 2, які раней арандаваўся пад краму. Будынак пачатку XX стагоддзя на момант пабудовы быў адным з нешматлікіх мураваных дамоў, што атачылі плошчу з чатырох бакоў. Гісторыя дома звязана з сям'ёй Тунік — вядомай у пачатку XX стагоддзя яўрэйскай фаміліі ў Стоўбцах. Тунікі займаліся гандлем: на першым паверсе дома знаходзіліся мясная лаўка і фотаатэлье: раней кожны са сваім асобным уваходам.

Пры абмеркаванні будучых экспазіцыйных памяшканняў было прапанавана пайсці шляхам музеефікацыі архітэктурных аб'ектаў, якія захаваліся абапал цэнтральнай плошчы. Дзякуючы таму, што за апошнія 20–30 гадоў плошча не была забудаваная шматпавярховымі дамамі (за выключэннем гіпермаркета, які сёння моцна дысаніруе з гістарычнай забудовай), цэнтр Стоўбцаў захоўвае атмасферу былога мястэчка, якую можна было б выкарыстаць для развіцця турыстычнага патэнцыялу не толькі Стоўбцаў, але і шляху Мір–Нясвіж. Але, зразумела, такі праект патрабуе выдаткаў, і першапачатковай задачай аргкамітэта было распрацаваць прапановы па засваенні першага паверха «дома Тунікаў» для мастацкай галерэі, якая пасля юрыдычнага афармлення краязнаўчага музея паслужыла б адным з экспазіцыйных памяшканняў.

## Задума добрая, але...

Сутнасць прапаноў заключалася ў наступным. Першы паверх дома падзяляўся на тры зоны: інтэрактыўную, залу часовых выставаў і залу пастаяннай экспазіцыі. Інтэрактыўную зону планавалася зрабіць у выглядзе фотаатэлье пачатку XX стагоддзя з маляваным «заднікам», інвентаром для фатаграфавання, строямі ў гарадскім стылі. Сям'я Тунікаў мела дачыненне да фатаграфіі, у мясцовых старажылаў нават захаваліся фотаздымкі з адмысловай пячаткай майстра (Азраэль Тунік).

У залу часовых выставаў плануецца набыць сучаснае выставачнае абсталяванне: вітрыны, шафы, стэлажы, прыстасаванні для падвешвання карцін і г.д. Адной з ідэяў было раскрыць гандлёвую гісторыю горада, прадэманстраваць фотаздымкі віцінаў на Нёмане, размясціць сканаваныя картаграфічныя матэрыялы (захоўваюцца ў НГАБ) з пазначэннем размяшчэння былой стаўбцоўскай прыстані, параўнання шырыні поймы Нёмана сто гадоў таму і сёння, прадэманстраваць фатаграфічна падмуркі старых складоў для тавараў, якія размяшчаліся ўздоўж ракі (парэшткі іх можна пабачыць і цяпер). Ёсць фотаздымкі цэнтральнай плошчы падчас кірмашоў у пачатку XX стагоддзя — гэты матэрыял можна было б выкарыстаць для афармлення экспазіцыі.

Трэцюю залу прапанавана аформіць метадам ансамблевай пабудовы экспазіцыі і прадэманстраваць, як выглядала лаўка скабяных тавараў, выкарыстаўшы прадметы музейнага значэння, спраектаваць і зрабіць вітрыны, размясціць вагі, гандлёвае начынне.

Трэба адзначыць, што гандаль звязаны з гісторыяй Стоўбцаў ад самага пачатку заснавання месца, а выкарыстанне водных шляхоў зносін з'яўлялася адной з галоўных умоваў эканамічнага развіцця краю. Горад узнік як гандлёвае месца, прамакутнік гандлёвай плошчы сведчыць аб першапачатковай задуме формы, выверанаым плане будучага мястэчка. Да сярэдзіны XIX стагоддзя водны шлях па Нёмане быў асноўнай гандлёвай артэрыяй краю. Таму невыпадкова, што тэматыка воднага гандлю мусіць быць адлюстравана ў экспазіцыі будучага музея, калі не артэфактамі, то, прынамсі, ілюстратыўна, з дапамогай макетаў.

## Праблемы ва ўсім

Асноўнай праблемай для музея з'яўляецца пытанне юрыдычнага афармлення. Галоўная перашкода — адсутнасць умоваў для ўтрымання музейных калекцый: прадметы музейнага значэння, сабраныя намаганнямі папярэднікаў, раскіданы па ўсім раёне, іх пашпарты альбо адсутнічаюць, альбо складзены непрафесійна.

Сур'ёзна паўстала пытанне з фінансаваннем будучага музея. Праз досвед стасункаў з мясцовым Домам культуры можна зрабіць выснову пра адсутнасць трывалай ініцыятывы з боку яго адміністрацыі. Прапановы наконт музея і музейнай экспазіцыі былі сфармуляваны краязнаўцамі і зацікаўленымі людзьмі, але яны не маюць дачынення да асяроддзя, якое прымае рашэнні. Аргкамітэт праз 2–3 сходы пазбавіўся прадстаўнікоў райвыканкама і пераўтварыўся ў месца, дзе выказаныя прапановы «павісаюць у паветры».

З пазітыўных момантаў можна адзначыць зацікаўленасць мясцовага насельніцтва. Некалькі зладжаных экскурсій па гістарычных месцах Стоўбцаў выявілі неабыякавасць мясцовых жыхароў да гісторыі і гатоўнасць падтрымаць грашовы збор на музей, калі ён будзе ініцыяваны гарадской уладай.

Застаецца спадзявацца, што бліжэйшыя год-два стануць вырашальнымі ў гэтай справе. Бо стварэнне музея — не толькі неабходнасць, але і справа гонару, улічваючы, што Стоўбцы — адзіны раённы цэнтр Міншчыны, дзе па сёння няма краязнаўчага музея.

# «Чарнобыль душы полымем апёк»



**Па гарызанталі:** 1. Стаянка турыстаў. 4. Малакроўе. 7. «— Мама, мама,\\ Там, у Зоне,\\ Засталася... Галя.\\ — Спаць, дачушка». З верша А. Камароўскага «Чарнобыльская калыханка». 12. Круты спуск, абрыў. 13. Цяжкае дыханне. 14. «Ёсць карта,\\ Дзе нельга збіраць ...». З верша Р. Барадуліна «Дазвол». 17. «І едуць зноў перасяленцы\\ Дамоў, ды толькі на...». З верша М. Ляшчуна «Апошняе перасяленне». 19. Знак узнагароды за выдатныя заслугі. 21. Прадмет, надзелены звышнатуральнай магічнай сілай. 22. Вялікія нажніцы. 23. Ніжняя частка доменнай печы. 24. Лятучая мыш. 26. Тое, што і ласо. 28. «Чарнобыльскія ...». Кінастужка кінарэжысёра І. Бышнева (2005 г.) аб чарнобыльскай зоне. 32. «Узнялося воблака грыбам,\\ Узнялося воблака — ...,\\ Узнялося сеяць атруту». З паэмы З. Гасціловіч «Журавенька». 36. Спецыяльна падабраная сумесь чаго-небудзь. 37. Спецыяліст па перадачы і прыёму паведамленняў па радыё. 38. Музычная п'еса.

**Па вертыкалі:** 1. «Тут ядзерна дрэмле ў атруце ...». З верша М. Мятліцкага «З пакутнай, атручанай небам зямлі». 2. «Чарнобыль смуткам затуманіў ...,\\ Чарнобыль душы полымем апёк». З верша М. Маляўкі «Будзем жыць». 3. Жыццёвая сіла. 5. «Калі б не тая ... красавіка,\\ Што горыччу дыхнула неспазнанай». З верша В. Яраца «Балада Палесся». 6. У некаторых народаў Азіі багіня зямлі і ўрадлівасці. 6. Нота. 9. ... або цырк. Паглыбленне ў грэбеневай частцы гор. 10. «Ад радыяцыі да смерці — ...\\ І кане ў нябыт усё жывое». З верша Н. Аксёнчык «Палессе роднае, жыві!». 11. Тое, што і жбан. 15. «У ветры дзікім — не загінеш,\\ чарнобылем не зарасцеш». З верша Ул. Дубоўкі «О Беларусь, мая ...». 16. «Чуюць ..., чуе Брагін\\ Жураўліны крык ля аблок». З верша В. Зуёнка «Урок паўтарэння». 18. Той, хто піша кнігі, стварае музыку. 20. У красавіку ... праходзіць, сонца грэе — тады ўсякі не збяднее (прыказка). 23. «Больш за ўсё ... выпала на Беларусь,\\ На маленькую нашу Радзіму». З верша С. Бузуна «Трагедыя Чарнобыля». 25. «Я ўзіраюся ў зорнае ...\\ Над мёртвымі вёскамі\\ Гомельшчыны і Магілёўшчыны». З верша А. Канапелькі «Пілоту». 27. «За ракою — пыхкае ... .\\ Без людзей пагорбіліся хаты». З верша А. Грачанікава «Радыяцыя — нябачны акупант». 29. Дробныя каменьчыкі. 30. Інертны газ. 31. Сімвал паэтычнай творчасці. 33. Доля. 34. Круты бераг, лагчына. 35. «Што ў вясняным частазвоне кропель — \\... ці стронцый? Цэзій ці палоній?». З верша А. Вялюгіна «Вясна трывогі нашай».

**Склаў Лявон Целеш. г. Дзяржынск**



**Адказы на крыжаванку «Пад сцягам бел-чырвона-белым» (НЧ, 10 ад 23 сакавіка):**

**Па гарызанталі:** 1. Воля. 5. Крук. 7. Праўдалюб. 8. Настой. 10. Бог. 11. Статус. 13. Рада. 15. Сіла. 16. Слова. 17. Народ. 19. Акатыш. 21. Сад. 23. Парада. 25. Карэктура. 27. Норд. 28. Коні. 29. Кіламетр. 30. Альтанка.

**Па вертыкалі:** 1. Вясна. 2. Край. 3. Адно. 4. Люкс. 6. Краса. 9. Свабода. 12. Талерка. 14. Ага! 15. Сын. 16. Смаленск. 18. Драбніца. 20. Шчасце. 22. Аркуш. 23. Пароль. 24. Арол. 26. Горн.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №73

Падпісана да друку 27.04.2018. 8.00. Наклад 2500 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушоў. Кошт свабодны.